


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

30 КРАСАВІКА 1999г. № 17/3997 КОШТ 15000 РУБ.







# Viva la Gajda!

ПЕРШАЯ ЛЭДЗІ АПЕРЭТЫ

*Партэрныя крэслы...*
*будуць парыпваць,*
*Пакуль над аркестрам*
*Не ўспыхне маланкаю*
*першая скрыпка!*
*Нібыта збаўненне,*
*Нібы з нематы выбаўленне...*
*Няхай на імгненне!*
*Жыццё — за такое імгненне...*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

Калісьці я пачуў прыгожую, хоць і досыць дзіўную казку-прыпавесць. Паводле яе, жыла на свеце лялька, зробленая з... солі. І як у кожнай жывой істоты, была ў яе запаветная мара — убачыць мора. Ляльку нарэшце прывезлі да мора, яна ўвайшла ў ваду і, натуральна, пачала растварацца ў ёй. І вось, стоячы ў вадзе па шыю, яна раптам радасна ўсклікнула: "Людзі, я шчаслівая! Я нарэшце ведаю, што такое мора. Мора — гэта я!"

Так ужо склалася, што нам спрадвеку наканавана плаваць у прэснай вадзе штодзённых клопатаў, сварак, звадак, жыць у вечнай пагоні за прывідным поспехам. І гэта вялікае шчасце, што ёсць сярод нас людзі, якім дадзеная зайздросная здольнасць насычаць будзённае прэснаводдзе існавання сваім розумам, сэрцам, талентам; насычаць душою, ствараць **мора** жыцця.

Да адной з такіх Богам і лёсам пазначаных асоб днямі прыходзіць юбілейны май. Зрэшты, для заўзятых тэатралаў ды сталых наведнікаў Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь гэта — сакрэт полішынеля, бо менавіта сюды яны прыходзяць на хвалюючыя спатканні з каралевай чардаша — народнай артысткай Наталляй Гайдай.

*(Працяг на стар. 10—11)*



# КОЛА ДЗЁН

***Заўтра — 1-га мая, свята вясны і працы. За савецкім часам было б і напярэдадні, і ў само свята нямала галасу і транспарантна-цягавай стракатасці. Сёння ж паўсюдна — ціха. Адно што — маладая зеляніна. Бо — ва-ўсю буяе вясна. Бо вясна (прыгадаем пачатак "Уваскрасення" Л. Талстога) і ў горадзе вясна, абуджэнне прыроды, як ні знішчаюць яе тут, як ні нявечаць, як ні хаваюць пад бетонам, каменем, асфальтам, як ні атручваюць усё жывое, што лятае, поўзае, бегае, скача. Ды, на жаль, абуджэнне ў прыродзе не спараджае такога ж светлага і радаснага пачуцця ў чалавечых душах. Вясна не прынесла людзям палёгкі. Хутчэй наадварот: падкінула новыя жыцейскія праблемы, новыя выдаткі, новыя клопаты аб тым, як звесці канцы з канцамі. І сёлетнія вясновыя рэаліі выклікаюць не мажорныя паэтычныя асацыяцыі-рэмінісцэнцыі, а нешта сумнае, горкае, іранічна-з'едлівае, як, скажам, у Сашы Чорнага:***

*Сияет солнышко. Ей-Богу, ничего!*
*Весенняя лазурь спугнула дым и копоть,*
*Мороз уже не щиплет никого,*
*Но многим нечего, как и зимою, лопать...*
*Деревья ждут... Гниет вода,*
*И пьяных больше, чем всегда...*

## ПАДРАХУНКІ ТЫДНЯ

Вынікі работы народнай гаспадаркі краіны падведзены на пасяджэнні Савета Міністраў з удзелам Прэзідэнта. У прамысловасці быццам бы дасягнуты прагнозныя паказчыкі. Але ў сельскай гаспадарцы, асабліва ў жывёлагадоўлі, становішча застаецца надзвычай складаным. Знізіліся таксама аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва, хутка нарастаюць інфляцыйныя працэсы, скарачаюцца валютныя паступленні. А. Лукашэнка даў рэзка негатыўную ацэнку рабоце ўрада і запатрабаваў ад яго аператыўных і выччарпальных мер па выпраўленні сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Ці ж дапаможа гэта? Вось ужо амаль пяць гадоў гэтыя патрабаванні, нават у самай пагрозлівай форме, не прыносяць асязальных вынікаў...

## ЗМЯНШЭННІ ТЫДНЯ

Ужо леташнія пасяўная і ўборачная кампаніі праходзілі, як цяпер модна гаварыць, з напругай: не хапала тэхнікі і глебаапрацоўчых агрэгатаў. Восенню шмат дзе не быў вывезены на поле гной, не паднята зябліва. Сёлета ж сітуацыя з тэхнічнай узброенасцю хлебаробаў яшчэ больш пагоршылася. Трактароў выйшла на поле менш на 4,1 тысячы, аўтамабіляў — на 3,2 тысячы, колькасць сеялак скарацілася на 1,3 тысячы, плугоў — на 1,6 тысячы, культыватараў — на 1,9 тысячы, барон — больш чым на 5 тысяч, бульбасаджалак — на 400 штук. Ці ўзарэцца і пасеецца ўсё своечасова і якасна? Вясна ж, кажуць сіноптыкі, ідзе дружная...

## ІНСПЕКЦЫЯ ТЫДНЯ

У Мінск прыбыла дэлегацыя Еўрапейскага Саюза, у якую ўваходзяць прадстаўнікі Германіі, Аўстрыі, Фінляндыі, кіраўнікі рэгіянальных упраўленняў ЕС. Госці з Еўрасаюза маюць мэтаю ўдакладніць сітуацыю ў Беларусі ў сувязі з працяглым канстытуцыйным крызісам. Ці ўдасца інспектарам змякчыць крызіс, вымусіць улады і апазіцыю пачаць урэшце канструктыўны дыялог?

## МАШКАРА ТЫДНЯ

Першыя цёплыя веснавыя дні прынеслі згаладалым калгасным кароўкам не толькі магчымасць пагрэцца на сонейку і скубянуць першую сакавітую траўну, але і непасдзяванае насланнё — машкару. Паўтарылася бяда 1996 года. Літаральна за лічаныя дні тысячы кароў захварэлі ад укусаў крывасмокаў, сотні і сотні давялося прырэзаць. Галоўная ветэрынарная служба заспакойвае калгасных спецыялістаў: неабходныя лячэбныя прэпараты ў краіны ёсць. Але ці ўсюды? І чаму людзі аказаліся гэтак непадрыхтаваны да нечаканай бяды? Чаму ўсё ж столькі жывёлы давялося пусціць пад нож? А і без таго за першы квартал сёлетняга года пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася па краіне на 133 тысячы галоў.

## ФАКТ ТЫДНЯ

Каэфіцыент дзіцячай смяротнасці (ён разлічваецца на тысячу гэтак званых "жыванароджаных") у Беларусі — 12, у Расіі — 17, на Украіне — 14. Здавалася б, можна суцешыцца. Але ж у Чэхіі, скажам, паказчык гэты — усяго 6. Вось і атрымліваецца, што падстаў для суцяшэння якраз і няма.

## ПАСТСКРЫПТУМ ТЫДНЯ

Падсумаваны першыя вынікі нядаўняга традыцыйнага (калісьці Ленінскага) суботніка. У друку зноў, як і штогод, стракацяць лічбы. Скажам, такія: у Мінску на рабочых месцах і на добраўпарадкаванні горада працавала каля 550 тысяч мінчан, у тым ліку амаль 100 тысяч студэнтаў і навучэнцаў, прадпрыемствамі прамысловасці выпушчана прадукцыі на 470 мільярдаў рублёў, ажыццёўлена пададных работ на 60 мільярдаў рублёў. Ах, як мы любім па-ранейшаму рапартаваць ды дакладваць аб поспехах! А вось калі даходзіць да канкрэтнага плёну тых ці іншых мерапрыемстваў, інтанацыі часта вельмі і вельмі мяняюцца...

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Да ўдзельнікаў нядаўняга з'езда Таварыства беларускай мовы звярнуўся Міхаіл Чыгір. Асаблівы ўсплёск апладысментаў у дэлегатаў і гасцей з'езда выклікалі вось гэтыя словы са звароту: "Я з усёй перакананасцю заяўляю ўсім, хто чуе мяне: моваю Беларусі XXI стагоддзя будзе беларуская мова! Хай жыве нашай працаю, нашай шчырасцю і нашым розумам Беларусь!"

## ІДЭЯ ТЫДНЯ

Маецца на ўвазе нацыянальная ідэя, "знойдзеная" ў Гродне, дзе прайшла навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Беларуская нацыянальная ідэя". Удзельнікі яе пагадзіліся, што тэрміну беларускай нацыянальнай ідэі ў шырокім, навуковым, і вузкім, масавым яго разуменні адпавядае лозунг "Беларусь — наш еўрапейскі дом", у якім арганічна спалучаюцца адвечныя і святыя для беларуса каштоўнасці: незалежная ўласная краіна, здавён інтэграваная ў еўрапейскую супольнасць як самастойная старажытная дзяржава са сваёй гістарычнай хрысціянскай спадчынай і нацыянальнымі асаблівасцямі, і ў гэтым доме гаспадарыць талерантны беларускі народ, ветлівы да гасцей і нязломны для прыхадняў...

---

КАНТАКТЫ

# На Пскоўскай зямлі

Пскоўская вобласць стала першым з шэрагу расійскіх рэгіёнаў, куды скіравалі свае, так бы мовіць, братэрскія, дыпламатычныя памкненні кіраўнікі Беларускага саюза пісьменнікаў і Беларускага літфонду. Па запрашэнні пскоўскага губернатара Яўгена Міхайлава ў суседні з Віцебшчынай расійскі абласны цэнтр наведаліся намеснік старшыні пісьменніцкай арганізацыі Беларусі Навум Гальпяровіч, старшыня праўлення Літфонду, намеснік старшыні пісьменніцкага саюза Уладзіслаў Мачульскі, а таксама галоўны рэдактар беларускай маладзёжнай газеты "Чырвоная змена" Алесь Карлюкевіч.

Мэту візіту можна адназначна акрэсліць як азнаямляльную. Сёння ў пісьменніцкім асяродку Расіі, на вялікі жаль, працягваюцца разбуральныя ў арганізацыйным плане працэсы. Існуе ці не дзесяць усерасійскіх пісьменніцкіх арганізацый. Безумоўна, кожны мае права на ўласнае вызначэнне. Але нам (у дадзеным выпадку — беларускай пісьменніцкай арганізацыі) відавочна, хацелася б мець сталых, трывалых партнёраў. Хаця б на ўзроўні рэгіянальных аб'яднанняў. Масква, пагадзіцеся, калі мець на ўвазе пісьменніцкую грамадскасць, — далёка не адзіны літаратурны асяродак. Дык чаму ж не аднаўляць і ўмацоўваць колішнія трывалыя кантакты, арыентуючыся на Пскоў і Смаленск, Бранск і Ноўгарад, Цвер і Белгарад...

У Пскове большасць літаратараў, якія дагэтуль уваходзілі ў Саюз пісьменнікаў РСФСР, аб'ядналіся ў Пскоўскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Расіі. Узначальвае абласную арганізацыю Алег Калкін. Між іншым, з пскоўскіх пісьменнікаў і Валянцін Курбатаў, які з'яўляецца сакратаром Саюза пісьменнікаў Расіі.

Пра што ішла размова на сустрэчы беларускіх і пскоўскіх пісьменнікаў? Безумоўна, былі ўзняты пэўныя пытанні пра станаўленне літаратараў да таго, што адбываецца зараз на постсавецкай прасторы. Але пісьменнікі не бралі на сябе ролю, функцыі палітыкаў, падкрэсліўшы, што яны заўсёды застаюцца з народам, з радзімай, апякуюцца іх лёсам так, як могуць і павінны рабіць гэта літаратары — праз дакладнае, сэрцам выказанае і розумам асэнсаванае слова.

— Мы пакінулі пскоўскім літаратарам праект дагавора паміж нашым саюзам і іх арганізацыяй, — дзеліцца ўражаннямі ад сустрэчы з расійскімі калегамі Навум Гальпяровіч. — Разумеем, што знаходзімся зараз прыблізна ў аднолькавых матэрыяльных умовах. І наўрад ці зможам дапамагчы адзін аднаму ў кнігавыданні. Але — і пра гэта мы гаварылі са старшынёй камітэта па СМІ і сувязях з грамадскасцю адміністрацыі вобласці Сяргеем Бігоўчым — сумеснымі намаганнямі змаглі б выдаць адну беларуска-пскоўскую кнігу. Кнігу, якая б у роўнай ступені адлюстроўвала жыццё і ў Беларусі, і на Пскоўшчыне. Да таго ж вельмі важна часцей сустракацца, удзельнічаць у мінскіх ці пскоўскіх літаратурных імпрэзах, вечарынах, святкаваннях значных літаратурных дат.

Беларусь, аб гэтым гаварыў у Пскове старшыня Літфонду Уладзіслаў Мачульскі, гатовая адчыніць для расійскіх пісьменнікаў дзверы Дома творчасці "Іслач". Тым болей, што адпачынак у нас мог бы абысціся пскоўскім, расійскім пісьменнікам шмат танней, чым, напрыклад, у славутым некалі Перадзелкіне.

Словам, першы крок зроблены. Наперадзе — усталяванне трывалых сяброўскіх, братэрскіх сувязяў. Беларуская дэлегацыя прыняла ўдзел у ІІІ-й Пскоўскай кніжнай выстаўцы, пабывала ў рэдакцыі газеты "Псковская правда", наведала шэраг памятных мясцін Пскоўшчыны.

**Кастусь КАРПОВІЧ**

ІМПРЭЗЫ

# Малююць дзеці Радзіму

З 27 па 30 красавіка ў Мінску прайшоў першы Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці "Фарбы зямлі". Арганізатарамі фестывалю выступілі Федэрацыя клубаў ЮНЕСКА Расіі ў асобе галерэі "Сити" г. Масквы сумесна з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Цэнтрам па рабоце з адоранымі дзяцьмі і моладдзю пры Беларускім інстытуце праблем культуры. У сакавіку адбыўся першы адборачны этап фестывалю па абласцях і ў сталіцы рэспублікі, у якім удзельнічалі вучні мастацкіх школ, мастацкіх аддзяленняў школ мастацтваў, навучэнцы Мінскай мастацкай вучэльні.

А 27 красавіка фестываль распачаўся адкрыццём выставы дзіцячага малюнка ў Музеі сучаснага мастацтва, на якой, акрамя адабраных 50 работ беларускіх дзяцей, гледачы на працягу некалькіх дзён маглі пазнаёміцца з цікавейшым зборам са 100 дзіцячых работ з 75 краін свету. Гэтую калекцыю прывёз і прапанаваў да ўвагі мінскім гледачам дырэктар галерэі "Сити" і прадстаўнік клубаў ЮНЕСКА Расіі Мікалай Ткачэнка. Ягоная галерэя мае ўжо немалы вопыт у наладжванні падобных мерапрыемстваў. Некалькі разоў падобныя акцыі (не толькі па выяўленчым мастацтве, але і балеце, музыцы, тэатры) праходзілі на Украіне і ў іншых краінах. Зрэшты, адгукнулася на прапанову галерэі і Міністэрства культуры Беларусі. М. Ткачэнка сам мастак, японазнаўца. З дапамогай асабістых сувязяў ён ад дырэкцыі Міжнароднага конкурсу дзіцячых малюнкаў Японіі атрымаў частку іх калекцыі з умоваю паказваць і прыцягваць да ўдзелу ў названым конкурсе малавядомыя японцам краіны. Менавіта ўдзел у гэтым прадстаўнічым міжнародным конкурсе ў выніку правядзення фестывалю і прапанаванае галерэя "Сити" яго ўдзельнікам і пераможцам. Прыехаўшы ў Мінск, Мікалай Ткачэнка прывёз з сабою, акрамя калекцыі малюнкаў, прызы — фарбы, альбомы. Малюнкі пераможцаў, пасля правядзення некалькіх такіх акцый у розных краінах, ён мяркуе выдаць летам асобным альбомам, а адабраныя на конкурс у Японію работы пераправіць за кошт галерэі.

Усе людзі ад нараджэння таленавітыя, і тут важна выявіць і дапамагчы таленту развіцца, важна падказаць маленькаму мастаку яго шлях. Гэта і ёсць мэта фестывалю — знайсці таленавітых дзяцей. А іх на Беларусі вельмі шмат. Пра гэта сведчыць беларуская частка выставы, якая не менш цікавая за міжнародную. Яна мае свой больш спакойны каларыт, яна не такая яркая і насычаная фарбамі, як у дзяцей Перу, Японіі, Кітая, Карэі, Мексікі альбо, напрыклад, Францыі. Але галоўнае, што ўсім дзеткам з усіх краін свету падабаецца адно і тое ж — жывёлы, людзі, прырода, жыццёвыя здарэнні. Усіх дзяцей збліжае іх шчырая любоў да сваёй зямлі, бацькоў, проста наваколля. І дарослыя мусяць дапамагчы ім захаваць некранутымі шчырасць пачуццяў і чысціню ўспрымання жыцця.

Пра гэта гаварылі на адкрыцці выставы дырэктар Музея сучаснага мастацтва народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, начальнік упраўлення навучальных і навукова-даследчых устаноў Аляксандр Сцепанцоў, саветнік пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Рудольф Лагавееў, намеснік дырэктара Мінскай мастацкай вучэльні пры БелАМ Вікторыя Грыневіч, дырэктар галерэі "Сити" Мікалай Ткачэнка. На адкрыцці былі абвешчаны і прызёры фестывалю. Дыпломамі ўзнагародзілі прадстаўнікоў амаль усіх рэгіёнаў Беларусі. Гэта Інга Балаштэнтава (Клімавічы), Аня Макарэвіч (Брэст), Каця Немкевіч (Баранавічы), Оля Барысава (Рось), Каця Ізобава (Віцебск), Юля Казіцкая (Рэчыца), Андрэй Бенедзіктавіч (Дзяржынск). Першы медаль атрымаў Ілля Падалка са Слуцка, другое месца Жэня Баўтрукевіч з Ляхавіч, трэцяе — Люда Гарбацэвіч з Мінска. Непасрэднае ўручэнне прызоў і дыпломаў адбудзецца ў сярэдзіне мая.

На адкрыцці фестывалю была прадстаўлена новая тэхналогія музычна-забаўляльнага жанру "Караоке", вакол якой доўга тоўпіліся маленькія наведвальнікі выставы. А на падставе беларускай часткі выставы пройдзе першая віртуальная выстава малюнкаў на Беларусі "Аазіс". Яна будзе экспанавацца ў Інтэрнэце з 15 мая да 15 чэрвеня па адрасе www.belipk.unibel.by/exhibition.

**Н. Ш.**



*"Дзень добры, гусь", малюнак І. Падалкі.*



*У зале выставы.*

ВІНШУЕМ!

# Прэміі Федэрацыі прафсаюзаў

***28 красавіка прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 1999 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды:***

**І. За творы прозы і паэзіі**

**Верамейчыку Уладзіміру Міхайлавічу**, паэту — за кнігу паэзіі "Ліхаўня" і **Жуку Канстанціну Якаўлевічу** (Кастусю Жуку), паэту — за кнігу вершаў і паэм "Галгофа".

**II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць**

**Сурусу Рыгору Фёдаравічу**, кампазітару — за Канцэрт для сімфанічнага аркестра "На Купалле".

**III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва**

**Белахвосціку Валянціну Сяргеевічу**, артысту тэатра імя Я. Купалы — за выкананне ролі Сэра Джона ў спектаклі "Касцюмер".

**IV. За работы ў галіне кінамастацтва**

**Лысятаву Юрыю Васільевічу**, кінарэжысёру (пасмяротна) і**Кір'янавай Марыі Кузьмінічне**, прадзюсеру — за стварэнне дакументальных фільмаў "Петр Мироныч" і "Призвание".

**V. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва**

**Ткачэнку Уладзіміру Аляксандравічу**, мастаку — за цыкл твораў сацыяльна-значнай тэматыкі — серыю пейзажаў "Зямля беларуская".

**VI. За работы ў галіне журналістыкі**

**Шаўцову Сяргею Паўлавічу**, аглядальніку газеты "Звязда" — за серыю журналісцкіх работ 1997—1998 гг., у якіх асвятляецца тэматыка абароны правоў чалавека.

**VII. За актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных**

**Стружэцкаму Тадэушу Іванавічу** — начальніку аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

**VIII. За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дарослых калектываў)**

Народнаму харэаграфічнаму ансамблю "Рунь" Дома культуры тэкстыльшчыкаў А. П. "Магатэкс", г. Магілёў (мастацкі кіраўнік **Папоў Віктар Аляксеевіч**).

**IX. За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (сярод дзіцячых калектываў)**

Узорнаму ансамблю танца "Вясялушкі" Аршанскага Дома культуры чыгуначнікаў (мастацкі кіраўнік **Стамінская Ірына Пятроўна**).

# 26 красавіка: дзень даўжэй за век?



У так званыя "перабудовачныя" гады была шырокавядомаю кніга Чынгіза Айтматава "Буранны паўстанак", эпіграфам альбо другою назваю якой быў пастэрнакаўскі радок "І доўжыцца больш веку дзень...". Чамусьці менавіта гэтыя словы, якія ўжо можна лічыць "крылатымі", прыгадаліся мне падчас "чарнобыльскага шляху" 25 красавіка. Бо і сапраўды, дзень чарнобыльскай катастрофы на нашай зямлі доўжыцца ўжо другое дзесяцігоддзе. І відавочна, што з гэтым болем мы ўступім у дваццаць першае стагоддзе.

Калона пад бел-чырвона-белымі сцягамі з жалобнымі стужкамі прайшла па праспекце Скарыны ад плошчы Коласа да вуліцы Купалы, далей па вуліцы Багдановіча да Палаца спорту, дзе і адбылася адпаведная імпрэза. У калоне было больш за пяць тысяч чалавек. Акрамя традыцыйнага для такіх акцый "чарнобыльскага" аздаблення (скажам, чорныя харугвы са знакам радыяцыі і назвамі забруджаных мясцін), былі лозунгі палітычнага зместу.

За 13 гадоў, што прайшлі з дня катастрофы, нарадзілася новае пакаленне, для якога Чарнобыль будзе чымсьці такім жа далёкім і нават міфічным, як для сённяшніх трыццацігадовых другая сусветная вайна. З той, праўда, розніцаю, што добра ўзяўшыся за справу, можна даволі хутка адбудаваць разбураную вайной краіну, а найбольш жахлівыя наступствы выбуху 26 красавіка 1986 года толькі-толькі пачынаюцца. Усё больш людзей у Беларусі будуць паміраць ад "звычайных" хвароб, і толькі шчыльнае кола спецыялістаў будзе ведаць, што сапраўдная прычына — Чарнобыль.

Сёння можна сумна канстатаваць, што чарнобыльская бяда не аб'яднала беларускую нацыю. Наадварот: прынцыповыя рознагалоссі па пытанні "дзе — на Усходзе ці на Захадзе — шукаць паратунку" яшчэ больш разводзяць беларусаў па розныя бакі ўяўнай барыкады. У гэтым сэнсе чарнобыльская катастрофа пры ўсёй сваёй эпахальнасці ўсяго толькі адна з праяў нейкай беларускай "адвечнасці"...

Вайна ў юрыдычным сэнсе канчаецца ў дзень падпісання нейкага "выніковага дакумента" — перамір'я, капітуляцыі ці яшчэ чаго. А на самай справе тады, калі пераможцы перастаюць фанабэрыцца, а пераможаны — прагнуць рэваншу, інакш кажучы, калі вайна памірае ў людскіх душах. Чарнобыль у нейкім сэнсе таксама вайна. І скончыцца гэтая вайна не раней, чым мы навучымся жыць на сваёй зямлі ў згодзе са сваёй зямлёю.

"І доўжыцца больш веку дзень..." — гэта пра нас. Пра 26 красавіка 1986.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

АНОНС

# У чаканні самабытнасці

Пэўна, вось так можна вызначыць настрой тых, хто збіраецца сёння ўвечары наведаць Вялікую залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі. 30 красавіка яе афішы абвяшчаюць аўтарскі канцэрт аднаго з нашых насамрэч самабытных асобаў і творцаў — кампазітара, педагога, загадчыка аддзялення народна-харавых спеваў Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі — Алеся Рашчынскага.

У яго адметная творчая біяграфія. Ураджэнец Лагойска, А. Рашчынскі скончыў Мінскае музвучылішча, затым — Дзяржаўную музычна-педагагічную акадэмію імя Гнесіных у Маскве як харавік-дырыжор, потым атрымаў дыплом кампазітара па класе прафесара Беларускай акадэміі музыкі Я. Глебава і тамсама прайшоў асістэнтуру-стажыроўку. Яго намаганнямі ў 1973 г. было адкрыта першае на Беларусі народна-харавое аддзяленне ў Мінскім музычным вучылішчы. Ён працаваў музычным кіраўніком "Харошак" і ў ансамблі "Купалінка", удзельнічаў у стварэнні канцэртнай праграмы знакамітай у свой час "Жывіцы" з Валянцінай Пархоменкай, арганізаваў самабытны гурт-капэлу "Агмень", асновай рэпертуару якога сталі аўтэнтычныя народныя песні...

Разам з даследчыкам і збіральнікам фальклору М. Козенкам ён выдаў чатыры зборнікі расшыфровак і апрацовак народных песень і столькі ж — інструментальнай музыкі. А яшчэ ўдзельнічаў у распрацоўцы праграм і хрэстаматыі па музычным выхаванні для беларускіх садкоў, склаў праграму для музвучылішча — па расшыфроўцы народных песень.

Цяжка пералічыць усе фестывалі ды конкурсы, імпрэзы ды канцэрты, дзе давялося ўдзельнічаць Алесю Рашчынскаму ў якасці музыканта, арганізатара, кіраўніка гуртоў, чальца журы. Цяжка пералічыць дыпломы, якімі ганараваны яго ўдзел у мастацкіх акцыях, і тыя добрыя адзнакі, якіх заслужылі яго самабытныя музычныя творы, запісаныя ў фонды радыё, надрукаваныя ў рэпертуарных зборніках, выкананыя вядучымі беларускімі дырыжорамі, хормайстрамі, салістамі!



У Алеся Рашчынскага — "залаты" юбілей, які ён адзначае аўтарскім канцэртам. І сённяшняя вечарына парадуе прыхільнікаў творцы атмасферай самабытных музычных прэм'ер.

**Савелій АКУЛІЧ**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Першы беларуска-польскі...

Пры падтрымцы маладых берасцейскіх мастакоў, польскага консульства і польскага клуба пры цэнтры маладзёжнай творчасці ў горадзе прайшоў першы беларуска-польскі фестываль сучаснага мастацтва. Цікавую праграму прадставіў тэатр пантамімы з Люблінскага каталіцкага універсітэта. У цэнтры маладзёжнай творчасці ладзіліся выставы беларускіх і польскіх мастакоў-авангардыстаў.

**Святлана Гуляева**

*ВІЦЕБСК...*

## Прэмія — Уладзіміру Арлову

Уладзімір Арлоў атрымаў прэмію Таварыства вольных літаратараў "Гліняны Вялес" за кніжку "Божая кароўка з Пятай авеню". Цырымонія ўручэння праходзіла ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Лаўрэатамі прэміі ТВЛ ужо былі Ігар Бабкоў, Людка Сільнова, Алесь Разанаў, Славамір Адамовіч, Лявон Вашко. Усе яны, на думку галоўнага каардынатара таварыства Алеся Аркуша, прадстаўляюць літаратуру новага кшталту: разняволеную, якасную, якая не старэе ў часе... Уладзімір Арлоў, выступаючы перад землякамі, падзяліўся творчымі планамі і адзначыў, што родны Полацк для яго — адзінае месца, дзе душа найбольш поўна адчувае суладдзе з сусветам.

**Ларыса МАЛАШЭНЯ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Эксперыментальны маладзёжны...

У Гомелі пад эгідай аддзела культуры гарвыканкама нарадзіўся Эксперыментальны маладзёжны тэатр-студыя. Яго адкрыццё стала святам для аматараў сцэны. У гэтай урачыстай акцыі прынялі ўдзел старшыня аблвыканкама М. Вайцянкоў і старшыня гарвыканкама А. Якабсан. Адбыўся і прэм'ерны спектакль "Браты і Ліза" паводле п'есы Аляксея Казанцава. У аснове твора — жыццё і праблемы моладзі, яе ўнутраны свет. Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Караткевіч.

## Фестываль добрых традыцый

У Чарнігаве прайшоў традыцыйны вясновы фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы", у якім бралі ўдзел артыстычныя калектывы з Беларусі, Украіны і Расіі. Гомельскі абласны драмтэатр прадставіў спектакль "Суцяшальнік удоў" Д. Марота і Б. Рандоне ў пастаноўцы народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Валерыя Раеўскага. На фестывалі прызы за лепшыя жаночую і мужчынскую ролі атрымалі гамяльчане, заслужаныя артысты рэспублікі Людміла Корхава і Віктар Чэпелаў.

## "Голас Белай Русі"

Такая канцэртная праграма з'яўляецца прэстыжнай у рэпертуары Беларускай дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Рыгора Шырмы. Яе мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам з'яўляецца заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Людміла Яфімава. Праслаўлены калектыў выступіў і ў Гомелі. Прагучалі беларускія народныя песні, харавая музыка сучасных кампазітараў і мініяцюры сусветнай музычнай класікі.

**Аляксей Шныпаркоў**

*ГРОДНА...*

## Прадстаўляюць народныя майстры

На выстаўцы твораў сяброў Гродзенскага гарадскога таварыства народных майстроў прадстаўлены жывапіс як сталых мастакоў (Аляксандра Ліпеня, Анатоля Закрэўскага), так і маладых — Мікалая Скляра, Надзеі Камісаравай, Сяргея Цыбізава і іншых. Прывабліваюць вытанчаная мастацкая вышыўка Аляўціны Кавалеўскай, саламяныя вырабы сям'і Блудавых, рэчы з лазы Барыса Федаровіча, з бяросты — Людмілы Міхалёвай, вышываныя ручнікі Марыі Закрэўскай, мастацкая апрацоўка воўны Яўгеніі Станінай і Вадзіма Лагуна.

## Да чарнобыльскай гадавіны

Выстава жывапісу "Сустрэча з Палессем" мастака Уладзіміра Гардзеенкі, якая адкрылася ў Гродне, прымеркавана да 13-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы. Пачуццё шчымлівай трывогі ахоплівае перад яго карцінамі "Перасяленцы", "Тут ужо ніколі не заспяваюць пеўні", "Чырвоныя дрэвы"... Аднак надзеяй і аптымізмам прасякнуты нацюрморты, пейзажы мастака.

## "Фантазіі вясны"

У горадзе Бярозаўка (Лідскі раён), у Палацы культуры шклозавода "Нёман", прайшоў абласны фестываль эстраднай творчасці "Фантазіі вясны". У ім бралі ўдзел лепшыя эстрадныя аркестры і ансамблі, салісты-інструменталісты і калектывы эстраднага танца. Гледачы з захапленнем успринялі выступленне эстраднага аркестра музычнага цэнтра "Панарама" з Ліды (мастацкі кіраўнік С. Кнутовіч), салістаў-інструменталістаў І. Панізнікава, А. Хамутова, В. Лебядзевіча, І. Мягкова. Быў прадстаўлены на фестывалі і крыху ўжо забыты жанр вакальна-інструментальнай музыкі.

## Творчасць — справа сямейная

У Гродзенскім Доме культуры прайшоў гарадскі фестываль сямейнай творчасці. Ён паказаў цэлае сукеецце талентаў: спявачка Наталля Боева пад акампанемент мужа Анатоля Шамлі выканала песні гродзенскага кампазітара і мастака У. Малочкі. Цёпла віталі слухачы сем'і Міцураў, Жукоўскіх, Шурпа-Кавалеўскіх... Адразу тры пакаленні былі прадстаўлены ў сямейным танцавальным калектыве Залеўскіх (Н. Залеўская — загадчыца аддзялення харэаграфіі мясцовага вучылішча мастацтваў, заслужаны работнік культуры Беларусі). Уразіла прафесіяналізмам выступленне сям'і Саладухіных (інструментальныя класічныя творы). Цудоўна спявала пад акампанемент таты і мамы Насця Жэгалік — лаўрэат фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства".

**Наш кар.**

*МАГІЛЁЎ...*

## "Тайвань учора і сёння"

Пад такой назвай у абласным мастацкім музеі праходзіць выстава, якая арганізавана міжнародным фондам эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж Мінскам і Тайбэем і Тайбэйскай гандлёва-эканамічнай місіяй у Беларусі. На выставе прадстаўлены жывапіс сучаснага тайваньскага мастака, прафесара Лан Сіун Вана і яго выхаванцаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## Прайсці праз зону

**паспрабавалі яшчэ раз удзельнікі вечарыны, якая адбылася напярэдадні скрушнай гадавіны Чарнобыля ў "Беларускай хатцы".**

**Гэтым разам у госці да Максіма прыйшлі паэты, для якіх "чарнобыльская тэма" стала творчым лёсам і жыццёвым наканаваннем.**

**Цёпла віталі прысутныя лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міколу Мятліцкага. Ён распавёў пра гісторыю стварэння сваёй галоўнай кнігі, ці, як ён сам яе жанрава азначыў — "кнігі жыцця" — "Бабчын".**

**Па сутнасці паэтам была зроблена беспрэцэдэнтная спроба "рэаніміраваць", адradзіць сваю выселеную, "пахаваную" Чарнобылем вёску ў вершах. І трэба адзначыць, што паэтычнае "уваскрасенне" Бабчына адбылося. Пра што яскрава сведчылі тужліва-светлыя вершы і балады Міколы Мятліцкага, з якіх нібы наяве паўсталі-ажылі пакінутыя хаты і вуліцы Бабчына, загаварылі, асмеліўшыся на духоўную споведзь, ягоныя суседзі-землякі...**

**Працягнуў паэтычны малебен-рэквіем мінскі паэт Мікола Віняцкі, які пазнаёміў слухачоў з вершамі, што ўвайшлі ў паэтычныя зборнікі "Пад крылом лебядзіным" і "Каб не пагасла зорачка надзей"...**

**Змястоўная абгрунтаванасць вершаў М. Віняцкага тлумачыцца багатым жыццёвым вопытам паэта. Яго — вучонага-тапографа лёс закідваў у самыя аддаленыя куткі некалі неабсяжнай савецкай дзяржавы. Дарэчы, пад ягоным кіраўніцтвам ажыццяўлялася складанне картаў радыяцыйнага забруджвання Беларусі, якія сёння чытаюцца, як своеасаблівыя тапаграфічныя некралогі атручанай Чарнобылем зямлі.**

**Закончыў вечарыну гаспадар "Беларускай хаткі" паэт Эдуард Акулін, які прачытаў сваю чарнобыльскую нізку вершаў і нагадаў прысутным, што час правядзення вечарыны невыпадковы, ён амаль супаў са светлым святам памінання памерлых продкаў, сярод якіх нямала і чарнобыльскіх ахвяр — Радаўніцай.**

**Н. К.**

## "Убельская ластаўка"

**Мы ўжо інфармавалі чытача пра тое, што сёлета будзе ўрачыста адзначана 180-годдзе з дня нараджэння Станіслава Манюшкі. Урачыстасці набліжаюцца: 5—6 мая ў Чэрвеньскім раёне пройдзе абласное свята беларуска-польскай музыкі, прысвечанае юбілею. Як вядома, менавіта на гэтай зямлі, у сядзібе Убель, нарадзіўся кампазітар, тут створаны і яго музей. Наведванне гэтых памятных мясцін удзельнікамі і гасцямі свята, якое атрымала назву "Убельская ластаўка", — частка вялікай праграмы. Яна ўключае і вялікія канцэрты з удзелам Мінскага абласнога камернага хору і аркестра "Sonorus" (мастацкі кіраўнік А. Шут), салістаў, якія гуртуюцца вакол творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" пад кіраўніцтвам В. Скорабагатава, ансамбля "Класік-Авангард" (мастацкі кіраўнік У. Байдаў), навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Яна ўключае і правядзенне абласнога конкурсу піяністаў і інструментальных ансамбляў. А таксама — выступленні ансамбляў народных інструментаў, мастацкія выстаўкі. Закрыццё свята "Убельская ластаўка" — 6 мая ў Чэрвені.**

**С. Б.**

## Беларускі Калегіум

**ЗАПРАШАЕ**

*4 траўня* **адбудзецца прэзентацыя даведніка "Беларуская апазіцыя 1944-1991 гг." з удзелам рэдактара Алега Дзярновіча і аўтараў.**

*11 траўня* **Максім Жбанкоў чытае лекцыю "Беларуская контркультура: сучасны стан і перспектывы".**

*18 траўня* **Кастусь Тарасаў чытае лекцыю "Улада і маніпуляванне рэлігійнымі пачуццямі вернікаў".**

*25 траўня* **Генадзь Цыхун чытае лекцыю "Феномен сучаснай беларускай мовы: экалінгвістычны кантэкст".**

**Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (актавая зала) па адрасе: вул. В. Харужай, 16.**

**ПАЧАТАК ЛЕКЦЫЙ А 18.30.**

*Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. 256-36-13.*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Зазіраючы ў бездань

21 красавіка ў памяшканні мінскага кінатэатра "Перамога" адбылася прэзентацыя двухтомніка нашай вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч, выдадзенага ў маскоўскім выдавецтве "Остожье".

Вось такі банальны, сціслы інфармацыйны сказ. А за ім — шэраг незвычайных акалічнасцяў, якія патрабуюць роздуму і асэнсавання. Напрыклад, той факт, што кнігі Алексіевіч у чарговы раз выдадзеныя за мяжой, а не ў яе роднай Беларусі.

Імпрэзу ў кінатэатры "Перамога" арганізоўвалі Саюз кінематаграфістаў Беларусі і студыя "Тацціяна", якую ўзначальвае апэратар Тацццяна Логінава, якая, дарэчы, здымала і фільмы па творах С. Алексіевіч. Уваход у кінатэатр быў вольны. Эксперымент "у чыстым выглядзе", своеасаблівая "праверка на папулярнасць". І трэба сказаць, што гэты эксперымент засведчыў — цікавасць да асобы і творчасці Святланы Алексіевіч у нашым грамадстве вялікая. Зала была поўная, людзі стаялі ля сцэнаў. Прычым сабраліся людзі невыпадковыя — розных прафесій, розных пакаленняў, але ўсіх іх можна, бадай, акрэсліць адным словам — інтэлігенцыя. У лепшым значэнні гэтага слова.

Вечарыну вялі кінакрытык Т. Цюрына і вядомы навуковец У. Колас. Праўда, чамусьці адзінай мовай вядзення была абрана руская, хаця гераіня вечарыны, як можна было зразумець, зусім не была супраць таго, каб у зале гучала беларуская мова. Напачатку слова далі пісьменніцы. Амаль гадзіну гучала яе гарачая, палемічная прамова. Алексіевіч умее заўсёды быць шчырай — і ў творчасці, і ў жыцці, і на афіцыйных мерапрыемствах. Гэтая яе шчырасць у нашым закапсуляваным грамадстве часам выклікае проста страх — як яна можа так гаварыць, як яна не баіцца, гэта ж абавязкова выкліча ў некага негатыўную рэакцыю! Але Алексіевіч менавіта такая, якая яна ёсць. Можна яе прымаць і не прымаць, захапляцца ёю ці абурацца, але не паважаць яе, як асобу, яе грамадзянскую смеласць і прынцыповую творчую пазіцыю нельга.

Пісьменніца разважала пра свой творчы шлях і пра свет, у якім мы жывём. На яе думку, свет шматварыянтны, яго немагчыма заключыць у рамках мастацтва. Жанр, у якім працуе, сама пісьменніца называе "раманам галасоў". Такая форма ўзнікла ў яе пад уплывам знакамітай кнігі "Я — з вогненнай вёскі". Як вядома, Алесь Адамовіч быў творчым настаўнікам Святланы Аляксандраўны. Доўга ўзіраецца ў зло немагчыма. Але шкада, што з нашым чалавекам можна размаўляць толькі пра трагічнае — таму што ўся гісторыя нашага народа трагічная. Вельмі актуальна прагучалі словы Алексіевіч пра тое, што не справа інтэлігенцыі — пладзіць нянавісць. Ні адна ідэя сёння не роўная чалавечаму жыццю.

Пасля пачалася дыскусія, хаця непасрэдна палемічнай дыскусіі не адбылося — у зале не аказалася праціўнікаў пісьменніцы, дакладней, іх галасы не прагучалі. Выступілі многія вядомыя людзі, у тым ліку намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Іпатава, рэжысёр Алег Белавусаў і іншыя. Двухтомнік пісьменніцы можна было набыць у фае і тут жа атрымаць аўтограф. Колькі слоў пра само выданне. У яго ўвайшло пяць раманаў — "У вайны не жаночае аблічча", "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя смерцю", "Чарнобыльская малітва". Наклад невялікі — усяго дзве тысячы асобнікаў. Прычым амерыканскі дабрачынны фонд МакКартураў закупіў тысячу асобнікаў для перадачы ў беларускія бібліятэкі.

Вечарына прадоўжылася паказам фільмаў, знятых па творах пісьменніцы. Але і тут улада напомніла пра сябе знешняе жыццё: рэжысёр Лук'янчыкаў, аўтар некаторых фільмаў адмовіўся даць іх на прагляд, матывуючы тым, што сёння не падзяляе поглядаў пісьменніцы.

Што ж, няхай і гэта застанецца для гісторыі. Гісторыі пра нас і наша грамадства, якую занатоўвае Святлана Алексіевіч.

**Н. К.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Царкоўныя і свецкія...

У Вялікай зале сталічнай філармоніі адбылося ўрачыстае закрыццё IV фестывалю праваслаўных песняспеваў, які праводзіўся Беларускім Экзархатам і двума міністэрствамі — культуры і адукацыі. Удзельнічалі ды спаборнічалі ў конкурснай праграме царкоўныя і свецкія, дзіцячыя і "дарослыя" харавыя калектывы: з Магілёва і Полацка, з Мінска і Віцебска, з Брэста і Гародні, а таксама з Беласточчыны.

Міністэрства адукацыі забяспечыла ўдзельнікам жыллё і харчаванне, Міністэрства культуры — гранты перамožцам для далейшага творчага развіцця. Падтрымка фестывалю паступіла таксама ад фонду "Хрысціянская ўзаемадапамога", ад фонду Кірылы і Мяфодзія, ад магазіна "Праваслаўная кніга", ад праваслаўных брацтваў і асобных грамадзян. Цырымонія ўзнагароджвання атрымалася досыць працяглай, бо без такой або іншай узнагароды — дыплома, адзнакі, падарунка, грашовага прыза не застаўся, здаецца, ніхто з удзельнікаў.

Журы ўзначальваў кампазітар, клірык Свята-Барысаглебскай (Каложскай) царквы Гродна айцец Андрэй Бандарэнка. (Людзі свецкія памятаюць яго як стваральніка оперы "Князь Наваградскі", ганараванага Дзяржаўнай прэміяй Беларусі на пачатку 90-х). Сярод "суддзяў" былі маэстра Віктар Роўда, аўтарытэтныя педагогі Беларускага універсітэта культуры, знаны хормайстар з Наваполацка Людміла Жукава, дацэнт Акадэміі музыкі, ён жа — намеснік дырэктара духоўнага вучылішча пры Мінскім епархіяльным упраўленні Міхаіл Шыманскі.

Старшыня журы ў сваім прывітальным слове казаў пра гэты фестываль як пра важную падзею ў жыцці Беларускага Экзархата і падкрэсліў, што ўдзельнікі праграм склалі той пеўчы сабор, сапраўднае прызначэнне якога — апець у сэрцах Госпада, спяваць так, каб душа адгукалася на прамоўленае вуснамі. Айцец А. Бандарэнка заклікаў не крыўдаваць, калі камусьці размеркаванне конкурсных узнагарод падасца несправядлівым, бо галоўнае — "стяжать царствие небесное", маўляў, галоўная ўзнагарода — на нябёсах.

Аднак усе чакалі ўзнагарод зямных і радаваліся ім. Сярод ганараваных — хор Свята-Петрапаўлаўскага сабора сталіцы і яго рэгент Ірына Дзянісава (лепшы дырыжор фестывалю), гродзенскі камерны хор "Дойлідства" (мастацкі кіраўнік Н. Бульцэвіч), дзіцячы хор праваслаўнага прыхода св. Якава сына Алфеева з мястэчка Ласінкі Беластоцкага ваяводства (рэгент А. Кос), хор "Спяваючыя музыканты" Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі (кіраўнік А. Мазурава), народная харавая капэла ПК прафсаюзаў (дырыжор В. Аўраменка), хор "Раніца" СШ N 145 г. Мінска (мастацкі кіраўнік С. Герасімовіч), маладзёжны хор Свята-Успенскага сабора Віцебска (рэгент М. Гінтава) ды інш.

Пасля ўручэння прызоў і падарункаў адбыўся гала-канцэрт праваслаўнай музыкі, які сталыя і пажылыя кабеты (іх нямала было ў перапоўненай зале) слухалі, малітоўна склаўшы далоні...

Міжволі ўспаміналіся цудоўны Міжнародны фестываль духоўнай музыкі, які ўжо досыць даўно і арганічна жыве на поліканфесійнай беларускай зямлі, — "Магутны Божа". На ім пануе дух сапраўднага гуманізму і талерантнасці, людзі свецкія і служыцелі культу яднаюцца ў шчырым памкненні да Усявышняга. Толькі чамусьці ні Міністэрства культуры, ні Міністэрства адукацыі не спяшаюцца ў Магілёў, каб далучыцца да гэтага свята мастацтва, еднасці, дабрыні, падтрымаць яго — хаця б зычлівым словам...

**Н. К.**

*Фота А. ПРУПАСА*



*Маладзёжны хор Свята-Успенскага сабора Віцебска.*



*Велікодны спеў гасцей з Беласточчыны.*



*Так выглядае адзін з прызоў.*

ВАРУНКІ

***У Валерыя Пятровіча я брала інтэрв'ю гады два назад, калі ён быў начальнікам Галоўнага ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы Міністэрства ўнутраных спраў краіны. Памятаю, ён уразіў мяне нязмушанаю і пісьменнаю беларускай гаворкаю (на жаль, у Беларусі гэта даводзіцца падкрэсліваць), а таксама дзелавітасцю, дасведчанасцю ў справе, за якую адказваў, і вайсковай (у лепшым значэнні гэтага слова) абавязковасцю і дысцыплінаванасцю (сустрэчу прызначыў на 9 гадзін раніцы і не прымусіў мяне чакаць ні хвіліны). У пачатку сёлетняга года генерал-маёр унутранай службы Валерый Астапаў быў прызначаны міністрам па надзвычайных сітуацыях. Захацелася зноў з ім сустрэцца, пагутарыць з ім ужо ў рангу міністра. Валерый Пятровіч ахвотна згадзіўся і прызначыў сустрэчу зноў на 9 гадзін раніцы, у суботу. Не-не, не ў выхадны — тая перадрадаўнічная субота была рабочым днём...***

# МНС — абрэвіятура бяды

## КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа" ГУТАРЫЦЬ З МІНІСТРАМ ПА НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ Валерыем АСТАПАВЫМ

**— Валерый Пятровіч, як вы пачуваецеся на новай пасадзе? Што змянілася ў вашым службовым распарадку, рэжыме працоўнага дня, наогул ва ўласным самаадчуванні? Нагрузка і адказнасць узраслі пасля таго, як пераселі ў крэсла міністра?**

— Ну, што да нагрузак, дык яны заўсёды былі, і не толькі ў мяне, але і ў кожнага кіраўніка, калі ён толькі чалавек адказны. Цяпер жа, з прызначэннем на новую пасаду, яны, вядома, узраслі. А пачуваюся я нармальна, хоць ужо і не ганаруся тым, што мой рабочы дзень доўжыцца па 12—15 гадзін, бо гэта азначае, што нехта перагружаны, а хтосьці недапрацоўвае. Увогуле ж я зведваю маральнае задавальненне ад таго, што наша ваенізаваная пажарная служба за дваццаць гадоў прайшла неблагі шлях, калі ўрад, прэзідэнт палічылі патрэбным ускласці на нас вырашэнне яшчэ больш высокіх задач.

**— Ваша міністэрства адносна маладое ў нашай краіне. Чаму яно было створана? Беларусь — спакойная мясціна на Зямлі, у нас, дзякаваць Богу, практычна не бывае землетрасенняў, снежных лавін, селяў, — хіба вось толькі паводкі ды смерчы-ўраганы. Тым не менш міністэрства створана, як і ў Расіі, дзе ўсе згаданыя беды досыць частыя. Мо і праўда міністэрства ўзнікла па прыкладзе расійскага?**

— Безумоўна, такая агульная тэндэнцыя існуе — і ў свеце, і на прасторах былога СССР. Справа ў тым, што ёсць аб'ектыўныя заканамернасці, якія падштурхоўваюць рашэнні арганізацыйныя. Для Беларусі проста эканамічна мэтазгодна было аб'яднаць, звесці ў адзін вузел вырашэнне пытанняў, якія тычацца пералічаных катаклізмаў, негатываў прыроднага, тэхнагеннага характару, ці таго, што чалавек дапускае па сваёй неасцярожнасці альбо нядбайнасці.  Мяркую, што прэзідэнт, вызначаючыся са статусам міністэрства, разумеў, што ў дадзеных сітуацыях людзі, якія носяць вайсковую форму, больш адказна ставяцца да справы. Вайсковы чалавек не стане пытацца, куды і навошта ды дзеля чаго, а — руку пад брылёк ды ўперад! Карацей, тут трэба дзейнічаць, а не марудзіць, прыкідваць ды вагацца. Тут трэба ўлічваць і прафесійную рызыку — людзі ў пагонах да яе больш падрыхтаваныя.

**— Назва вашага міністэрства гучыць для многіх, асабліва для так званых простых людзей досыць загадкава: Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. А калі папросту, дык яно магло б называцца міністэрствам бедстваў і здарэнняў, хіба не так? Паспрабуйце расшыфраваць назву, Валерый Пятровіч? Раскажыце пра мэты і задачы міністэрства, яго асобных структур і падраздзяленняў?**

— Назва — гэта прыняты штамп, і, можа, з боку стылістыкі яна і не зусім правільная, аднак жа зразумелая, прынамсі, людзі хутка прывыкаюць да нашай абрэвіятуры — МНС. Вядома, больш лагічна было б назваць яго Міністэрствам па барацьбе з надзвычайнымі сітуацыямі, ды справа ўсё ж не ў назве, а ў сутнасці, змесце, у тым, што за гэтай шыльдай. А што за ёй? Пэўны шэраг задач, якія заклікана вырашаць міністэрства. Па-першае, правядзенне дзяржаўнай палітыкі ў пытаннях супрацьдзеяння ўсялякім негатыўным сітуацыям, якія могуць узнікаць у прыродзе і ў жыцці краіны. А ў жыцці нашым, на жаль, хапае ўсялякіх непрыемных, часам нават трагічных здарэнняў — і прыродных, і тэхнагенных. Вы праўду кажаце, у нас няма, як у Расіі, вулканаў і цунамі, няма тайгі, дзе могуць палаць тысячы квадратных кіламетраў. Але і ў нас было, што верхавы пажар ахопліваў лес на дзесяткі кіламетраў. У МНС Расіі, натуральна, структура значна шырэйшая. У нас усё сціплей. Тое, што ў нас створана, гэта вельмі аптымальнае рашэнне з улікам нашых рэальных магчымасцяў. І структура, і колькасны склад падраздзяленняў — усё залімітавана, і раздуваць апарат і штаты ніхто нікому не дазволіць. Трэба абыходзіцца тым, што ёсць, і вырашаць любыя задачы. І мы, здаецца, спраўляемся.

Зусім нядаўна, напрыклад, здарылася бяда ў Рэчыцкім раёне — прарвала свідравіну. Двое сутак змагаліся нашы атрады па ліквідацыі аварыі. Задзейнічана было недзе каля 30 адзінак тэхнікі і больш чым 60 выратавальнікаў-пажарных. Не меншыя сілы змагаліся з бядою і з боку вытворчага аб'яднання "Рэчыцанафта". Гэта была вельмі небяспечная работа. Досыць было самай малой іскры, каб усё вакол, у тым ліку людзі і тэхніка, было ахоплена полымем. Нам, шчыра кажучы, проста пашанцавала. Звычайна, калі ліквідоўваюць такія фантаны, іх спецыяльна падпальваюць, каб не было загазаванасці, каб папярэдзіць магчымасць катастрафічных вынікаў. Двое сутак ішло змаганне са стыхіяй. Гэта было сапраўднае выпрабаванне і людскіх нерваў, і людскога прафесіяналізму, не толькі нафтавікоў, але і падраздзяленняў МНС, да якога сёння адносяцца ўсе падраздзяленні пажарнай службы краіны.

**— Валерый Пятровіч, прызнаюся, гаворку з вамі хацелася пачаць з сёлетняй нядаўняй паводкі, так бы мовіць, па гарачых слядах. Кадры на экранах тэлевізара з раёнаў Брэстчыны і Гомельшчыны надзвычай уражвалі. Вялікая, проста-такі страшная бяда напаткала людзей, сляпая стыхія разлютавалася не на жарты. Як вы і вашы людзі прынялі гэты ўдар прыроды? Што было зроблена па выратаванні і дапамозе затопленым і падтопленым вёскам і іх няшчасным жыхарам?**

— Для нас усё гэта было, так бы мовіць, не ў навіну, мы і раней гэтым займаліся, але абмяжоўваліся пераважна толькі тэхнічнай дапамогай. Сёлета ж мы бралі на сябе вырашэнне і цэлага шэрагу арганізацыйных пытанняў, і аказанне медыцынскай дапамогі, і шмат што іншае. Асабліва ж хацелася б адзначыць работу па змаганні з паводкай на месцах. Калі побач людзі вопытныя, прафесійна падрыхтаваныя, дык нам адно заставалася добрасумленна падставіць ім плячо і разам змагацца са стыхіяй. Гэта была зладжаная, дакладна арганізаваная праца. Канкрэтна кіравалі работай старшыні камісій па надзвычайных сітуацыях аблвыканкамаў. Не магу не назваць намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціна Печку. Дзякуючы яму, ягонай самаадданасці вырашаліся многія пытанні. А паколькі ён атрымаў адмабілізаваную, арганізаваную сілу нашых падраздзяленняў, дык і вынікі аказаліся неблагія. Людзі, якія трапілі ў бяду, адчулі сапраўдную дапамогу дзяржавы, у тым ліку і матэрыяльную. Прэзідэнт краіны асабіста распарадзіўся кампенсаваць страты і будаматэрыяламі, і грашовымі сродкамі.

Але, безумоўна, самая сур'ёзная праца ў гэтым кірунку — наперадзе. Навука, спецыялісты павінны па-сапраўднаму даследаваць праблемы паводак, разабрацца з дзяржаўнай праграмай па абароне населеных пунктаў ад затапленняў. Такая праграма існуе, летась яна была перазацверджана, і тым не менш па розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах недастаткова эфектыўна рэалізуецца. Трэба зірнуць на яе праз прызму сёлетняй паводкі. Праграма павінна ажыццяўляцца паэтапна, не за адзін год, трэба падыходзіць да вырашэння пытанняў дыферэнцыравана. Скажам, калі ўжо абараняць нейкую частку басейна Прыпяці ці Гарыні, дык ужо гэтак, каб не звяртацца да гэтага пытання штогод.

**— Валерый Пятровіч, як бы ні здзекаваліся мы са сталінскай фармуліроўкі "кадры вырашаюць усё", аднак жа гэта сапраўды так. Якія ў вас кадры? Дзе вы іх рыхтуеце? Ведаю, у сістэме пажарнай службы былі ў Беларусі два вучылішчы — вышэйшае і сярэдняе. Яны па-ранейшаму працуюць, не зачыніліся ў крызіснай сітуацыі? Профіль іх не змяніўся? Пытаюся пра гэта, бо вам жа цяпер патрэбны не толькі ўтаймавальнікі агню, але і іншых стыхій?**

— Спецыяльнасць пажарнага была заўсёды шматфункцыянальнай. Па сутнасці, у гэтай прафесіі сумяшчалася некалькі спецыяльнасцей. Гэта тым больш відавочна цяпер, калі мы ўжо называемся пажарнымі-выратавальнікамі. У спецпадраздзяленнях, а іх у нас 25, кожны пажарны-выратавальнік валодае пяццю-шасцю прафесіямі. Паступова гэта закране і ўсе астатнія 800 падраздзяленняў. Сёння пытанне ў тым, што асваенне новага пераліку спецыяльнасцей упіраецца ў недастатковасць тэхнічнай аснасткі. Любое, нават самае невялікае надзвычайнае здарэнне, голымі рукамі не возьмеш, не адолееш. Вось, скажам, дэмеркурызацыя. З гэтай з'явай мы сутыкнуліся літаральна два гады назад, і янаператварылася проста ў нейкую своеасаблівую эпідэмію. Ртуць знаходзяць паўсюдна, і найперш — дзеці. На вытворчасці ртуць гадамі назапашвалася, не ўтылізавалася, выкідвалася абы-куды ці захоўвалася абы-дзе. Сёння яе нечаканыя знаходкі сталі проста бядою. Ртуць адносіцца да шэрагу моцных атрутных рэчываў, удыханне яе пары прыводзіць да лятальных зыходаў. Дзеці прыносяць ампулы, цэлыя ёмістасці ртуці ў школу, разліваюць па падлозе. А каб ачысціць пасля адну сярэднюю школу, трэба патраціць сотні мільёнаў рублёў. Такі выпадак быў летась у адной з мінскіх школ. А ўвогуле такіх выпадкаў — дзесяткі. Гэта вымагае велізарных выдаткаў, а служба наша фінансуецца нашмат сціплей, чым, скажам, 10 гадоў назад. Трымаемся мы на тым, што паспелі назапасіць дзякуючы закону аб зборах на ўтрыманне падраздзяленняў пажарнай аховы на прамысловых прадпрыемствах і ў сельскай мясцовасці. На добры лад, мы павінны былі б фінансавацца па вышэйшым разрадзе. Экстрэмальную сітуацыю не паправіш, ірвануўшы цяльняшку на грудзях. Дзеля гэтага патрэбны складаная тэхніка, дарагое абсталяванне, сучасная экіпіроўка. Усяго гэтага нам вельмі не хапае.



*Фота Я. КОКТЫША*

**— Тэхнічнае забеспячэнне нашых беларускіх выратавальнікаў у параўнанні з замежнымі па-ранейшаму не на нашу карысць?**

— Мы гаварылі пра кадры. Дык кадры ў нас — добрыя, слаўныя кадры. Я кажу сваім падначаленым: "Вы ж — абраныя, выбраныя!" І гэта сапраўды так — у прамым і пераносным сэнсе. Да нас на працу можна трапіць толькі па першай катэгорыі здароўя, гэтаксама, як і ў атрад касманаўтаў. Армія наша стогне сёння ад таго, каго ёй пастаўляюць ваенкаматы. Нам жа не пастаўляе ніхто, мы самі адбіраем самых моцных, самых спрытных, самых падрыхтаваных. І не толькі фізічна — глядзім, каб і звіліны, як кажуць, на месцы былі. Адным словам, з такімі кадрамі можна вырашаць любыя задачы. Правільней сказаць — можна было б вырашаць. Калі б кадры гэтыя былі забяспечаны ўсім неабходным. Тэхнічнае наша забеспячэнне недастатковае. Калі б яно было лепшае, мы маглі б скарачаць, скажам, час на прыбыццё падраздзялення ў месца трагедыі. Альбо яшчэ: не трэба будзе з Мінска гнаць рэспубліканскі спецатрад за 200 кіламетраў, калі будзе магчымасць на месцы аказаць неабходную тэхнічную дапамогу. Нядаўна, напрыклад, мы ліквідоўвалі аварыю на Барысаўскім чыгуначным вузле. Дзякуючы таму, што там было тры камплекты разразнога абсталявання, ну і, вядома ж, майстэрству пажарных, удалося ўратаваць чыгуначны вузел ад бяды. Адназначна, нам патрэбны стопрацэнтны рэзерв тэхнікі. А па тактычнай падрыхтоўцы мы наўрад ці каму ўступаем. Бадай, нідзе ў свеце няма такіх высокіх нарматываў пажарна-стравой падрыхтоўкі.

І вось яшчэ пра што хачу тут сказаць. У Беларусі раней нічога з таго, што тычыцца пажарна-аварыйных спраў, акрамя 3-4 пазіцый, не выраблялася. Усё пастаўлялася з іншых саюзных рэспублік, з Масквы. Зараз мы займаемся арганізацыяй вытворчасці аўтамабіляў хуткага рэагавання, вогнетушыцеляў, шлемаў, касцюмаў, іншых прадметаў і рэчываў. Практычна, уся экіпіроўка нашых падраздзяленняў можа рабіцца ў нас. Выпрабоўваем мы і сваю сістэму маніторынгу, што дазваляе весці назіранне за лясамі і тарфянікамі.

І, вядома ж, даўно пара ўсур'ёз заняцца выхаваннем паводзін чалавека ў прыродзе. У школах, я мяркую, трэба ўвесці спецыяльны "курс бяспечнага жыцця", які ахопіць не толькі пытанні траўматалогіі, санітарыі, але і ўменне абыходзіцца з агнём, вадой, іншай стыхіяй. Намеснік міністра абароны ўнёс прапанову: замест ваеннай справы вучыць нашых хлопчыкаў (і дзяўчынак таксама) правілам бяспечнага жыцця. Я цалкам падтрымліваю гэтую прапанову.

**— Не магу не спытаць, Валерый Пятровіч, пра Чарнобыль. Мінула трынаццаць гадоў, а бяда засталася з намі. І застанецца яшчэ на многія гады і дзесяцігоддзі. Пажарныя былі першымі ліквідатарамі аварыі. А чым цяпер заняты ваш камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС? Назва камітэта цалкам адпавядае ягонай сутнасці і дзейнасці?**

— Камітэт, які створаны пры МНС, непасрэдна займаецца пытаннямі, звязанымі з пераадоленнем вынікаў катастрофы. Узначальвае яго Іван Кенік. Камітэт вырашае велізарнае кола задач, сярод якіх — і дзяржаўная палітыка ў гэтай справе, і рэабілітацыя насельніцтва забруджаных тэрыторый. На гэта траціцца досыць значны працэнт дзяржаўнага бюджэту, дзесяткі трыльёнаў рублёў. У Камчарнобылі (гэтак скарочана называецца камітэт) склаўся добры калектыў супрацоўнікаў, а статус міністэрства, пад эгідай якога ён цяпер працуе, дасць карыснае сумяшчэнне сіл і сродкаў. Зрэшты, Чарнобыль і ягоныя наступствы — гэта тэма асобнай гаворкі.

**— А другі ваш міністэрскі камітэт з доўгаю назваю, прытым не надта лёгкаю для вымаўлення — Камітэт па нагляду за бяспекай работ у прамысловасці? Чаму скарочана ён называецца "Праматамнагляд"? Ці я тут штосьці блытаю?**

— Не, усё правільна. Ёсць у пажарным наглядзе і ў наглядзе за бяспекай работ у прамысловасці свае асаблівасці, розныя кропкі прыкладання сіл і ведаў. А ўвогуле прынцыпы дзяржаўнай палітыкі, прынцыпы нагляду прыкладна аднолькавыя. Таму адной з задач аб'яднання іх у адным міністэрстве з'яўляецца пазбаўленне ад паралелізму паміж гэтымі двума сур'ёзнымі відамі дзяржаўнага нагляду. Паралелізм такі ёсць, на жаль. Таму трэба спакойна, няспешна разабрацца з методыкамі абследавання, недзе нешта ідэнтыфікаваць, недзе сумясціць, недзе наогул ліквідаваць. Галоўнае, трэба зыходзіць усюды з інтарэсаў справы і людзей. Эфектыўнасць нагляду заключаецца не ў тым, каб як мага больш апламбіраваць, зачыніць, аштрафаваць, а ў тым, каб прадпрыемствы, тэхналагічныя лініі працавалі дакладна, бесперабойна і тым самым забяспечвалі выкананне вытворчых планаў, але і каб яны былі бяспечнымі для людзей. Гэта — агульная задача, якая потым канкрэтызуецца ў патрабаванні і выкананні соцень і соцень правілаў і норм.

*(Працяг на стар. 12)*

## "Жывы калодзеж"

**Паэтычнае слова ніколі не было чужым прадстаўнікам, здавалася б, "непаэтычных" прафесій. Як прыклад таму і кніга Андрэя Мазько "Жывы калодзеж" — лютаўскі зборнік "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". Аўтар яе нарадзіўся ў вёсцы Упірава Іванаўскага раёна ў 1955 годзе, але, хоць вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе, пасля заканчэння яе паступіў у тагачасны Беларускі інстытут механізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі. А нядаўна яшчэ скончыў і Акадэмію кіравання. Працуе ў Іванаўскім райвыканкаме.**



**Ды паэзія не адпускае А. Мазько ад сябе. Друкаваўся ў розных газетах і часопісах, а цяпер прапануе чытачу і сваю першую кнігу. Аўтар прадмовы да зборніка Віктар Гардзей дакладна вызначыў сутнасць паэзіі А. Мазько. Гэта відаць ужо з самой назвы невялікага артыкула — "Ад гаючых мотальскіх крыніц", а таксама з развагі: "Тут, на Іванаўшчыне, шмат чараўніча-пракаветных мясцін: возера Завішанскае, Спораўскія балоты, Ясельда, славуты Моталь. Адно толькі імя Напалеона Орды выклікае самыя светлыя згадкі пра гэты знакаміты куток Палесся. Але нават калі не ўдалося аб'ехаць Іванаўшчыну, як кажуць, уздоўж і ўпоперак, то шкадаваць не трэба. Свой край, мілую бацькоўскую зямлю таленавіта і годна апяваюць "ясельдзянскія" празаікі і паэты. З іх Андрэй Мазько. Павольная і празрыстая плынь яговых вершаў з ціхім плёскатам і веснавым журчаннем уліваецца ў рэчышча традыцыйнай паэзіі, знаходзячыся ў той жа час на самай строме жыцця, калі ад чыстага лірыка патрабуецца шчырасць, покліч і абавязак душы ўспрымаць чужы боль, як свой уласны".**

**Любоў да роднага кута ў А. Мазько — звычайны стан чалавека, якому хораша там, дзе ён нарадзіўся, дзе мае шмат добрых і надзейных сяброў. І сапраўды паэт звяртаецца "да гаючых мотальскіх крыніц", спяшаецца да Ясельды і хуткаплыннасць самога жыцця звязвае з ёю: "А жыццё, як Ясельда, цячэ..." Лірычны герой не хавае сваёй радасці: "Я — дома. Па сваіх іду прасторах, Дзе гойсаў у дзяцінстве басанож". Але яго лучнасць з наваколлем і ўсім жывым не абмяжоўваецца гэтай канстатацыяй.**

**У адным з лепшых вершаў "Я — чорная скрынка" паэт сцвярджае, наколькі важна не растраціць пачуцця адказнасці, бо толькі ў такім разе можна быць упэўненым, што нездарма жывеш:**

*Усё, што цяпер усміхаецца, плача,*
*Расце і згарае, ратуе і б'е.*
*І шчасце, і роспач, удача, няўдача —*
*На мне пакідаюць адбіткі свае.*

**Дамінанта твора ў заключнай, трэцяй страфе:**

***Я — чорная скрынка. Пранізаны часам,***
***І зерне трымаю ў сабе, і асцё.***
***Я стану калісьці праўдзівым адказам***
***На запыт нашчадкаў пра наша Жыццё.***

**Увайшлі ў зборнік і "прыгоды бывалых" пад назвай "Паляўнічы сезон". Твор пераконвае, што А. Мазько ўмее быць і дасціпным гумарыстам. У гэтым сэнсе асабліва цікавы аповед аднаго з паляўнічых пра здарэнне, сведкам якога ён стаў, калі на добрым падпітку завітаў з сябрамі на хутар, дзе звычайна працягвалі баляваць. Па недагляду замест тушкі зайца засмажылі лісу, а даведаліся пра гэта толькі тады, калі збіраліся дахаты.**

**І іншыя гісторыі таксама дасціпныя, хоць можна і паверыць усяму, можна і засумнявацца. Такі ўжо народ — паляўнічыя. А з шэрагу іх, відаць, і аўтар кнігі "Жывы калодзеж".**

**Лявон ЮРЧЫК**

# Аб зямным і вечным

## РЭЛІГІЙНЫЯ МАТЫВЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Беларуская літаратура, як і ўсе еўрапейскія культуры, фармавалася пад вялікім уздзеяннем хрысціянства. Хрысціянскія традыцыі пачаткова візантыйскага, а пазней таксама рымскага (лацінскага) абраду можна заўважыць у літаратуры кожнай эпохі, нават у савецкі перыяд. Палітычныя і грамадскія змены апошніх гадоў, асабліва прызнанне права свабоднага веравызнання, прычыніліся да ўзбагачэння тэматыкі мастацкай творчасці. Новы падыход да ролі Бога і рэлігіі ў жыцці сучаснага грамадства — выразна праявіўся ў паэзіі апошняга дзесяцігоддзя. Зацікаўленне пісьменнікаў духоўнай сферай жыцця чалавека не ўзнікла раптоўна, хрысціянскія традыцыі ў беларускім мастацтве захоўваліся здаўна. Гэта антырэлігійная палітыка савецкай дзяржавы амаль на стагоддзе выкараніла біблейскую праблематыку з беларускай літаратуры. Але нават тады рэлігійныя матывы паяўляліся ў творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гаруна і інш. Зразумела, што гэтыя творы не былі прызначаны для публікацыі і ствараліся для сябе, у стол. Усё ж такі яны з'яўляліся, а гэта значыць, што біблейскія традыцыі ў беларускім мастацтве не загінулі. Ажыццяўляла іх, між іншым, эміграцыйная, святарская і лагерная літаратура. Зварот да Бога і рэлігіі ў час сталінскіх рэпрэсій многім паэтам дапамагаў пратрываць здзекі і прыніжэнне. Таму частым матывам менавіта лагернай паэзіі з'яўляецца распяцце, а формай — малітва, маленне, благанне.

Да малітоўнай формы звяртаўся таксама ў сваёй творчасці В. Супрун — паэт з ваеннага пакалення, кніжны дэбют якога запазніўся амаль на паўстагоддзе. В. Супрун — чалавек трагічнага лёсу, патрыёт з душой мастака, які ў час зняволення, каб не ашалець, пісаў вершы. Не даючы людзям і ўладзе, доўгія гады не прызнаваўся ў гэтым. Асцярожна адносіўся таксама да прапановы выступіць у друку, таму зборнік яго паэзіі "Крык" быў апублікаваны толькі ў 1993 годзе. Паэзія В. Супруна — гэта крык зняволенай душы, крык роспачы чалавека, які не можа пагадзіцца з лёсам, з заняпадам роднай мовы, нацыянальнай культуры. Паэт часта звяртаецца да малітоўнай формы. У вершы "Мая малітва" просіць Бога, каб дапамог "устаяць супраць здзекаў, маны і прымусу і каб талент, стаpанні і праца... сталі плёнам святой Беларусі". Просіць умацаваць яго веру, падказаць у цярпенні дарогу да дабра, любові да Бога і Радзімы. Богу, як адзінаму заступніку, аддае свой лёс, надзеі і прызнаецца, што хоча жыць толькі доляй Айчыны. У зборніку "Крык" сімвалам пакут з'яўляецца крыж, а дзіўныя мары аб свабодзе выяўляе паэт у вобразе распятай "на кратах свабоды" ці "ўскрыжаванай на голлі каштана волі".

Матыў крыжа, цярністай дарогі паяўляецца таксама ў творчасці маладога пакалення беларускіх паэтаў і напамінае пра пагрозу нацыянальнай смерці. Крыж, які з'яўляецца сімвалам адыходу ў вечнасць, у разуменні Л. Рублеўскай — гэта смерць Радзімы, бацькаўшчыны, да якой прыкладаюць рукі многія з яе сыноў. Паэтэса стварае ўразлівы вобраз віны, які асацыіруецца з біблейскім матывам Юды-прадажніка. Ад імя ўсяго народа яна пакаянна прызнаецца: "у далоні Радзімы ўсе мы забівалі цвікі..."

У паэзіі Г. Тварановіч крыж абазначае імкненне да Бога, жаданне дакрануцца да святасці, апынуцца пад аховай Усявышняга і наталіць лагодай сэрца. Жаданню духоўнага ладу спадарожнічае ў лірыцы Тварановіч грахоўнасць недасканалай людской натуры. Асаблівай рысай паэтычнага "я" ў зборніку "Ускраек тысячагоддзя" з'яўляецца змаганне за чалавечую душу, за права быць дастойным называцца "божай істотай". Імкненне ўвысь да нябеснага, вечнага і зямнога, людскія жаданні — гэта дзве крайнасці, якія так цяжка прымірыць. Згодна з паэтычным уяўленнем паэтэсы зямныя, плоцкія грахі — гэта цвікі пакуты, якія чалавецтва забівае ў цела "аднойчы Раскрыжаванага".

Чарговы выявай крыжа з'яўляецца крыж Еўфрасінні Полацкай, а дакладней, крыж, які выканаў па заказе святой Лазар Богша. І крыж, і сама постаць Еўфрасінні — апякункі беларускай зямлі — любімы вобраз многіх паэтаў і пісьменнікаў, сімвал служэння высокай, боскай справе — Радзіме і Народу. Таму менавіта Еўфрасіння Полацкая, будучы нацыянальным скарбам, знаходзіцца ў першым радзе святых-заступнікаў, у якіх просіць дапамогі лірычны герой верша Зніча "Святы покрыў пад Беларуссю".

Крыж Еўфрасінні з'яўляецца ў літаратуры як напамін пра знішчэнне, грабежніцтва беларускай культуры, як напамін пра злачыннасць апантанага чалавецтва. У паэтычнай нізцы "Еўфрасіння Полацкая" Д. Бічэль-Загнетавай сімвалічнасць крыжа мяняецца згодна з семантыкай зместу. Напачатку ўзняты над Беларуссю крыж Богшы (зрабаваны нацыянальны скарб), напамінае пра пакутную гісторыю і няпэўную сучаснасць краіны. Метафарычнае апісанне крыжа спалучае паэтэса з рэлігійнай сімволікай дванаццаці прарокаў. Спалучэнне тайнага, высокага з рэальным, зямным праяўляецца ў творчай адухаўлёнасці Богшы, які "натхнёны не яснатой (Еўфрасінні. — **Н. П.**), стварыў, што стварыць немагчыма — як прызнанне ў любові, знак вечнай любові — крыж". Карыстаючыся прыёмам актуалізацыі, "паэтэса прадстаўляе крыж Богшы, як сімвал зямных пакут безнадзейна закаханага чалавека. Крыж, як мастацкі шэдэўр, — з'яўляецца сімвалам захаплення красой жанчыны, для якой "укрыжаваў ён сябе на вякі без надзеі".

Побач з матывам распяцця частым элементам беларускай паэтычнай творчасці ёсць Бог, да якога лірычнае "я" звяртаецца з просьбай асвяціць сваёй мудрасцю ачмурэлага ад улады чалавека (Зніч, "На скон народа"), або даць долю, шчасце беларускаму народу (І. Багдановіч, "***Над Бацькаўшчынай сумнай і прыгожай"). У малітвах да Бога, Хрыста, Божай Маці і Усіх Святых з'яўляюцца таксама просьбы асабістага характару, а менавіта: Р. Барадулін звяртаецца да Госпада з паэтычнай мальбой акінуць свaім позіркам найдаражэйшую па духу і крыві істоту "крывіцкую крывінку, крывічоўну — дачку". І. Багдановіч моліць Усявышняга абараняць яе ад зямных спакус і наталіць верай, лагодай і ласкаю. З хвалюючай малітвай-пакаяннем звяртаецца да Бога Я. Мальчэўская і роспачна благае: "О, Божа, не даруй, а пакарай..." Вінавацячы сябе, паэтэса пералічвае свае правіны перад Богам, Радзімай, Народам і моліць Усявышняга, "каб толькі тых, што Бога адракліся, Судзілі не па Страшнаму Суду".

Чарговым, пасрэдна звязаным з Бібліяй, матывам сучаснай беларускай паэзіі з'яўляецца палеміка вакол канфесіі. Пытанні талерантнасці і адміністрацыйнай палітыкі царкоў-

УРАЖАННЕ

# На мяжы паміж...

У штодзённым існаванні мы ў коле догмаў. У ім звыкла і зручна, бо наперад запраграмаваны нашы паводзіны і дзеянні. Свет, што наўкола, звужаны да нейкага мінімуму патрэб.

Але, дзякуй Богу, ёсць мастацкае слова. Чытаючы нетрадыцыйную паэзію, заснаваную на медытацыях, з відавочнасцю пераконваешся, што ўсё ў гэтым свеце не зусім простае, як здаецца са званіцы побыту. Скажам, час не толькі цячэ з мінулага праз сёння ў заўтра, а мае многія аблічы і вымярэнні. Прынамсі, гэта даводзіць у сваім вершаваным зборніку "Герой вайны за празрыстасць" (Мінск, БГАКЦ, 1998) Ігар Бабкоў, і яму міжволі верыш, бо ў рэчаіснасці, якую ён канструюе словам, менавіта гэтак і ёсць:

***Тут горад быў і з ліхтароў***
***Плыло святло і час гайдаўся***
***У брук аздобленых двароў***
***І вэлюм ночы ахінаўся...***

Па вялікім рахунку, у вершах, аб'яднаных у зборніку, шматмерная і шматаб'ёмная рэальнасць, створаная словам. У яе свае меціны, колеры і гукі. Свая глыбіня і шырыня. Ні вытворнасці, ні адбітку таго, што нам вядома ў наваколлі. Усё выштукоўваецца мастакоўскім уяўленнем. А яно жывіцца аналогіямі і паралелямі, парадоксамі і алагізмамі, якія ў кантэксце прымаюць іншы сэнс; яно тчэцца падсвядома з найтанчэйшай матэрыі — сноў, трызненняў і мрояў, якія недзе паміж містыкай і явай, на мяжы ўзвышанага, што падымае да неба ідэала, і зямнога, з чаго высноўваецца паўсядзённы побыт. Але — і гэта не цуд! — у многіх выпадках ніякіх прыкмет надуманасці і штучнасці. Такое ўражанне: у гэтую рэальнасць, якая жыве ў паэтычным радку, ступаеш лёгка і натуральна, як у восеньскую баравіну, дзе вабяць грыбныя і ягадныя мясціны, дзе асаблівы дух і водар прыроды. Хаця б нізка "Чатыры вершы Ван Вэю". Некалькі штрыхоў, у якіх палёт творчай фантазіі і абрысы дня позняй восені, — ствараецца выразны вобраз:

***Дзікія гусі***
***Зніклі за даляглядам***
***На халодным світанку***
***Шэрань***
***Кранае золкімі пальцамі абляцелае лісце***
***Вандроўнік***
***Дайшоў да самага скраю***
***Лета жаданняў...***

Тут дакладнасць малюнка, які кранае за душу нечым невымоўна-невытлумачальным. Напэўна, сваёй безабароннай празрыстасцю, у якой з'ява ці вобраз адкрываюць усю сваю сутнасць, не патрабуючы ні эмоцый, ні лішніх слоў.

У роздуме над праблемамі — і сусветнага маштабу, і асабістымі — паэт заглыбляецца ў невычэрпную сутнасць з'яў, выяўляе не вядомыя нам іх сувязі і дачыненні; яны, гэ-

# "Вясёлыя, бедныя, багатыя"

Георгій Марчук вядомы як аўтар раманаў "Крык на хутары", "Прызнанне ў забойстве", "Кветкі правінцыі", "Вочы і сон", "Сава Дым і яго палюбоўніцы", шэрагу аповесцяў, апавяданняў, навел. Улюбёны ў сваю "малую" радзіму Століншчыну, у родны Давыд-Гарадок, у якім нарадзіўся і вырас, Г.Марчук малюе ў сваіх творах яркія, запамінальныя і праўдзівыя карціны працы, побыту, душэўнага стану землякоў-палешукоў. Але не меншыя заслугі ў Г.Марчука і перад беларускай драматургіяй, у якой, дарэчы, і адбыўся дэбют яго як пісьменніка. Цяга да сцэны, да тэатральнага мастацтва аваладала ім яшчэ ў школе, калі ладзіў пастаноўкі ў школьным драмгуртку, спрабаваў пісаць п'есы-сцэнкі. Гэтая цяга акрэпла падчас працы кіраўніком гуртка мастацкай самадзейнасці пры Столінскім РДК, куды юнак уладкаваўся пасля няўдалага паступлення ў ВГІК. Сам Андрэй Макаёнак заўважыў немалыя драматургічныя здольнасці Г.Марчука і ўзяў яго пад сваю апеку. Пачынаючы пісьменнік пачаў актыўна друкавацца, да некаторых яго твораў звярталіся тэатры. У 1981 г. з'явіўся першы зборнік аднаактовак "Ад поўначы да світання". На сённяшні ж дзень у творчым багажы драматурга каля двух дзесяткаў п'ес. Амаль усе яны ўбачылі святло рампы ў самых розных тэатрах — ад сталічных прафесійных да раённых і пасялковых самадзейных.

Летась выйшла другая кніга камедый пісьменніка "Вясёлыя, бедныя, багатыя", у якой сабраны шматактовыя п'есы, створаныя ім у 70-я — пачатку 90-х гг. Адкрывае кнігу камедыя "Люцікі-кветачкі". П'еса пастаўленая ў 1974г. Мазырскім народным тэатрам пад кіраўніцтвам рэжысёра М.Коласа і доўга трымалася ў рэпертуары тэатра, нездарма ў кнізе твору папярэднічае прысвячэнне артыстам-мазырцам. Асноўным аб'ектам аўтарскай увагі сталі ў камедыі з'явы, звязаныя з залішнім імкненнем да накапіцельства, да "збірання капейкі".

Блізкая праблематыкай і колам дзейных асоб да гэтай п'есы камедыя "Вясёлыя, бед-

 ЧАСАПІС

## Дзеля будучыні Беларусі

Газета "Беларуская думка" выходзіла ў Вільні толькі з 28 красавіка 1919 года да 27 ліпеня гэтага ж года. Ды і з'явілася ўсяго 56 нумароў. Тым не менш гэтае выданне дэмакратычнага кірунку заслугоўвае, каб пра яго ведаць. Прыходзячы да чытача тры разы на тыдзень, газета імкнулася даць як мага больш аб'ектыўную інфармацыю аб тагачасных падзеях. Пра гэта сведчаць пастаянныя рубрыкі "БД" — "Беларусь", у якой змяшчаліся паведамленні з рэгіёнаў, "З газет", "Апошнія навіны", "У Вільні" і іншыя. Газета заклікала ўсе дэмакратычныя сілы краю, незалежна ад іх веравызнання і нацыянальнасці, аб'ядноўвацца ў імя будучыні Бацькаўшчыны, выступала за цэласнасць і непадзельнасць Беларусі, асвятляла польска-беларускія стасункі, удзяляла ўвагу публікацыям гістарычнай тэматыкі. Былі змешчаны творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, Старога Уласа, М. Арла, З. Бядулі і іншых пісьменнікаў. Значнае месца займалі агульнаасветныя і навукова-папулярныя публікацыі. "Беларуская думка" была закрыта польскімі акупацыйнымі ўладамі.

## "Полымя", N 2

Чытач атрымаў магчымасць пазнаёміцца з драматычнай паэмай А. Дударава "Чорная панна Нясвіжа", апавяданнямі М. Гіля "Байструк", А. Бадака "Сабака, які забыў сваё імя", а таксама Г. Чарказяна "Падсвечнік", "Скарб", "Лёгкія грозы", "Ратуючы жыццё...", "Агмень", "Камяні смутку і гневу", "Тэлі", "Кулірк", "Апошні клопат" у перакладзе з курдскай Р. Барадуліна. Змешчаны вершы М. Лужаніна, Р. Бялячыца, Н. Аксёнчык. Да гісторыі выдання аповесці В. Быкава "Мёртвым не баліць" прапануюцца дзённікавыя запісы былога дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" М. Дубянецкага. У раздзеле "Крытыка і літаратуразнаўства" друкуюцца артыкулы Т. Нуждзіной "Загадка Віктара Казько", В. Шынкарэнкі "Мелодыя жывога слова" (пра В. Яраца). А. Пашкевіч ("Па волі лёсу беларус") рэцэнзуе "Выбраныя творы" У. Жылкі, Э. Іофе ("З гісторыі беларускіх гарадоў") — даследаванне З. Шыбекі "Гарады Беларусі (60-ыя гады XIX — пачатак XX стагоддзя)".

## "Беларусь", N 3

"Маё жыццё — гэта маё жыццё..." — госць рубрыкі "Момант шчырасці" — Г. Лукашэнка. "Каго ж выбірае "птушка шчасця"?" — публіцыстычны роздум А. Гібок-Гібкоўскага. Фотапартрэт горада Слоніма з каментарамі гараджан прапануюць В. Жылін і І. Калюта. Я. Сіпакоў выступае з эсэ "Свята". Змешчаны лірычныя запісы Я. Брыля "трохі пагрэцца...", вершы Е. Лось, рэцэнзія Я. С. на кнігу "Канфесіі на Беларусі" ("У што мы верым?"), працяг дакументальнай аповесці Л. Левіна "Хатынь", слова Ю. Маліцкага пра настаўніцу В. Раманцэвіч "Як на Палессі ў летні дзень..." М. Макарцоў ("З душой і сэрцам Беларусі) расказвае пра народную артыстку М. Захарэвіч. Публікуюцца артыкулы Алены Яскевіч "Іконы Еўфрасінні: Чанстахоўскі і Эфескі абразы Божай Маці", І. Ждановіча "Рознакаляровая вера", іншыя матэрыялы.

## "Нёман", N 3

Змешчаны вершы Е. Лось (уступнае слова А. Васілевіч "Слава ляцела на крылах"), В. Лукшы, А. Пісарыка, А. Кудласевіча, Т. Лейкі, Л. Турбіной. Проза прадстаўлена апавяданнем А. Станюты "Порт-Элізабет" і заканчэннем рамана В. Праўдзіна "Вяртанне з "апаметнай". Друкуюцца працяг дзённікавых запісаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...", артыкулы Я. Сідаровіча "Зялёнае будаўніцтва", І. Жука "Жыццё на краі бездані". Я. Шунейка знаёміць з мастачкай А. Нядзелькай.

ПАЭЗІЯ

Мікола КУПРЭЕЎ



# Па праву радзіны...

### Балада пра мастака-бадзягу

*По кляновым лісці залатым*
*я ціха ішоў за ім.*

*Пахла печанай бульбаю, малаком*
*з яго кайстры. І навакол*
*пахла фарбамі.*
*Ён кульбай крывой*
*не даваў мне ступіць прад сабой.*

*Прасіў яго: "Дзядзечка, пакажы*
*тую фарбу — пяюць салаўі ад душы!"*

*Ён спыніўся, высокі, худы:*
*"Калі расцвітуць маладыя сады*
*ля разбітай варшаўскай шашы*
*і ў іх запяюць салаўі ад душы —*
*пакажу табе фарбу.*
*Цяпер яна спіць.*
*Што восенню ёй рабіць?!"*

*"Чаму ж сёння ты ў хаце Ніны*
*на сцяне ёй пакінуў сад салаўіны?"*

*Ён кайстраю грымнуў аб дол —*
*фарбамі ўсімі запахла наўкол.*

*За вугал мяне ён па вуліцы вёў*
*да пакінутых цётцы маёй салаўёў.*

*Бразнуў дзвярыма: "Глядзі!" —*
*На ложку сівая цётка сядзіць,*
*усміхаецца ціха сляза на шчацэ —*
*перад ёй залатая вясна на сцяне,*
*гладзіць рукой сіні сад*
*і дым*
*з двух комінаў,*
*лебедзяў маладых,*
*шукае рукою, смяецца і плача ўся:*
*"Ой няма, ой няма салаўя..."*

*Крыкнуў мастак: "Я ж яго маляваў!"*
*"Быў нядаўна — цяпер няма..."*

*Зірнула пад лаўку, за ікону ў кут:*
*"Схаваўся мой салавейка тут.*
*Не трывожце — ён пеў, хай пасціць,*
*побач лягу — яго прысніць..."*

*...у кляновым лісці залатым*
*ён кайстру мне даў*
*і пайшоў у дым.*

*Доўга ў лісці я стаяў і гадаў:*
*навошта бадзяга той кайстру мне даў?..*

СНЫ ЛЯ ДАРОГ

### Сіняўка — Ганцавічы

*Начы-рэчкі былое вада і алешнік пад маланкай і громам з нябёсаў упалі на плечы мне, і дзяўчынка ў сукенцы белай працягвае рукі з аблокаў, але я захлынуўся блакітнаю хваляй, зялёным лісцем, і рукі Яе сталі крылаем лябёдкі пад чорным тарфянікам.*

### Брагін — Камарын

*Сястра Сымона Блатуна ўзяла маю руку, і мы пайшлі на Калыбань, але рука Яе галінкай раптам стала, а сама Яна — бярозай, і галінка — белай, а бяроза — чорнай, потым — попелам, і попел мне на плечы ўпаў, і нехта прашаптаў: "На сталічных могілках Сымону скажаш: ён шчаслівы, што забіты быў і ў госці не прыехаў"...*

### Рагачоў — Ямнае

*"Сыне! З Вікоўскага кладаўя зданню паўстала і загуменнямі йшла, пад вокнамі нашае хаты стаяла, тваю мачыху бачыла, "дзякуй" маё занясі ёй, хацела пастукаць касцямі ў шыбу — твой бацька старэнькі раптам свята патушыў... Сыне, прачніся — ідзі". Я вочы расплюшчыў: сосны над кладаўем гойдаліся.*

### Ямнае — Карма

*"Я — твой прашчур Радзім. Дзе ты, радзіміч?"*
*"Тут. Мае ногі ў канаве, галава зарасла травой, ля вачэй медуніца, рамонкі і пчолы на іх, а вада, і трава, і кветкі пахнуць чарнобылам, пялёсткі рамонка чарнеюць, і пчолы джаліць не ўмеюць, і Сож не прымае канаву, і сэрца маё ледзь трымціць — канаю".*
*Па праву радзіны Радзім расхінуў мне грудзі, узяў маё сэрца збалелае, кінуў яго ў аблокі — плылі на захад,*
*назад на радзіму, —*
*і мне ў грудзі ўлажыў-урасціў палявы шэры камень, сказаў:*
*"Цяпер ты, Мікола, з каменным сэрцам. Устань і йдзі! І з сабою вазьмі маю дзіду!"*

### Агні ў Пячорах

Зоі МЕЛЬНІКАВАЙ

*Да вялікіх вярнуцца агнёў у пячорах,*
*да рытмаў камення, маланак,*
*вады і кап'я,*
*вярнуцца ў мядзведжыя скуры,*
*у тоўстыя губы, шырокія ноздры*
*і з-пад нізкіх і мудрых ілбоў сачыць,*
*як цякуць між пальцаў*
*воды лепае Лабы,*
*воды Дуная доннага...*

*...уранні працягвалі рукі*
*настрэчу чырвонаму сонцу,*
*жанчынам прыносілі шкуры мядзведзіц,*
*каб было цёпла ім і дзеці сыпаліся,*
*стралой малявалі аленяў*
*на скалах Карпатаў,*
*да соснаў шчакой прыціскаліся*
*ўвечары —*
*слухалі музыку дрэва...*

*...дайце дарогу, паэты! Брыду*
*да вялікіх агнёў у пячорах,*
*да мужчынаў — вялікіх Паэтаў.*

●

*Залатыя*
*аблокі плывуць*
*у алешнік маёй маладосці.*
*Там, у полі маім,*
*дзеўкі жыта жнуць,*
*ставіць снапы*
*залатыя*
*хтосьці...*

*А вы, хлопцы мае, усё п'яце*
*віно, малако і ваду...*
*У зямлю да мяне — у нябёсы —*
*прыйдзеце —*
*да вас на зямлю не сыду.*

*Пад крыжам маім*
*вы паставілі чарку з віном —*
*ды рукой праз труну не прабʼюся...*
*Сатлелі снапы залатыя даўно...*
*У пясчаных нябёсах сваіх уздыхну,*
*горкай слязой нап'юся.*

Анатоль МАЙСЕЕНКА



### Ты кажаш...

*Завяла трава,*
*Засохла і зерне ўсё —*
*Даўно не адорвала*
*Неба дажджом.*
*Ты з дому ідзеш*
*І не знаеш, ці вернешся,*
*А я і не ведаю,*
*Дзе ён, мой дом?*

*Ты кажаш, што я*
*Непазнана змяніўся:*
*Кульгаю ў дарозе,*
*І позірк завяў.*
*Дзень тлеў на двары,*
*І пагаслі агні ўсе,*
*Быў шлях мой такі,*
*Што я ледзь не сканаў.*

*На лёс наракаць*
*Ёсць нямала ахвочых,*
*А я, прытамлёны,*
*Адно папрашу:*
*Будзь, лёс, міласэрным,*
*Дай новыя вочы,*
*Але мне пакінь*
*Трапяткую душу.*

*Пры старце — надзея,*
*На фінішы — слёзы...*
*Такая спякота,*
*Успацеў бы і лёд.*
*І дрэмлюць ля хаты*
*Старыя бярозы,*
*І чмель, і пчала*
*Свой спынілі палёт.*

*Ты кажаш, што трэба*
*І мне ўгаманіцца —*
*Як коласу ў полі,*
*Ці ветру ў лісці?*
*Спачатку памерці,*
*Пасля паваліцца,*
*А зараз у заўтра*
*Да ночы —*
*Ісці!*

### Вам

*Мой твор ніхто шчэ не гартае,*
*І перш, чым несці слова ў друк,*
*Я свой радок сябрам чытаю, —*
*Ідзе прыстрэлка з першых рук.*

*Ды мой Пегас незацугляны*
*Сышоў пасціся абы-дзе.*
*Шукаю думку апантана,*
*А думка вобраз прывядзе.*

*Хачу знаць праўду без сакрэтаў.*
*Тут многа ісцін ці адна?*
*У якіх дзяржаўных кабінетах*
*Падзаблудзілася яна?*

*Бяда, калі сумленне згасла,*
*Тады ты станеш глух і слеп.*
*І твой жывот больш прагне масла,*
*Яшчэ й да масла — сыр на хлеб.*

*І ты, хоць штосьці бачыш, знаеш,*
*Не скажаш праўды ні вяршка.*
*І сваю песню зацугляеш,*
*На шчырасць — тонкая кішка!*

*І ты забыў усё дазвання,*
*І ўжо не зробіш адкрыцця*
*Цаною самазахавання*
*Свайго нікчэмнага жыцця!*

●

*Жывуць звяры і чалавекі*
*Паблізу траў ці ледзяшоў.*
*Вакол цябе лясы і рэкі —*
*Ты на гатовае прыйшоў.*

*Зямля, даўно не маладая,*
*З калыскі блізкая табе,*
*Не аднаго цябе люляе,*
*А хлеб не кожнаму дае.*

*Яна змяняецца бясконца,*
*Сваю штукуючы крайму.*
*Шумяць вятры, і свеціць сонца*
*Табе, заўваж, не аднаму.*

*З Зямлёй не кожны меў расстанне,*
*Хоць хто да зорак не ахвоч?*
*На ёй тваё было світанне,*
*На ёй твая настане ноч...*

*Зноў таньчаць ранішнія промні,*
*І птах узняўся на крыло.*
*І ты прачнуўся*
*І прыпомніў:*
*Цябе тут як і не было.*

*А за акном — цінь-цінь сініца,*
*Кудысь, вяртлявая, спяшыць...*
*Ах, каб хоць сёння не спазніцца —*
*Паспець сказаць,*
*Паспець зрабіць!*

●

*Плыве зямля сярод планет*
*Нібы чужая.*
*Мой дарагі, мой родны свет*
*Тут дагарае.*
*Ці сонца свеціць мне з нябёс,*
*Ці дождж працуе —*
*Не скарджуся на горкі лёс:*
*Ніхто не чуе.*

*Не быў у шчасцейка ў гасцях,*
*А зараз позна.*
*І сэрца тахкае ў грудзях*
*Даўно пагрозна.*

*Я падышоў да той мяжы,*
*Дзе розум млее.*
*Чаму, —*
*Хто знае, адкажы —*
*Душа німее?*

*Чым жыць бязродным малайцом*
*З вялікай лыжкай, —*
*Паміж пачаткам і канцом*
*Лепш стаць успышкай.*

*Мкне наша слова праз вякі*
*Чароўным скерца.*
*Нясу Радзіме не вянкі —*
*Душу і сэрца!*

ПРОЗА

# СМАЛУ К ДУБУ — НЕ ПРЫЛЕПІШ...

Леанід ЛЕВАНОВІЧ

АПАВЯДАННЕ



*Все человеческие радости бедны, есть в нас кто-то, кто внушает нам порой горькую жалость к самим себе.*

**І.Бунін. “Жыццё Арсеньнева”**

Як многа неспадзяваных сустрэч дорыць дарога!

Праўду кажучы, з гэтым чалавекам я б ніколі не сустрэўся, каб не закапрызіў мой “жыгулёнак”. Матор не заводзіўся, як я ні стараўся: спрацаваны акумулятар даваў слабы стартавы ток. Падрыхтаваў буксірны трос, стаяў з надзеяй, што нехта працягне хоць бы метраў дзесяць, і машына завядзецца. Такое ўжо здаралася.

Дзень быў хмурны, падаў густы мокры снег-хляба, як гавораць на Магілёўшчыне. Напрадвесні гэткая хляба — часты госць.

Я азіраўся па баках, чакаючы выратавальніка. І вось на стаянку заехалі зялёныя “Жыгулі” з вялізнай металічнай бочкай на багажніку. Падышоў да вадзіцеля, растлумачыў сітуацыю.

— Счапленне ў мяне слабенькае. Ды яшчэ з грузам. Не змагу...

Тым часам порстка падкаціла на стаянку бліскучая фарсістая “Мазда”. Крутаплечы дзяцюк у скуранцы ўжо замыкаў дзверцы, калі я наблізіўся да яго.

— Колькі баксаў каштуе ваша машына?

— Ды я ж не прадаю, — сумеўся я ад нечаканасці.

— Дзве тысячы ад сілы. А я за сваю аддаў шаснаццаць, — гэтае “шаснаццаць” ён вымавіў з падкрэсленай выразнасцю, ашчэрыўшы рот і паказаўшы ледзьве не ўсе зубы, наморшчыў тоўсты мясісты нос. — Мо ў вас і тармазы слабыя? Пацалуеце ў задніцу маю прыгажуню, тады не расхлябаемся... Калі ў мяне садзіцца акумулятар, я купляю новы. Што і вам раю зрабіць.

Дзяцюк адвярнуўся, даўшы зразумець, што размова закончана.

— Што ж, дзякуй за параду, — хутчэй падаўся ад “крутога” вадзіцеля, на хаду зірнуў на гадзіннік — яшчэ льга было паспець на аўтобус.

І вось еду. Пасажыраў не дужа багата, ёсць вольныя месцы. На пярэднім сядзенні месціўся стары з кульбаю. Ён спрабаваў загаварыць з суседзямі, але тыя неахвотна адказвалі на ягоныя пытанні. Я зірнуў на гадзіннік, калі аўтобус выбавіўся з гарадскіх абдымкаў.

— Колькі ў вас націкала? — стары пільна глядзеў на мяне.

Я адказаў. Стары падзякаваў, потым рашуча ўзяў свой саквояж.

— Не супраць, калі падсяду да вас? Там неяк нязручна.

Вядома, я не пярэчыў. Па ўсім было відно, што чалавеку вельмі карціць пагаварыць.

Стары пацікавіўся, куды я еду, пачуўшы адказ, весела прамовіў:

— А я да самага канца. У санаторый еду. Ну, а што рабіць? Надакучыла сядзець у кватэры, нібы ў клетцы. Нявестка касавурыцца. Сын у мяне добры. Можа, бачылі? Ён праводзіў мяне. Тут во, ля вадзіцеля развіталіся. Высокі, у акулярах. Намеснік генеральнага дырэктара. Праз нейкі час, можа, і сам стане генеральным... Башкавіты. І за чаркаю не ганяецца. У мяне яшчэ дзве дачкі. Яны старэйшыя. Хрушчоўскую праграму — мець трое дзяцей — я выканаў. Дочкі замужнія. Адна жыве ў Мінску, другая — у Віцебску. А сам я родам з Гомельшчыны. Нароўлю чулі?

— Чуў. Цукеркі там смачныя робяць.

— Точна. Нібы ў сук уляпілі, — узрадаваўся стары. — Цукеркі нашы лепшыя ў свеце. Ні амерыканскія, ні германскія ім не дакажуць. І не дарагія. І дужа смачныя. Ета ўжо хвакт.

Стары спытаўся пра маю сям’ю, яшчэ болей узрадаваўся, што і ў мяне ўжо ёсць унукі, пахваліўся, што ў яго шасцёра ўнукаў.

— Дык мо ўжо і пенсію маеце?

— Яшчэ не. Праз год будзе.

— Ну, ета блізка. Я і пасля пенсіі яшчэ чатыры гады рабіў. А цяперака колькі мне гадкоў, як вы думаеце?

Я павярнуўся да старога і пільней зірнуў-угледзеўся ў твар суседа, наколькі дазваляў паўзмрок аўтобуснага салона. Хударлявы маршчакаваты твар, белы шырокі лоб віднеўся з-пад старой зімовай, некалі фарсістай шапкі, невялікія вясёлыя вочы, прамы храшчаваты нос, яшчэ цвёрды падбародак і тонкія, сухія вусны. Усё выдавала, што стары меў характар, палец у рот яму не кладзі.

Вырашыў трохі падмаладзіць гаваркога суседа, сказаў, што яму гадоў шэсцьдзесят пяць.

— Э-ге, чалавеча, ашыбнуліся вы. І ведаеце, на колькі? Роўна на дванаццаць гадоў. Мне ўжо семдзесят сем стукнула. Ад мінулай суботы пайшоў семдзесят восьмы... Гады, братка, сур’ёзныя, ета хвакт. Але я не здаюся. Я ўсю вайну прайшоў...

— А дзе вас захапіла вайна? — праявіў я зацікаўленасць.

Стары памаўчаў, потым сцішана адказаў:

— Вось перадыхну трохі і адкажу, — голас яго неяк адразу зрабіўся глухаватым і стомленым.

Краем вока я зірнуў на суседа і здзівіўся: твар яго выдаваў бледным, стомленым, маршчыны рэзка акрэсліліся, і выглядаў сусед ніяк не маладзей сваіх гадоў.

•

Аўтобус імчаў наперад, шэрая стужка асфальту, асветленая жаўтлявым святлом фар, пакорліва слалася пад колы. У салоне ўладарыў паўзмрок, ад кабіны вадзіцеля чулася прыцішаная музыка. Стары паёрзаў на сядзенні, зручней уладкаваў сваю кульбу каля нагі.

— Ну, дык слухай, братка, — сусед чамусьці перайшоў на “ты”. — Вайна захапіла мяне на Волзе, пад Камышынам. Я ўжо год быў адслужыў. Я дваццаць першага года нараджэння. Тады толькі дваццаць стукнула. І тут вайна. Паднялі нас па трывозе. Пачалі збірацца, камплектавацца. Узводны кажа: “Ну, Мікола, катанем у Беларусь”. Ён тожа быў з Беларусі, з Магілёўшчыны. Прайшло колькі дзён. А мы ўсё на месцы. Чакаем эшалона. Ноччу пагрузілі. У дарозе пачулі: Мінск захапілі немцы. Не мог даць веры. Як ета за тыдзень Мінск аддалі? Усё нам гаварылі, што будзем біць ворага на ягонай тэрыторыі. На сваю — і блізка не пусцім. Карацей, братка, першы бой пад Оршай. Можа, чуў, што пад Оршай упершыню “кацюшы” зайгралі? Дык вось я там быў. Праўда, ета не наш полк. Другі... Недалёка ад Оршы ёсць вёска Юр’ева. Ладная вёска. Там першы раз мяне параніла. Асколак дзеўбануў у левае плячо, ключыцу перабіў. Каб ніжэй — капцы...

Дзед Мікола раптам змоўк, нібы асекся. Доўга маўчаў, потым падаў голас:

— Падумаць толькі, ужо болей паўсотні гадоў косці мае зямельку б парылі... Не было б у мяне ні жонкі, ні дзяцей, ні ўнукаў... Людзі тады гінулі, як мухі. І ўзводны мой, зямляк, у першым баі галаву паклаў... А мне пашанцавала. Спярша адвезлі ў Смаленск. Там зрабілі аперацыю. Немец пёр на Маскву. Ноччу былі чуваць выбухі. Павезлі параненых далей. Мяне адтарабанілі аж у Волагду... От цяпер, калі перадаюць песню пра еты горад, дык усё кідаю. Сяджу, слухаю і плачу. Чаму плачу? Сам не ведаю. Здаецца, доўга жыву. Усяго нагледзеўся. І ў той жа час, здаецца, жыццё прамільгнула, як адзін дзень... Ці даўно ў той Волагдзе, калі ачуняў трохі, першае каханне зведаў... Да арміі не было калі і да дзевак хадзіць...

Стары змоўк, зашморгаў носам, выцягнуў з кішэні хусцінку, доўга выціраў вочы.

— Пачакай, братка, перадыхну трохі, яшчэ нешта ўспомню... Памяць, як рэшата зрабілася. Але ўсё ранейшае помніцца добра... Пасля шпіталю трапіў на курсы радыстаў. Снарады падносіць не мог. Узяліся вучыць. Ужо не зважалі, што бацька раскулачаны. А мне было мо якіх дзесяць гадоў, калі яго забралі. Матка адна чацвёра дзяцей гадавала... Ой, хапіла ліха. І да вайны, і ў вайну, і пасля яе... Вось такое, братка, жыццё. Ну, скончыў курсы, зноў служыў у артылерыі. Маскву абараняў. Пад Сталінградам быў. Але самае страшнае пекла пабачыў на Курскай дузе... Вось уяві сабе. Тут Курск, — ён тыцнуў кульбаю ў цемру над пярэднім крэслам, — а тут — Арол. Паміж імі етая дуга. І сышліся тут мільённыя арміі. Тысячы ствалоў артылерыі. Я радыстам на батарэі, а другі наш радыст на перадку. Ён перадае каардынаты мне, а я выдаю камандзіру... Спярша немец пайшоў у наступленне. Дзён пяць пёр, а мы яго перамолвалі. А потым рушылі мы... Божа мілы, што там рабілася! Усё гарыць, вакол выбухі. Здаецца, што зямля ўзбурылася дагары нагамі... Груды скарожанага металу, штабялі трупаў... Як я ацалеў, да гэтага часу дзіўлюся. Бывае, і цяпер прачнуся: няўжо я жывы? Праўда, пад Курскам параніла ізноў. У правую нагу. Вышэй калена скубанула. Месяцы тры кантаваўся ў шпіталі... Чакай, братка, трохі аддыхаюся, тады яшчэ нешта раскажу...

•

Апавядальнік змоўк, палез у кішэню па хусцінку, выпусціў з рук кульбу, яна бразнулася на падлогу.

— Ат, хай ляжыць, — махнуў рукой Мікола, кульбу не стаў падымаць.

Аўтобус мякка пагойдваўся, пасажыры драмалі, некаторыя сцішана перамаўляліся.

— Цікава, колькі ета часу? — ён выцягнуў з нагруднай кішэнькі круглы, пляскаты гадзіннік на ланцужку. — Ета ж во сын падарыў... Купіў за восемсот тысяч. Тут во ордэн Айчыннай вайны намаляваны. Гадзіннік для такіх, як я, ветэранаў. Наравіцца, што ён круглы і на ланцужку. Пасля вайны ў мяне такі быў. Шмат гадоў служыў. Цёмна, не разабраць, якая ўжо гадзіна...

Пры святле фар сустрэчнай машыны я згледзеў стрэлкі на сваім гадзінніку, сказаў Міколу.

— О, дык яшчэ доўга ехаць... Пасля Курскай дугі я вызваляў Беларусь. Гомель мы бралі. А ў студзені сорак чацвёртага аслабанілі Калінкавічы. Прасіўся дамоў заскочыць — паўсотні вёрст. Не пусцілі. Праўда, пазней з’ездзіў. Матку адшукаў, сястру малодшую. А старэйшую немцы забралі ў Нямеччыну. Брат старэйшы загінуў пад Масквой. Было ў маткі слёз... А што я жывы — радавалася. Разбітую ключыцу не паказаў. Во, кажу, нагу трохі драпанула... Ну, пагналі мы фрыца далей. Беларусь аслабанілі. Затым — Польшчу, уступілі ў Нямеччыну. Пачалі ўжо думаць, што вернемся дамоў жывымі. Друг у мяне быў, Валодзька Кузняцоў, родам з Урала. Дзіўны быў хлопец. Бывала, пасля бою ляжа на шынялёк, галаву на бруствер і дае храпака. Камандзір разбудзіць: “Кузняцоў, марш у траншэю! Што ты пуза выставіў? Куля ці асколак — і гамон”. А ён кажа: “Чаго мне хавацца? Не сёння, дык заўтра будзе гамон...” А тут гляджу, хавацца стаў. То ў раўчук, то ў траншэю. Берагчы пачаў русую галаву. Але не ўбярогся. Дні за тры да перамогі знайшла яго куля... Вось так, братка. І пасля перамогі людзі гінулі.

Апавядальнік надоўга змоўк. Маўчаў і я, бо разумеў, што Мікола ўсё ранейшае быццам перажывае нанава.

•

— Ну, вярнуўся я дамоў. Прафесіі няма. Радыст ці артылерыст на грамадзянцы непатрэбныя, — зноў загаварыў Мікола. Відаць, апошнім часам не меў ён зацікаўленага слухача, і таму ахвотна апавядаў пра сваё жыццё свежаму чалавеку. — Пайшоў я працаваць у райпрамкамбінат. Дошкі пілавалі, рознае начынне для дома рабілі. Работы хапала. А харчы слабыя. Бывала, намахаешся за дзень, ледзь дахаты прыцягнешся. Ні на танцы, ні на шманцы... Плячо балець пачало. А сам жа саўсім малады, бабы голай не бачыў... Дачуўся пра мяне дзядзька Васіль, малодшы бацькаў брат. Ён уцёк ад раскулачвання на Віцебшчыну, ды і замалады яшчэ быў для ворага калгаса. Працаваў ён на маслазаводзе, тэхнолагам. Піша: прыязджай, уладкую. Паехаў. Спачатку рабочым быў. Прымусіў дзядзька ў вячэрняй школе вучыцца. Потым завочна тэхнікум скончыў. Тэхнолагам прызначылі. А затым і дырэктарам завода стаў... Тады ўсе начальнікі былі або франтавікі, або партызаны. Некаторыя співаліся. Было такое. Іншыя выбіваліся ў людзі. Ну, ажаніўся я. Яшчэ калі ў тэхнікуме вучыўся. Ой, братка, было цяжка! Работа, жонка маладая, а тут экзамены на носе. Жонка ў лабараторыі працавала, на нашым заводзе. Я быў начальнікам для яе. Дзеці пайшлі. Адна дачка, другая. Потым сын нарадзіўся. Закончыў я вучобу. Ключыца загаілася. Абдымаць жанчын яна не замінала, — дзед Мікола ўсміхнуўся, памаўчаў. — Адчуў я смак і радасць жыцця. Зямлі не чуў пад сабой... Работа падабалася. І ў сям’і ўсё ладам ішло. Хто мог падумаць, што так павернецца?

Мікола зноў зрабіў паўзу, а я насцярожыўся, прадчуваючы нейкі паварот у жыцці майго апавядальніка.

— Пражылі мы з жонкай больш як сорак гадоў. Дзяцей паднялі, унукаў дачакаліся. А цяпер жывем асобна. Яны ў дачкі ў Віцебску, а я ў сына... Вось пяцігодку ўжо агаралі. Як дзве незалежныя дзяржавы. А калі папросту, дык як кот з сабакам. Яна ў рэлігію кінулася. Усё моліцца, а на мяне бочкі коціць. Ты, кажа, грэшнік, злодзей, бабнік, п’янтос, — Мікола прыцішыў голас, прыхінуўся да мяне бліжэй, каб меней чулі суседзі. — Вось так, братка, жыццё павярнулася.

Мікола змоўк, цяжка ўздыхнуў. Маўчаў і я, бо не чакаў такога павароту, ды і чым суцешыць чалавека, дзе знайсці тыя словы...

— Калі ёсць Бог... Хоць я не веру, што ён ёсць. Рэлігія — міф. Прыгожы, вельмі патрэбны. Бо чалавек, калі без веры, саўсім аскацініцца, азвярэе... Я верыў у камунізм. Для мяне партбілет, што для верніка — малітоўнік... А мне і Бог, калі ён ёсць, даруе. Такую вайну прайшоў, малады, нецалаваны. Потым працаваў, у вячэрняй школе вучыўся, а тады ў тэхнікуме. Свету белага не бачыў. Жанчын не заўважаў. А як стаў дырэктарам, жанчыны самі ішлі ў рукі. Ета як масць у картах — калі ідзе, дык ідзе. І выпіўкі былі. І масла, здаралася, ішло налева. Але ў выцвярэзнік не трапляў, у турме не сядзеў... Ці ведаеш, братка, самую паскудную рысу ў характары беларуса? Не здагадаешся. Зайздрасць. Знайшліся зайздроснікі. Добра жыве Мікола Старасценка. Як ета так? Адну кляўзу накаталі, другую... Пачалі мяне трэсці. Адна рэвізія, другая. А хібы ў любой гаспадарцы, на любым заводзе можна знайсці. Бачу, дзела пахне карасінам, трэба зматваць вуды... Давялося звольніцца. Ну, “страгача” ўлупілі па партыйнай лініі. Вырашыў вярнуцца на Гомельшчыну. Жонка не пярэчыла. Пазней прызналася, маўляў, згадзілася на пераезд, каб адарваць ад палюбоўніц... Атабарыліся ў адным райцэнтры. Недалёка ад Нароўлі. Пачаў працаваць у гартопе. Праз пару гадоў прызначылі начальнікам. Дочкі вучыліся. Адна ў Віцебску ў медыцынскім, другая ў Мінску ў педагагічным. Потым сын паступіў у політэхнічны. Трэба пасабляць. Сам сіратою рос. Зведаў і холад, і голад. Хай дзеці жывуць па-людску... На рабоце ўсё ішло гладка. Брыкету было навалам. Дроў — таксама. Сюды машыну, туды машыну. Вось цяпер мая клізма дапякае: ты махляваў і з маслам, і з брыкетам. Бывала. Затое дочкі кватэры маюць...

Мне вельмі хацелася запярэчыць дзеду Міколу, падтрымаць ягоную жонку. Але тады б споведзь скончылася. Ён быццам адчуў, пра што я падумаў, рэзка сказаў:

— Жонка пачала мяне грызці, як пайшоў на пенсію. А раней маўчала. Даю грошы, кажу, машыну брыкету фугануў налева. Дык яна ні разу не адмовілася. Аберуч грошы хапала. Вочы ад радасці, а мо ад прагнасці блішчэлі... Ат, што з бабы возьмеш? Смалу к дубу — не прылепіш. Так вось і жывём. Сын яе кліча: вярніся, мама, жывіце ў нас, не смяшыце людзей. Ні ў якую. Я ўжо і не заву.

(Працяг на стар. 12)

## Поспехі вучняў

**У Маскве завяршылася IV юначая асамблея мастацтваў. Сярод піяністаў 11—14 гадоў лепшым стаў вучань 9-га класа Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі (клас Я. Пуксга) Данііл Шлеянкоў. Ён заняў другое месца, а першае не прысуджана нікому. Трэцяй стала прадстаўніца Санкт-Пецярбурга.**

**На трэцім туры Данііл граў канцэрт N 1 Соль мінор для фартэпіяна з аркестрам Ф. Мендэльсона. Партыю аркестра на другім раялі выканаў педагог хлопчыка — Яўген Пукст. Гэта быў цікавы дуэт таленавітых піяністаў.**

**Шлях да перамогі Данііла Шлеянкова на гэтым конкурсе быў нялёгкім. У першым туры трэба было прадставіць аўдыёкасету, на якой былі запісаны ў яго выкананні творы І. С. Баха, М. Машкоўскага, Ф. Шапэна. Спаборнічалі 200 юных піяністаў, а на другі тур прайшлі 40, якім трэба было падрыхтаваць відэакасету. (На ёй у выкананні Данііла прагучалі дзве часткі 16-й санаты Л. Бетховена, Эцюд-карціна Рэ мажор С. Рахманінава і "Мефіста-вальс" Ф. Ліста).**

**Юныя беларускія музыканты паспяхова выступалі на гэтым прэстыжным конкурсе і раней: у 1992-м трубач Андрэй Кавалінскі, у 1996-м — віяланчэліст Георгій Анішчанка.**

**Вучні Я. Пукста днямі атрымалі яшчэ адну творчую перамогу. Лаўрэатам І Міжнароднага фестывалю фартэпіяннай музыкі ў Брэсце стала вучаніца 11 класа каледжа Марына Рамейка, якая за паўгадзіны ігры паказала свае лепшыя выканаўчыя якасці, творчую індывідуальнасць. Адзінаццацікласнік Аляксандр Баравікоў стаў дыпламантам гэтага фестывалю.**

**Вера КРОЗ**

## "Бум-бам-літ" прэзентуе...

**21 красавіка ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася сустрэча моладзі з сябрамі аб'яднання "Бум-бам-літ": Юрасём Барысевічам, Альгердам Бахарэвічам, Зміцерам Вішнёвым, Віктарам Жыбулем, Сержам Мінскевічам і Алесем Туровічам.**

**Акрамя вершаў і песень "бумбамлітаўцаў", на вечарыне прагучалі і творы прадстаўнікоў творчай сферы "Вулей", якія трошкі распавялі пра сябе і зрабілі своеасаблівую прэзентацыю новага нумара газеты "Соты".**

**У зале, дзе праводзілася сустрэча, экспануецца выстава, прысвечаная чатырохгадовай дзейнасці творчага руху "Бум-бам-літ". Тут можна пабачыць старыя афішы акцый, здымкі выступленняў, мастацкія творы Віктара Жыбуля, Алеся і Ірыны Туровічаў, кнігі, друкапісы, артыкулы-маніфесты. А на самым ганаровым месцы знаходзіцца легендарны Тазік — сімвал і талісман ББЛ.**

**Выстава будзе працаваць да 5 траўня.**

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

## Творчыя грані Ігара Сямекі

**Сябра Беларускага Саюза мастакоў Ігар Сямека нарадзіўся ў Гомелі. І ўвесь яго творчы шлях звязаны з родным горадам. Менавіта сюды мастак вярнуўся пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (сённяшняя Акадэмія мастацтваў). Выканаў Сямека некалькі манументальных работ, якія сталі сапраўдным упрыгожаннем Гомеля. Плённа працуе мастак і ў станковым жывапісе, у графіцы. Прыхільнікі мастацтва добра ведаюць ягоныя творы "Плошча Перамогі", "Траецкае прадмесце", "Чорны і белы анёлы"...**

**У гэтыя дні ў карціннай галерэі абласной арганізацыі СМ праходзіць персанальная выстава Ігара Сямекі, якая дае ўяўленне аб шматгранным творчасці майстра.**

**Дадам, што Ігар Сямека працаваў у свой час галоўным мастаком горада Гомеля, выбіраўся старшынёй праўлення абласной арганізацыі СМ.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*г. Гомель*

# Viva la Gajda!

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Так, будуць мінаць гады, шумець і адыходзіць чарговыя тэатральныя сезоны, але ў гісторыі нацыянальнай культуры яна назаўжды застанецца першай Лэдзі аперэты, заснавальніцай беларускага тэатра музычнай камедыі.

Як слушна сцвярджала адна з самых аўтарытэтных даследчыц творчасці артысткі музыказнаўца Э. Шумілава, "калі б было прынята не толькі сярод спартсменаў, але і сярод артыстаў складаць зборныя алімпійскія каманды, у зборную савецкай аперэты Н. Гайда, бясспрэчна, увайшла б адной з самых першых, самых лепшых, самых годных... Яна ўзвышае мастацкі вобраз аперэты да сапраўднага жыцця чалавечага духу. Шчаслівы дар вялікай артысткі, які належыць выдатнаму, духоўна багатаму, шчодраму, абаяльнаму чалавеку". І цяжка, відаць, сказаць лепш.

Але вернемся — не, не на 35 гадоў назад, да пачатку творчага шляху актрысы, — а ў таксама досыць далёкі 1973-і. Для ўсіх гэтая дата зусім шараговая, але не для мяне. Менавіта тады нясмелым юнаком я прыехаў ад роднай Нарачы ў шумлівы сталічны Мінск — вучыцца на філфаку БДУ. Наш курс займаўся ў другую змену, заняткі заканчваліся амаль а 19-ай. Але з зычлівай згоды выкладчыкаў за 5—10 хвілін да канца лекцыі я ўжо бег туды, дзе гарэла рампа, запальваліся сафіты, шумела глядзельная зала, — у тэатр. Першым і назаўжды любімым стаўся для мяне тэатр музычнай камедыі. Дзякаваць Богу, штодзённага маладога бывальца заўважыла колішняя касірка тэатра Марыя Сяргееўна і па-мацярынску падтрымала: прапаноўвала больш танныя білеты (з разлікам на студэнцкую стыпендыю), падказвала, дзе адбудзецца наступны спектакль (тэатр, як вядома, доўгі час быў беспрытульным, вандруючы з Палаца культуры прафсаюзаў у клуб імя Дзяржынскага, а адтуль у Дом афіцэраў). Аднак галоўная паслуга была ў іншым — касірка падказвала, калі ў спектаклі будзе зноў занятая Яна. На самым пачатку я яшчэ не ведаў яе імені, проста вылучаў на сцэне сярод іншых выканаўцаў асаблівы голас, пластыку, абаяльнасць і натуральнасць.

Дарэчы, тут я хацеў бы зрабіць зусім невялікае адступленне ад тэмы гаворкі і сказаць колькі ўдзячных слоў тым працаўнікам тэатра, якія не красуюцца перад гледачамі, але без якіх ён (тэатр) быў бы ўсяго толькі арганізацыяй па пракату спектакляў. Сярод іх — бутафораў, касцюмераў, асвятляльнікаў, капельдынераў — з асаблівай павагай і цеплынёй называю імя касіркі іншага — купалаўскага — тэатра Леакадзіі Іосіфаўны Сарокі. Гэтая сардэчная жанчына (зрэшты, таксама прыхільніца таленту Н. Гайды) спрычынілася да таго, што купалаўцы сталі роднымі не толькі для мяне, але і сотням маіх студэнтаў.

Сёння, азіраючыся назад, я спрабую растлумачыць сабе і сваім высокаінтэлектуальным калегам і прыяцелям, чаму лёс звёў мяне менавіта з "легкадумнай" аперэтай. Адназначнага адказу няма, бо, як сказаў адзін мудры чалавек, калі ты ведаеш, што кахаеш жанчыну за дабрыню і пяшчотнасць, то любіш, кахаеш менавіта гэтыя якасці, а не самога чалавека. А вось калі не ведаеш... Аперэта ж — таксама істота жаночага роду.

Відаць, гэтаксама глыбіннай унутранай інтуіцыяй кіравалася семнаццацігадовая сібірская дзяўчына, калі пасля заканчэння школы ў Іркуцку вырашыла паступаць у музычнае вучылішча пры Маскоўскай кансерваторыі. Яе не адстрашыла, але крыху ацвярэзіла і наступная няўдалая спроба, а таму, папрацаваўшы лабаранткай у геолагаразведчым трэсце, Наташа паступае ў... Свярдлоўскі юрыдычны інстытут. Пачаліся нялёгкія, але вясёлыя студэнцкія гады, удзел у канцэртах мастацкай самадзейнасці. А далей была шчаслівая паваротка лёсу — знаёмства з выкладчыцай кансерваторыі Л. Драздовай. Пасля Н. Гайда атрымлівае дыплом юрыста, адначасова займаючыся на вячэрнім аддзяленні славутай Свярдлоўскай кансерваторыі.

Не буду далей падрабязна пераказваць усе перыпетыі лёсу будучай зоркі. Яны добра вядомыя абазнанаму ў тэатральных справах чытачу. Зазначу толькі, што сёння з асаблівай цеплынёй і ўдзячнасцю Наталля Віктараўна згадвае педагагічны і чалавечы талент Людмілы Флегантаўны Драздовай, зацікаўленую ўвагу славутага рэжысёра У. Курачкіна, прыязную ацэнку маладой артысткі вельмі скупой на кампліменты знакамітай актрысы М. Вікс (прысуду якой баяліся ўсе пачаткоўцы).

Ёсць усё ж яшчэ адзін, менш вядомы шырокаму колу тэатралаў эпізод з яе жыцця. Займаючыся класічным оперным вакалам, Н. Гайда ўпотайкі ад строгіх "акадэмікаў" ад музыкі ўдзельнічала ў невялікай канцэртнай суполцы, якая выконвала... джаз. Як каго, а мяне гэты факт зусім не здзіўляе. За ім — адвечнае нежаданне талента быць апрыёры запраграмаваным, уціснутым у рамкі і каноны (60-ыя гады!), шматмернасць, стэрэаскапічнасць сапраўднага творцы. Але за ім і іншае — характар самой артысткі, у якім спалучаны інтэлігентнасць і дэмакратызм, а таксама — пікантнасць, добрая гарэзлівасць, схільнасць да імправізацыі, праслаўленая "часцінка чорта". Сярод джазавых хаўруснікаў быў і слынны сёння бард Аляксандр Дольскі. Колькі гадоў таму ён гастраляваў у Мінску і ў шэрагу іншых даў канцэрт для музычна-тэатральнай эліты (багемы?) горада. Памятаю, як настальгічна слухала артыста Наталля Віктараўна і нервова пыталася ў мяне: "Як вы думаеце, ці пазнае? Усё ж столькі часу мінула..." Пазнаў. І пад чулыя воплескі залы выканаў у яе гонар і ў памяць сваёй студэнцкай маладосці бліскучую кампазіцыю ў джазавым стылі.





І зноў, ужыўшы вядомы вобраз А. Куляшова, павернем назад раку памяці і вернемся ў 17 студзеня 1965 года — дзень тэатральнага дэбюту Н. Гайды. Гэта была Б'янка ў оперы В. Шабаліна "Утаймаванне свавольніцы", было страшэннае хваляванне напачатку і нязвыклая лёгкасць потым — быў поспех.

Далейшыя вехі жыццёвага і творчага лёсу артысткі пазначаны скрупулёзнымі даследчыкамі ды скупымі радкамі энцыклапедый і даведнікаў. На сцэне Свярдлоўскага, а потым Беларускага тэатраў оперы і балета Н. Гайда выканала шэраг адметных партый лірычнага і лірыка-каларатурнага сапрана. Сярод іх Мюзэта ў "Багеме" Д. Пучыні, Джыльда ў "Рыгалета" Д. Вердзі, Марфа ў "Царскай нявесце" М. Рымскага-Корсакава. І несправакаваныя гледачы, і знаўцы опернага мастацтва хто інтуітыўна, а хто і прафесійна доказна адзначалі нязмушанасць спеваў і зайздросную арганічнасць сцэнічнага існавання маладой артысткі, якая, здавалася, зусім не сачыла за жэстамі дырыжораў, — і ўсе ацанілі яе палётны, цёплага тэмбру голас. Сталася ўжо традыцыйным згадваць эпізод у Крамлёўскім тэатры, калі ў грымёрку да маладой Н.Гайды-Мюзэты зайшоў сам І. С. Казлоўскі і, пацалаваўшы руку, сказаў: "Вы — шампанскае!"



А шампанскае, як вядома, — неад'емны атрыбут аперэты. Далейшы лёс артысткі быў, такім чынам, прадвызначаны. Натуральна, не словамі знакамітага тэнара, а самой прыродай яе сінтэтычнага творчага дару, зрэшты, характарам самой Н. Гайды: як аперэта, віталістычнай, пікантнай, лірычнай, жаноцкай. З 1970 года спявачка становіцца салісткай тэатра музкамедыі. І адразу вядучай. Былі, праўда, скептыкі, якія сумняваліся ў здольнасці ўладальніцы лёгкага высокага сапрана справіцца з тэсітурна нязручнымі, "прамежкавымі" аперэтачнымі партыямі. Аднак і ў размове з колішнім міністрам культуры Ю. Міхневічам, і, самае галоўнае, сваёй працай Наталля Гайда пераканаўча давяла правы звацца каралевай чардаша.

А пачалося ўсё супрацоўніцтвам з незабыўным Ю. Семянякам. Іх творчыя дарогі сышліся неяк вельмі арганічна і надоўга. Зрэшты, адгорнем зноў старонкі памяці і паслухаем словы кампазітара, якія прагучалі са старонак "ЛіМа" роўна дзесяць гадоў таму.

"Пяе жаваранак"... У галоўнай ролі Ірыны — Н. Гайда... Яна была непаўторнай,

усё, што рабіла актрыса на сцэне, было вельмі цікава. Роля драматычная. Тут для паспяховай працы адной "школы" малавата, тут павінна быць, як у народзе кажуць, "ад бога" — а Наталлі Віктараўне дадзены шчодры дар... І вось калі я ўбачыў Гайду — Ірыну, цвёрда вырашыў, што буду пісаць "Паўлінку" і што Паўлінкай будзе Гайда... Усё, зробленае Н. Гайдай на тэатральнай сцэне, на мой погляд, з'яўляецца нашай нацыянальнай каштоўнасцю, акцёрскай і вакальнай класікай".

Тут я хацеў бы звярнуць увагу на адзін, а менавіта моўны, нюанс. Толькі нядаўна прыехаўшы на Беларусь, карэнная сібірачка рызыкнула сыграць на беларускай мове. Ды каго — Паўлінку! Безумоўнаму поспеху актрысы зноў паспрыялі яе бездакорнае інтанацыйна-музычнае чуццё і найвышэйшы прафесіяналізм. Мушу з горыччу зазначыць, што далёка не ўсе акцёры нацыянальных драматычных тэатраў (у адрозненне ад Н. Гайды) звяртаюць належную ўвагу на лексічную дакладнасць і фенамен фанетычнай асімілятыўнай мяккасці ("сьнег"). Дарэчы, артыстка аперэты можа "даць фору" некаторым рамеснікам ад драмы і ў дакладнасці артыкуляцыі, калі кожнае прамоўленае ці праспяванае слова "далятае" да гледача.

А ўсё гэта — кампаненты "знешняга", кампаненты акцёрскай тэхнікі, драматычнага майстэрства, якія дапамагаюць артыстцы выявіць унутраную глыбіню спасціжэння вобраза.

"Мост мары" В. Лебедзева. Спектакль ішоў нядоўга, няшмат хто з маіх равеснікаў яго памятае. У час бясконцых пераездаў псаваліся дэкарацыі, змяняўся склад выканаўцаў, многія з аматараў аперэтачнага "шыку" прынялі яго ў штыкі. Іх бянтэжыла ўжо тое, што на галоўнай гераіні замест фальшывых дыядэмаў — звычайны рабочы камбінезон, замест прыклееных веек і накладных шыньёнаў — каротка стрыжаныя валасы і акуляры, замест імітацыі цыганскага танца ці канкана — акрабатычнае кола.

А між тым Н. Гайда і яе калегі-аднадумцы распавядалі нам адвечную, але ад гэтага не менш шчымлівую, кранальную гісторыю пра шчасліва-сумную недасяжнасць мары, недасяжнасць метэрлінкаўскай Сіняй птушкі шчасця. Добрая літаратура (А. Драбкіна), выразная, адметная музыка (В. Лебедзеў) і бліскучая (у высокім сэнсе гэтага слова) Н. Гайда — Марына.

Такіх здзіўленняў актрыса падаравала нам шмат. Яна здзіўляла і здзіўляе зайздроснай "стыльнасцю", умельствам насіць шыкоўныя строі і "шыкоўна" спяваць ("Viva la Mamma", "Сільва", "Шклянка вады") і гэтаксама арганічна пачувацца ў парыку і балахоне блазна, балетным трыко ці лахманах старой ("Гуляем у прынца і жабрака", "Джулія", "Дарагая Памела"). Здаецца, толькі ёй пад сілу так экспрэсіўна і зноў жа пікантна станцаваць "Тангаліту" ці "Тэм-том-том". Памятаю, з якой асалодай працаваў з ёй і як ганарыўся-пахваляўся Гайдай перад сваімі калегамі вялікі танцоўшчык і харэограф С. Дрэчын, як захоплена сачыў за любімай артысткай вялікі рэжысёр С. Штэйн.

Вось і прагучала гэтае небяспечнае слова — вялікі. Пералік зорак аперэты доўжыцца з XIX стагоддзя да нашых дзён. Вытанчаная Гартэнзія Шнэйдар, абсыпаная брыльянтамі Вікторыя Кавецка, танцавальныя каралевы Марыка Рок і Лёда Халяма, магнетычная Хана Хонці...

Так склалася, што я меў шчаслівую магчымасць бачыць спектаклі "Комішэ Опер", Будапешцкай, Венскай, Варшаўскай аперэт, большасці тэатраў музкамедыі былога СССР. Таму, здаецца, маю права сцвярджаць: тут, у Мінску, побач з намі, жыве і працуе вялікая артыстка, зорка еўрапейскай велічыні. І толькі, мусіць, нашая адвечная сціпласць ды правінцыйная абачлівая асцярожнасць не дазваляюць сказаць пра гэта на поўны голас. Дык зробім жа гэта хоць бы ў пярэдадзень яе юбілейнага І мая.

***Ёсць імёны, якія рыфмуюцца***
***з прызначэннем,***
***Са шчырасцю, талентам***
***і бласлаўеннем.***
***Рыфмуюцца з Кальманам,***
***Штраусам, Гайднам.***
***Дык — Viva la Gajda!***
***Viva la Gajda!***

**Віктар КАРАТАЙ**

*На здымках — Яна, сама непаўторнасць!*

*Фота Віт. АМІНАВА*

ТВОРЧАСЦЬ

# Яны сілкуюцца музыкай...

***Чыстыя, празрыстыя, серабрыстыя спевы луналі ў гэты вечар у Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі. Выступалі лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў — Капэла хлопчыкаў і юнакоў Брэсцкага Палаца культуры прафсаюзаў пад кіраўніцтвам Алы Ігумнавай. Мяккія, з асаблівай тэмбравай афарбоўкай галасы хлапчукоў адцяняліся моцнымі прыгожымі мужчынскімі. Колькі цудоўных непаўторных твораў без суправаджэння выконвалася ярка, выразна, прафесійна!***

Праграма пачалася з двух беларускіх кантаў: "Скінія златая", "Нова радасць". І адразу выканаўцы заваявалі залу, пра што сведчылі доўгія-доўгія апладысменты. Захапленне выклікала ўсё, што гучала ў гэты вечар. Васьмігалосы твор польскага кампазітара Р.Твардоўскага "Блажэн муж", хор "Багародзіца, Дзева, радуйся" з "Усяночнай" С.Рахманінава. (Тут А.Ігумнава пастаралася нават выйсці за межы выканання царкоўнага твора, выявіўшы рысы калыханкі, а не малітвы). Былі ў праграме канцэрта творы П.Часнакова і С.Танеева, Г.Пёрсела і С.Манюшкі, рускія, беларускія, украінскія народныя песні...

Бісіравалі беларускую народную песню "Закукуй, зязюленька" ў апрацоўцы Мікалая Сіраты, у якой саліраваў артыстычны Вадзім Каховіч. Год і месяц спявае ў капэле гэты 12-гадовы хлапчук і ўжо не ўяўляе свайго жыцця без спеваў. Калі ён пачынаў, успамінае кіраўніца капэлы, у яго быў голас зусім невялікага дыяпазону. Яшчэ адзін юны саліст, 11-гадовы Анатоль Бокша ўразіў слухачоў прыгожым, вельмі высокім голасам, яму лёгка скаралася верхняе "ля". Салісту Аляксандру Крываносаву зараз 22. З 9-гадовага ўзросту ён у капэле. Цяпер у яго барытон — юнак скончыў вакальнае аддзяленне Брэсцкага музычнага вучылішча.

Па тым, як філігранна, адточана, шчыра выконваўся кожны твор, адчувалася тытанічная, карпатлівая праца Алы Ігумнавай — Музыканта, улюбёнага ў харавое мастацтва, у свой калектыў.

**— Наша капэла нарадзілася 18 гадоў таму, — расказвае Ала Міхайлаўна. Адбывалася гэта так: у далёкім 1974-м я, масквічка, па спецыяльнасці піяністка, прыехала ў Брэст — месца размеркавання мужа. Працавала канцэртмайстрам пры Брэсцкім Палацы культуры прафсаюзаў, які будаваўся. Мне прапанавалі стварыць хор хлопчыкаў. Раздумвала вельмі доўга. "Вы ж музыкант!" — пераконвалі мяне. А я ўсё не рашалася. Нарэшце паслухала выступленне хору хлопчыкаў з Літвы "Ажуалюкас" і ўзрушылася да глыбіні душы. "Напэўна, гэта мой лёс! — падумала. — Я ж валодаю інструментам, ды і Госпад мне даў няронны голас". Узялася за справу. Папершае, пачала шукаць дзяцей...**

Дзе толькі яна іх ні знаходзіла! Па дварах, кутках, завулках, цёмных месцах. Убачыць купку хлапчукоў з цыгарэтай, што спрабуюць навучыцца курыць, ці з бутэлькай, альбо проста на дарозе, быццам бы кімсьці пакінутых, самотных — і вядзе ў свой калектыў. Не лёгка было раскрыць, выклікаць на шчырасць хлопцаў, якія туляюцца без справы, сумуюць. А яна здолела зацікавіць іх харавым мастацтвам. Дабрынёй, цеплынёй, ласкай, строгасцю, толькі не крыкам; якімсьці магнетызмам, майстэрствам, інтуіцыяй, вялікім цярпеннем, вытрымкай і сваёй эрудыцыяй, перакананасцю Ала Міхайлаўна выклікала давер да сябе. Яна расказвала цікавыя гісторыі пра музыку і музыкантаў так захапляюча, што дзеці не маглі не слухаць і не палюбіць.

І вось нарэшце пра капэлу загаварылі. Чатырнаццаць гадоў таму ёй надалі ганаровае званне ўзорнага калектыву. Тады А. Ігумнава вырашыла паказаць вынікі сваёй працы выдатнаму майстру беларускага харавога мастацтва прафесару В.Роўду і выказала жаданне ўдасканаліцца, стаць прафесійным дырыжорам. Адразу яна была залічана на III курс Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, у клас таленавітага майстра сваёй справы Г.Зелянковай, якая пастаралася перадаць вучаніцы ўсе сакрэты сваёй прафесіі. Шмат чаму навучылася Ала Ігумнава і ў маэстра Віктара Роўды, спецыяльна прыязджаючы на рэпетыцыі яго хору.

Усё гэта дало плён. Капэла часта выступала па Цэнтральным тэлебачанні, удзельнічала ў шматлікіх пеўчых святах у Прыбалтыцы, зрабілася сталай удзельніцай міжнародных фестываляў харавога мастацтва ў Польшчы. Толькі летась 9 разоў заваёўвала званні лаўрэата міжнародных, рэспубліканскіх конкурсаў. Прынамсі, была ўручана I прэмія "Залатая струна" ў намінацыі "Хоры камерныя, а capella", Гран-Пры, а таксама дыплом лепшага саліста А.Семенюку на XX Міжнародным музычным конкурсе ў Польшчы. Сапернік капэлы хлопчыкаў і юнакоў Брэсцкага Палаца культуры прафсаюзаў на атрыманне Гран-Пры — аркестр габаістаў Абервальскай кансерваторыі з Францыі запрасіў калектыў з Беларусі на XV Міжнародны фестываль Сусветнай Аркестрады ў французскі горад Брыў, дзе капэла з Беларусі выступіла з вялікім поспехам. Пазней з Францыі прыйшоў ліст на імя міністра культуры Беларусі А.Сасноўскага, дзе было шмат добрых слоў пра выступленне капэлы...

У чым жа творчы сакрэт Алы Ігумнавай?

**— Рэпетыцыі ў нас кожны дзень, — расказвае яна. — Вядома, патрэбна, каб мае гадаванцы чыталі ноты. Таму сама стварыла методыку, паводле якой за 6 месяцаў яны асвойваюць сальфеджаванне. Я выпрацавала канцэпцыю хуткага развіцця голасу, здавалася б, "безнадзейных", тых, хто не спявае, а гаворыць, для дзяцей з вуліцы. Перакананая, што навучыць спяваць можна кожнага. З салістамі ніколі не займаюся асобна. Заходжу з музыкі. Вось, напрыклад, бяру партытуру твора Брамса ў стылі рамантызму з рысамі класіцызму, і адразу ў думках чую, як павінна гучаць. Дамагаюся гнуткай фразы, выразнасці, стараюся працаваць і над дробязямі, бо ўсё мае быць адточана, адшліфавана.**

**Паводле маёй методыкі хлопцы ў перыяд мутацыі не пакідаюць капэлу, а паступова, плаўна пераходзяць у альты, потым у мужчынскую групу. На жаль, рэпеціруем у памяшканні, не прыдатным для харавога гучання...**

**Мне даводзіцца выконваць у сваім калектыве абавязкі і хормайстра, і акампаніятара, і вакаліста, а таксама быць і мамкай, і нянькай... Вось і вырашыла на базе нашай капэлы стварыць спецыяльную музычную харавую школу. Тады ў штаце з'явяцца хормайстры, акампаніятар, вакалісты. Маю задуму падтрымалі ў Міністэрстве культуры Беларусі. Падтрымаў мяне і губернатар Брэсцкай вобласці У.Заламай, але кіраўнікі культуры ў Брэсцкім аблвыканкаме, на жаль, адфутбольваюць нас словамі: "Вы ж не нашы! Няма грошай". А я ж нічога не прашу для сябе — ні звання, ні павышэння заробку. Такая школа патрэбная дзецям, а мне вельмі цікава тварыць, вельмі люблю сваю справу.**

Дарэчы, паводле вынікаў сваёй працы А.Ігумнава, безумоўна, заслугоўвае і ганаровага звання, і больш высокага заробку. Пакуль што яна фактычна працуе на энтузіязме — ёй плацяць толькі 2 мільёны... Ды і ажыццявіць задуманае не ўсё ўдаецца. А час ідзе.

Зразумела, што вынік яе працы вельмі важны не толькі ў прафесійным сэнсе. Пакуль існуе гэтая капэла, яе ўдзельнікі не бадзяюцца па вуліцах, бо захоплены цудоўнай справай — харавым мастацтвам. Музыка зрабілася лёсам для многіх гадаванцаў капэлы, якія паступілі на вакальнае аддзяленне Беларускай акадэміі музыкі або вучацца ў Брэсцкім музычным каледжы.

...Мінская публіка доўга апладзіравала стоячы. А калі слухачы разышліся, да хлопчыкаў падышоў маэстра В.Роўда. Расчулены, ён пажадаў выканаць з імі "Багародзіца, Дзева, радуйся" С.Рахманінава, сфатаграфаваўся з імі. Праспяваўшы пад кіраўніцтвам знанага маэстра, задаволеныя, узбуджаныя і стомленыя хлопцы спяшаліся ў аўтобус, каб ехаць дадому. Ім аплацілі толькі аўтобус, не далі грошай ні на гасцініцу, ні на харчаванне, ні на аплату працы кіраўніка — А.Ігумнавай. Яны былі сытыя прыгожай Музыкай, цудоўным прыёмам. А ці надоўга гэтага хопіць?..

**Вера КРОЗ**

Фота У. САПАГОВА



*Капэла хлопчыкаў і юнакоў.*



*Пасля выступлення ў Мінску: кіраўнік капэлы А.Ігумнава, народны артыст СССР прафесар В.Роўда і кіраўнік узорнага хору "Жураўінка" А.Еўсюкоў.*

## Зразумець як сваё...

АЛЯКСЕЮ ГАРДЗІЦКАМУ — 65



**Родная вёска Аляксея Кузьміча Пугачова з 1979 года знаходзіцца ў межах горада Брэста. А. Гардзіцкі скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, быў завучам Мікашэвіцкага дзіцячага дома, на камсамольскай рабоце, працаваў журналістам на Брэстчыне. У 1959—1962 гадах з'яўляўся аспірантам, а ў 1962—1966 гадах — навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку, а з 1972 года — літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў.**

**Першыя публікацыі — рэцэнзіі і артыкулы — з'явіліся ў 1953 годзе ў брэсцкай абласной газеце "Заря". З-пад пяра А. Гардзіцкага выйшлі кнігі дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра літаратуру "Дыялогі", "Сустрэчы", "Зразумець як сваё", "Вачыма сяброў", "Сябрына", "Гутаркі". Аляксей Кузьміч напісаў літаратуразнаўчую працу "Пра майстэрства дэталі", брашуру "Творчасць Івана Шамякіна". Выступае і як аўтар празаічных мініяцюр і літаратурных эцюдаў. З'яўляецца складальнікам зборніка "Беларускія савецкія паэты", што выйшаў на грузінскай мове ў Тбілісі, біябібліяграфічных даведнікаў "Пісьменнікі Савецкай Беларусі" (1981) і "Беларускія пісьменнікі" (1994). Назва адной з яго кніг глыбока сімвалічная. Зразумець як сваё, напісанае іншымі, значыць, дакладна адчуць сэнс мастакоўскай задумы і давесці гэта да чытача.**

**Віншуем Аляксея Кузьміча з 65-годдзем! Зычым яму новых творчых поспехаў, доўгіх год жыцця!**

## Славіў народны подзвіг

**Георгій Шчарбатаў пражыў усяго 37 гадоў (нарадзіўся 7 мая 1919 года, памёр 2 лютага 1957-га). Скончыў Магілёўскае педагагічнае вучылішча. Настаўнічаў на Бярэзіншчыне, завочна вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце, працаваў у рэдакцыях газет "Камунар Магілёўшчыны", "Советская Белоруссия". На пачатку вайны эвакуіраваўся ў Куйбышаў (Расія). З 1942 года знаходзіўся ў тыле ворага як карэспандэнт газеты "Савецкая Беларусь", потым працаваў у газеце "Звязда", што выходзіла на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Пасля вайны Г. Шчарбатаў працаваў у газеце "Звязда", карэспандэнтам "Известий" па Беларусі, быў загадчыкам аддзела, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць".**

**Друкаваўся з 1941 года. Выйшлі кнігі "Партызанскія агні", "Камсамол Беларусі ў баях за Радзіму", "Неспакойныя сэрцы", "Шумелі пушчы", "Лясны фронт", "Партызанскія агні". На беларускую мову пераклаў "Слова перад пакараннем смерцю" Ю. Фучыка.**

# МНС — абрэвіятура бяды

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— Валерый Пятровіч, я ведаю, што і раней, на пасадзе начальніка Галоўнага ўпраўлення пажарнай службы МУС, і зараз вы застаяцеся чалавекам вайсковай дысцыпліны, абавязковасці, адказнасці. У восем раніцы, а то і раней вы штодня на працы, на рабочым месцы, нярэдка нават і ў выхадныя дні. Вядома, служба такая, характар гэтай службы. Але ж, пэўна, у такіх адносінах да выканання службовых абавязкаў прысутнічае і выхаваўчы момант для падначаленых? Кажуць жа, самы лепшы метад выхавання — "рабі як я"?**

— Гэта сапраўды так. Але ёсць такі выраз санктпецярбургскага акадэміка Фёдарава: "Энергічнасці і самазаспакоенасці навучыць нельга". На жаль, я лічу, што самая цяжкая хвароба, якая ў апошняе дзесяцігоддзе напаткала многіх з нас, гэта апатыя, лянота, няўменне прымусіць сябе працаваць, несканцэнтраванасць увагі. Сям'я, школа, грамадства наша не ўмеюць давесці людзям з дзіцячага ўзросту простую ісціну, што трэба працаваць, усё жыццё працаваць. І галоўнае — працаваць дзеля іншых, і тады толькі аддача будзе і табе самому. Праз мае рукі прайшло нямала таленавітых маладых людзей, перад якімі я маляваў падрабязнейшыя праграмы вучобы і працы на тры гады (у сярэдняй навучальнай установе) і на пяць гадоў (у вышэйшай). На жаль, у лепшым выпадку праграмы гэтыя выконваліся напалову. Што перашкаджала? Адсутнасць волі. Гэта самае жахлівае. Прыходзяць хлопцы з горада і з вёскі. Начальнік часці каго возьме? Вясковага, бо той і капаць умее, і дровы сячы. А гарадскі анічога не ўмее. Гарадскія нашы дзеткі анічога не робяць, балдзеюць у дварах, глядзяць відзікі, тусуюцца на дыскатэках. Не ведаюць яны карыснай працы, фізічных нагрузак. Я перакананы, і даводжу гэта выхавацелям-камандзірам у вучылішчы, што з 17-гадовага хлопца яшчэ можна выхаваць нармальнага чалавека. І я мяркую, што адна з задач кіраўнікоў — вучыць не толькі спецыяліста, але і выхоўваць чалавека. Сённяшняя моладзь, заўважаю, амаль зусім нічога не чытае, тут проста ўтварыўся нейкі вакуум. Адзін камандзір мне з горыччу прызнаўся, што ягоны сын, які дамогся неблагіх вынікаў у спорце, за 14 гадоў прачытаў усяго адну кніжку — "Белы клык" Джэка Лондана. Гэта — катастрофа, хоць я разумею, што інфармацыйныя патокі да нашых дзяцей ідуць іншымі шляхамі і ў іншых формах. Тым больш мы павінны думаць, турбавацца аб тым, каб дзеці не прайшлі міма культурных каштоўнасцей. Мазгавая начынка ў людзей не павінна быць у адрыве ад маральных і культурных каштоўнасцей.

Дарэчы, у нас ёсць 145 клубаў юных пажарных, ёсць паўтара дзесятка школ, у якіх вывучаецца курс маладога пажарнага-выратавальніка. І я думаю, што каб і іншыя ведамствы нечым сваім занялі дзяцей, дык тады, можа, яны былі б адарваны ад бязмэтнага праводжання часу.

**— Валерый Пятровіч, вядома, хацелася б пачуць пра тыя ці іншыя жахлівыя аварыі на нашых заводах, фабрыках, дарогах, чыгуначных пераездах, пра пажары на тарфяніках, пра страты і беды, нанесеныя нядаўнімі смерчамі, каб падзяліліся думкамі і парадамі, што можа зрабіць кожны з нас, каб гэтыя беды нагадвалі аб сабе як мага радзей. Але я і так забрала ў вас шмат часу. Таму апошняе пытанне: пры ўсёй неспадзяванасці бяды, якая заўсёды прыходзіць нечакана, без папярэджання, — усё ж скажыце, у якой ступені вашы службы і вашы людзі гарантуюць усім нам калі не бяспеку ад бяды, дык мінімум яе наступстваў?**

— Зноў нагадаю адзін выраз: "Шанцуе моцнаму!" Мы былі досыць моцнымі, і таму нам досыць працяглы час шанцавала. Хоць за апошнія 2-3 гады мы падыходзілі да грані экалагічнай катастрофы і аграмадных матэрыяльных страт. Гэта і згаданы Барысаўскі чыгуначны вузел, дзе ў радыусе да 500 метраў магло не застацца, не ацалець анічога; гэта пажар на Фаніпальскай нафтабазе, на наземным рэзервуары, які мы ліквідавалі ў рэкордна кароткі час — менш чым за дзве гадзіны. Былі і іншыя падобныя выпадкі, іх можна пералічыць, даць спіс, іх, дарэчы, вывучаюць у вучылішчы, разбіраюць, аналізуюць. Але я хачу сказаць пра іншае. Пра тое, што магчымасць узнікнення надзвычайных сітуацый сёння, на жаль, досыць высокая і з гадамі яна не памяншаецца. Возьмем зводку. За тры з паловай месяцы сёлетняга года адбылося 3859 пажараў, 2800 розных нечаканых здарэнняў, 3800 выездаў. У нас ці не самы кароткі ў свеце радыус выезду і час прыбыцця на месца здарэння. На выезд з пажарнага дэпо па заяўцы адводзіцца 35-40 секунд, на прыбыццё на месца здарэння ў гарадах — 5-6 хвілін, а на патэнцыяльна небяспечныя аб'екты — 1,5-2 хвіліны, у сельскай мясцовасці — не больш за 19 хвілін. Мы паспяваем суадносіць збор неабходнай колькасці сіл і сродкаў з дынамікай развіцця падзей. А дынаміка гэтая ідзе звычайна па ўзрастаючай. Скажам, калі на пажар не адрэагавалі на працягу 10-15 мінут, дык ён ужо можа выйсці з-пад кантролю і вымагае нарошчвання дадатковых сіл і сродкаў. Таму імклівае рэагаванне — галоўны прынцып, які быў у аснове арганізацыі пажарнай службы, стаў адным з мацнейшых, асноватворных аргументаў і тады, калі вырашалася пытанне аб стварэнні Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Бо наша галоўная задача — ратаваць людзей ад бяды, ахоўваць іх мірную працу і спакой.

**— Дзякуй, Валерый Пятровіч, за гутарку!**

**З міністрам гутарыла**
**Марыя МІХАЙЛАВА**

# СМАЛУ К ДУБУ — НЕ ПРЫЛЕПІШ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Даю нявестцы мільён на харчы. Яна хоць і касавурыцца, але баршчу талерку налье. Цяпер во ў санаторыі трохі ад'емся. Пазалетась я тут быў. Спадабалася. Падлячыўся, ад'еўся, акрыяў. Прыглянулася кабета. Намнога маладзейшая. Неяк выпілі віна, абняў яе, кажу: давай палюбімся. Яна кажа: я не проціў... І такая ў нас любоў была! І пасля санаторыя сустракаліся. Каб некалі хто сказаў, што ў семдзесят пяць такое можа быць, не паверыў бы. Потым яна знайшла маладзейшага. Прызналася мне: кліча чалавек замуж. Кажу ёй: я сваю кандыдатуру здымаю... так і закончылася наша каханне... Часам думаю: чаму наш Бог еткі суровы? Алах дазваляе мусульманіну мець тры, а то і чатыры жонкі. Нават цэлы гарэм. Абы мог забяспечыць. А праваслаўнаму бедаку — толькі адну. Узяў і давіся ўсё жыццё. Ну, добра, калі добрая, а як благая? Развод? Шукай новую. А дзеці? Цяпер маладыя... Сышліся. Чуць не паладзілі, зад аб зад і — хто далей адскочыць. Дзеці сіротамі застаюцца, сваё жыццё бацькі ламаюць. Не, лепей мяняць палюбоўніц, чым жонак...

●

Дзед Мікола памаўчаў, падняў сваю кульбу, нібы рыхтаваўся да выхаду. Аўтобус імчаў міма невялікага, ярка асветленага гарадка, які на вачах разбудаваўся ў апошнія гады.

— Ведаеш, братка, наша Беларусь падобна на мурашнік. Чаму? Прыйшлі дзікі, раскапалі, здратавалі. Усё панішчылі, і пайшлі. А беларусы зноў, як тыя мурашы, будуюць, ладзяць жытло. Прыйшлі дзікі з другога боку. Зноў усё здратавалі, спапялілі. Беларусы пераксціліся, самагону па шклянцы кульнулі і за работу. Зноў будуюць... Вось такая наша гісторыя... Я сабе вялікі дом збудаваў. Збіраўся век у ім дажываць. І каб унукам застаўся. А тут Чарнобыль зваліўся на галаву. Давялося кідаць. Чарнобыль, можна сказаць, і з жонкаю разлучыў. У мяне быў у доме парадак. І жонка слухалася. Хоць і бурчала. Кажу ёй: ты ж Біблію чытаеш, а там напісана, *чтобы всякий муж был господином в доме своем*. О, мудрая кніга Біблія! Разоў дзесяць перачытаў. Ты ж чытаў? — я хітнуў галавою ў адказ. Дзед Мікола дакрануўся да майго локця — Як там мудра сказана пра злую жонку! *Лучше жить в земле пустынной, нежели с женою сварливою и сердитою*. Як у ваду глядзеў мудрэц. Чакай хвілінку, зараз яшчэ ўспомню пра жонку. О, здаецца, так. *Непрестанная капель в дождливый день и сварливая жена — равны*. Здорава сказана!.. І вось людзі самі сабе жыццё скарачаюць. А яно і так кароткае. У Бібліі напісана: *человек, рожденный женою, краткодневен и пресыщен печалями*... Мудрацы ўсё разумелі. У Еклезіясце гаворыцца:*во многой мудрости много печали*... Ёсць у Бібліі і пра весялосць. Зараз успомню. Здаецца, таксама ў Еклезіясце: и похвалил я веселие, потому что нет лучшего для человека под солнцем, как есть, пить и веселиться... Ета яшчэ не ўсё. Далей, здаецца, так: *это сопровождает его в дни жизни*... Чуеш, братка? Дык які ж я грэшнік?

— Раз вы так ведаеце Біблію, значыць, дарогу да храма знайшлі.

— Дарогу знайшоў. А пайсці ў храм не магу. У мяне ў душы свой храм. Ета ж мае былыя начальнікі. Куды большыя грэшнікі! Стаяць зараз са свечкаю ў руках, схіліўшы галаву. А заўтра дай ім устаноўку, што рэлігія — опіум для народа, і яны, быццам попкі, паўтораць услед і храмы руйнаваць пачнуць... На маю думку, ці не залішне кінуліся будаваць цэрквы? Мо лепей маладой сям'і кватэру памагчы агораць. Лазню для людзей збудаваць. А то зноў папы ўссядуць на шыю. Не даюць чалавеку ўздыхнуць. То парторг сядзеў, а зараз поп. А я цяпер — вольны казак. Праўда, Біблію ў мяне не адбярэш...

Святло фар вырвала з вечаровага сутоння ўказальнік, на якім чырвонаю рысаю перакрэслена назва вёскі, якую мы прамінулі. Праз пару кіламетраў — паваротка, дзе мне трэба выходзіць. Я сказаў пра гэта дзеду Міколу.

— Як хутка даехалі! Я і не ўгледзеў, — азваўся той. — За паваротkаю да санаторыя рукой падаць.

Мы цёпла развіталіся. Я пажадаў яму добра адпачыць, набрацца сілы, памірыцца з жонкаю.

— Э, братка, смалу к дубу — не прылепіш... Хаця мо яна паразумнее? Колькі таго жыцця засталося? Ужо недалёка да запаснога выхаду. Смерці я не баюся. Тут усё проста. Калі я ёсць — яе няма. Калі яна ёсць — мяне ўжо няма... Человек краткодневен и пресыщен печалями... А жыццё люблю. Усяму жывому пакланяюся. І перад Боскім судом справаздачу трымаць гатовы. Жывіце весялей! — Мікола прыцішыў голас, азірнуўся, быццам баяўся, што нехта падслухвае. — Хацеў не гаварыць... У санаторыі мяне чакаюць... Тая самая кабета. Нешта не заладзілася ў яе жыццё з маладзейшым кавалерам. Успомніла, вызваніла. Угаварыла... Кажа, стары конь баразны не псуе. Вось, братка, якія пірагі... Ну, бывайце здаровенькі! — Мікола яшчэ раз пацісну мне руку.

На паваротцы я выйшаў. Аўтобус скрыгатнуў счапленнем і рушыў далей. Я пайшоў сваёю дарогаю.

Паабапал насыпной жвіроўкі стаялі высозныя старыя хвоі. У вяршалінах шумеў вецер, шумеў сцішана, ляніва, быццам стаміўся за дзень і рыхтаваўся да сну. На светлым небе там-сям праклюнуліся зоркі. Месяца не было — у апошняй квадры ён узыходзіць позна. Дыхалася лёгка. Пасля смуродлівага горада, душнага аўтобуса чыстае, свежае паветра прыемна кружыла галаву.

Я зноў зірнуў угору, на вяршаліны дрэў, і нібы малітва, згадаліся вялюгінскія радкі:

***З усіх сабораў ёсць сабор,***
***дзе згодзен я маліцца:***
***у спелым леце, спелы бор,***
***звіняць твае званіцы.***

Міма прамчаўся легкавік. Запахла смуродам, удалечыні зніклі ярка-чырвоныя, быццам ружы, габарытныя агні аўтамабіля.

Міжволі падумалася: колькі чаго напрыдумляў чалавек, каб лягчэйшым было жыццё! Асфальтоўку праклаў, жвіроўку насыпаў, масты збудаваў, аўтобусаў, аўтамабіляў, цягнікоў, самалётаў нарабіў. Вынайшаў і ўдасканаліў радыё, кіно, тэлебачанне. А ці стаў ён шчаслівейшым? Вось і дзед Мікола багата чаго пабачыў у жыцці, але сапраўднае каханне абмінула яго. Таму і шчасця не знайшоў.

Згадаў, як заводзіў сваю машыну. Выплыў з памяці вадзіцель зялёных "Жыгулёў", мардасты ўладальнік "Мазды".

У душы не меў на іх крыўды, нават больш таго — быў ім удзячны.

1799-1999

# Сустрэчы з нашчадкамі Пушкіна

РАНІЦАЙ УЕХАЎ у Глуск абоз местачковых балаголаў. Яны ў перадках вялізных фураў везлі з Бабруйска бочкі газы, селядцоў, мяхі солі, цукру, старанна ўпакаваныя скруткі "чырвонага тавару" — сукно, паркаль, каленкор, "чортаву скуру" (грубую чорную тканіну), батыст на шлюбныя сукенкі, галёшы, скруткі жалеза на шыны і падразы пад сані, патэльні — словам усё патрэбнае ў гаспадарцы. У канцы будаў, абцягнутых брызентам або рагожаю, дзіўна, як яшчэ месціліся "пасажыры", не ведаючы, дзе чые тырчаць ногі.

Яшчэ быў так званы нэп, прыватны гандаль, саматужнікі рабілі ўсё патрэбнае чалавеку: выраблялі самую розную скуру, абувалі і апраналі з ног да галавы.

Каля маленькай хаткі майго дзядзькі Івана Бобрыка спыніў свайго біцюга славуты балагол Шолам Гіцька. Ён прывёз маю стрыечную сястру Марусю і дваіх яе сябровак. Яны толькі што закончылі трохмесячныя курсы пры Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме і прысланыя настаўніцамі ў пачатковыя беларускія школы.

Дзядзькава хатка на чатыры акенцы прытуліла і Марусіных сябровак. Як толькі спынілася Шоламава фура, я адразу прыджгаў адведаць сястрычку і паглядзець на яе сябровак. Марусю прызначылі ў суседнюю доўгую і гразкую вёску Хвастовічы, Чарнявую Ніну адразу і не запомніў, другая, невысокая, вельмі зграбная, з надта выразным профілем, з бронзавага адцення хвалістымі валасамі адразу ўразіла непадабенствам да іншых дзяўчат. Яны добра гаварылі па-беларуску, паджартоўвалі над сваімі настаўнікамі, успаміналі тэхнікумаўскіх паэтаў Янку Хмеля (Бандарчыка) і Сцяпана Голуба. Я трохі паслухаў і зразумеў, што няёмка лыпаць вачыма на прыезджых дзяўчат, выйшаў у двор, каб не замінаць ім агледзецца і прыбрацца ў чужой хаце. Неўзабаве выйшла сястра, смыкнула мяне за рукаў і спытала: "А ведаеш, хто такая Оля?" "Адкуль мне ведаць?" — "Яна праправўнучка Пушкіна". — "Якога Пушкіна?" — здзівіўся я. — Таго самага, Аляксандра Сяргеевіча. Па бацьку яна Вольга Яўгенаўна Кліменка. А яе бабкаю была Наталля Аляксандраўна — дачка старэйшага сына паэта (Сашкі, як называў бацька, а ў далейшым выдатнага генерала Аляксандра Аляксандравіча Пушкіна). Наталля Аляксандраўна ў 1881 годзе выйшла замуж за Варанцова — Вельямінава — афіцэра Нарвскага гусарскага палка, якім камандаваў сын паэта Аляксандр Аляксандравіч. Вайсковая служба часта кідала маладую сям'ю з месца на месца. Калі Павел Аркадзьевіч выйшаў у адстаўку, яны з Наталляй Аляксандраўнай пасяліліся ў 10 кіламетрах ад Бабруйска ў мужавым маёнтку Вавулічы. Там Наталля Аляксандраўна пражыла ўсё жыццё і пахавана на вясковых могілках у снежні 1912 года. Яе дабрата, увага і шчодрасць пакінулі ў памяці мясцовых сялян глыбокі і яскравы след: яна лячыла хворых, дапамагала бедным, вучыла дзяцей. Сярод іх была і Наталля Васільеўна — будучая маці нашага слаўнага паэта — Міколы Аўрамчыка. Ці не зярняты, пасеяныя ўнучкай Пушкіна, узышлі ў душы таленавітага Міколы Якаўлевіча?

У Наталлі Аляксандраўны было пяцёра дзяцей. Дарослымі яны амаль усе звязалі свой лёс з Беларуссю. Старэйшая дачка, Марыя, усё жыццё пражыла у Бабруйску. Вось з яе дачкою Вольгай Яўгенаўнай Кліменкай мне і пашанцавала сустракацца ў Глуску, калі яна настаўнічала ў Ратміравіцкай і Азямлянскай пачатковых школах. Значна пазней мне даводзілася сустракацца з яе былымі вучнямі. Яны ўспаміналі сваю першую настаўніцу з асаблівым замілаваннем і ўдзячнасцю. Мабыць, педагагічны талент перадаўся ад бабулі: яна разам з мужам Паўлам Аркадзьевічам у вёсцы Цялуша пабудавала школу для сялянскіх дзяцей і не толькі вучыла іх грамаце, а многім дапамагала стаць настаўніцамі і фельчарыцамі.

У нашчадкаў Пушкінскага роду захавалася і пераходзіла з пакалення ў пакаленне шмат успамінаў. Наталля Аляксандраўна не толькі расказвала пра славутага дзеда, але і пра сваю бабулю Наталлю Мікалаеўну Пушкіну-Ланскую. Нядобразычліўцы часам яе зневажалі і вінавацілі ў гібелі паэта. Наталля Аляксандраўна па ўспамінах сваёй зводнай цёткі Аляксандры Ланской-Арапавай расказвала, як у красавіку 1841 г. удава паэта ў доме Карамзіна сустрэлася з Лермантавым перад яго ад'ездам на Каўказ. У канцы доўгай размовы нібыта Міхаіл Юр'евіч сказаў: "Я пазбягаў вас, маладушна паддаючыся варожым уплывам. Я бачыў у вас толькі халодную, непрыступную прыгажуню... І толькі напярэдадні ад'езду трэба было мне разгледзець пад гэтай абалонкай жанчыну, спасцігнуць яе абаянне шчырасці, якое не разбіраеш, а прызнаеш, каб несці з сабою вечны папрок у блізарукасці... Але калі я вярнуся, я здолею заслужыць дараванне, і калі не надта саманадзейная мара, стаць калі-небудзь вашым другам" — "Даравацъ мне няма чаго", — адказала Наталля Мікалаеўна.

Вольга Яўгенаўна часам з Палесся прыязджала на настаўніцкія канферэнцыі і нарады ў Глуск і спынялася ў майго дзядзькі. Я, улюбёны ў літаратуру, часта даймаў яе роспытамі пра Пушкіна і яго радню. Потым некаторыя ўспаміны яе старэйшай радні знаходзіў у друкаваных крыніцах. Пасля доўга нічога не ведаў пра яе далейшы лёс.

У 1937 годзе шырока адзначалася сотая гадавіна гібелі Пушкіна. Усе газеты з нумара ў нумар расказвалі пра творчасць вялікага паэта і пра яго нашчадкаў. З "Известий" даведаўся, што ў Чырвонай Арміі служыць праўнук паэта — Рыгор Рыгоравіч Пушкін. Па свеце было рассеяна аж 200 бліжэйшых і далейшых нашчадкаў Аляксандра Сяргеевіча. Я, вядома, не спадзяваўся калі-небудзь сустрэцца з кім-небудзь з іх. Але часам жыццё дорыць неспадзяваныя сустрэчы і знаёмствы.

У 1974 і ў 1980 гадах мне пашчасціла быць удзельнікам святаў Пушкінскай паэзіі на Пскоўшчыне. Здзейснілася адвечная мара пабываць у Міхайлаўскім, Трыгорскім, Пятроўскім, у Святагорскім манастыры і на магіле паэта, пахадзіць па сцежках і парках пушкінскай зямлі, паглядзець на "У Лукоморья дуб зелёный".

Паэты і празаікі розных краін і рэспублік збіраліся ў Маскве і аўтобусамі выязджалі ў Пскоў і ў Пушкінскія горы. Я з Мінска на свята прыляцеў самалётам. У пскоўскай гасцініцы мяне сустрэў прадстаўнік Літфонду Барыс Цароў, папракнуў, што трошачкі прыпазніўся і адразу павёў у рэстаран на абед. Па дарозе я пацікавіўся, ці прыехаў Рыгор Рыгоравіч? "А як жа! Ёсць, без яго ніводнае свята не абыходзіцца", — адказаў Барыс Яфрэмавіч. Зайшоўшы ў шматлюдную і шумную залу, падумаў: ці знайду сам сярод мноства знаёмых і незнаёмых пісьменнікаў праўнука Пушкіна. Пільна ўглядаўся ў кожную асобу: пазнаў Андронікава, Антакольскага, Бажана, Карло Каладзе, Алігер, Барто, многіх па сустрэчах і партрэтах. Нарэшце ў канцы залы каля акна ўгледзеў невысокага, зграбнага мужчыну, з даўгаватым смуглявым тварам. Спыніўся на ім і шэптам спытаў Царова: "Гэта ён?" — "Ну, і вока ж у вас. Ён, а побач жонка Марыя Іванаўна і сын Саша".

З Пскова выехалі на трох аўтобусах. Побач сядзелі пісьменнікі амаль з усіх еўрапейскіх краін, з Эфіопіі, Індыі — усіх і не запомніш. У нашым аўтобусе каля шафёрскай кабіны стаяў самы вясёлы і гаваркі Іраклій Андронікаў і бясконца расказваў анекдатычныя літаратурныя гісторыі. Рогат стаяў амаль да самага Пушкінагор'я. У канцы аўтобуса сядзеў маўклівы Рыгор Рыгоравіч. Чым я даўжэй углядаўся ў яго, тым больш ён нагадваў мне свайго вялікага продка.

Як толькі ўехалі ў Пушкінскія горы, Павел Антакольскі папрасіў спыніць аўтобус каля прыступкаў, што вялі на Святую гару да храма і магілы Пушкіна. Маленькі, сухенькі Антакольскі першы выскачыў з аўтобуса і павёў усіх па крутых каменных прыступках да магілы Пушкіна. Пастаялі ў нядоўгім маўчанні і амаль усе пайшлі пехатою па дагледжанай вуліцы, каля помніка Пушкіну да месца афіцыйнай сустрэчы і гасцініцы. Следам павольна цягнуліся аўтобусы.

Як звычайна, мясцовае кіраўніцтва сустракала хлебам-соллю, кветкамі, кароткімі прамовамі. Неўзабаве пачалося рассяленне ва ўтульнай новенькай гасцініцы з ліфтам і ўсімі выгодамі. Усе разумелі, што гарадок адбудаваны дзякуючы Пушкіну. Я заняў свой нумар на пятым паверсе, праз акно агледзеў чароўныя пушкінскія прасторы і вырашыў прайсціся па гарадку. Завярнуў за рог гасцініцы і вачам не паверыў: Рыгор Рыгоравіч, Марыя Іванаўна і Саша ішлі насустрач з раскладушкамі і цюфякамі пад пахамі. "Куды гэта вы?" — здзівіўся я. "Нам у гасцініцы не хапіла месца, дык вось пасялілі ў кабінеце завуча сярэдняй школы", — спакойна адказаў праўнук Пушкіна. Мне стала млосна ад такога адказу. "Хвіліначку пачакайце, — папрасіў я, бо якраз на ганку гасцініцы размаўлялі Андронікаў і намеснік старшыні абласнога выканкама Неўскі. Я папрасіў прабачэння, што перапыняю іх гаворку і, задыхаючыся, спытаў: "Калі б прыехаў на свой юбілей Аляксандр Сяргеевіч, мабыць, і яму не хапіла б месца ў гасцініцы?" — "Вы пра што?" — здзівіўся Неўскі. Я расказаў куды кіруюцца Рыгор Рыгоравіч з сям'ёю і што аддаю ім свой пакой. Неўскі кінуўся да адміністратара, і знайшліся месцы для нашчадкаў Пушкіна. З гэтага моманту ў мяне з Рыгорам Рыгоравічам устанавіліся простыя і шчырыя адносіны. Ён, мой равеснік, быў просты і надзвычай сціплы рабочы чалавек. Ён ніколі не казырыўся сваім паходжаннем: на вечарах і сустрэчах яго ўрачыста прадстаўлялі, а ён уставаў, сціпла кланяўся і садзіўся на сваё месца.



*Праўнук паэта Рыгор Рыгоравіч Пушкін з жонкай.*

Я неяк пацікавіўся, як і дзе жыве Вольга Яўгенаўна Кліменка, і расказаў адкуль яе ведаю. "Жыве ў Архангельску. Па мужу яна цяпер Усава, але сустракаліся даўно, перапіска ў нас не склалася, ды і з мноствам блізкай і далёкай радні перапісвацца не заўсёды выпадае. Многія пасля рэвалюцыі апынуліся ледзь не ва ўсіх краінах свету. У многіх цяпер і прозвішчы не рускія, але ўсе ведаюць, хто яны, з якога роду і ганарацца сваім паходжаннем. "А вы часам не з Бабруйскай пушкінскай галінкі?" — пацікавіўся я. "Не, я нарадзіўся ў падмаскоўнай Лопасні, дзе служыў мой бацька да рэвалюцыі і ў савецкі час. Я ў 12 гадоў пайшоў адразу ў пяты клас сямігодкі, дзе выкладала і мая маці Юлія Мікалаеўна. Потым вучыўся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме, а калі бацькі пераехалі ў Маскву, паступіў на работу ва Усесаюзны інстытут жывёлагадоўлі. У 1934 годзе добраахвотна пайшоў у армію. Удзельнічаў у вайне з белафінамі, вызваляў Заходнюю Беларусь і Украіну, па камсамольскай пуцёўцы служыў у крымінальным вышуку. Там мяне і захапіла Айчынная вайна. Зімою сорак першага года трапіў у спецыяльны партызанскі атрад разведчыкам. Сцюжнаю ноччу нас, некалькі разведчыкаў, на Віцебшчыне захапілі фашысты. На першым допыце пытаюць: "Як прозвішча?" — адказваю: "Пушкін". "Табе не да жарцікаў, — крычыць следчы, — як прозвішча?" — зноў адказваю: "Пушкін, Рыгор Рыгоравіч". — "Можа, скажаш, радня таму вядомаму паэту?" "Я яго праўнук", — адказваю. — "Не дуры галаву. Пушкін быў дваранін, а ўсіх дваран выслалі ў Сібір, да дзесятага калена". — "А нас ніхто і пальцам не крануў. Мой бацька служыў у царскай арміі, а пасля рэвалюцыі — у Чырвонай і памёр толькі ў мінулым годзе". З палону ўдалося ўцячы. Пакуль дабіраўся да сваіх, хавалі, кармілі, выводзілі патаемнымі сцежкамі беларускія сяляне. Запомніліся шчодрыя цёткі і маўклівыя разумныя дзяды. І мой Саша да нядаўняй дэмабілізацыі служыў шафёрам у войску пад Брэстам".

У вольныя хвіліны мы былі неразлучныя з Рыгорам Рыгоравічам. Ён быў адзіным прадаўжальнікам мужчынскай лініі роду Пушкіных. Ён адваяваў усе, што выпалі на яго долю войны, быў паранены, узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі і многімі медалямі. Пасля вайны 14 гадоў да выхаду на пенсію працаваў друкаром на паліграфічным камбінаце "Правды".

Рыгор Рыгоравіч быў удзельнікам усіх святаў Пушкінскай паэзіі. На вялізнай паляне перад шматтысячнай аўдыторыяй яго заўсёды з апошняга выцягвалі ў першы рад прэзідыума.

Прыхільнікі паэзіі Пушкіна дабіраліся сюды цягнікамі, параходамі, самалётамі, аўтобусамі, машынамі з самых далёкіх куткоў краіны, было шмат і замежных гасцей. У перапынках Рыгора Рыгоравіча акружалі аматары аўтографаў. Ён іх пісаў на кнігах свайго вялікага прадзеда і на цікавай кнізе В. М. Русакова "Потомки А. С. Пушкина", выдадзенай у Ленінградзе ў 1978 годзе. Пісьменнік з Эфіопіі Фікра Талас з трыбуны і ў гутарках даводзіў, што нашчадак Ібрагіма Ганібала славуты Аляксандр Пушкін належыць і ім. Ніхто не пярэчыў, звычайна весела згаджаліся, што ён належыць як найвялікшая каштоўнасць усім народам свету.

Рыгор Рыгоравіч не горш вучонага пушкініста ведаў творчасць, біяграфію і амаль усіх нашчадкаў свайго славутага продка. Ён шмат працаваў у бібліятэках і літаратурных



*Сын Рыгора Рыгоравіча —Саша.*

архівах, здавалася, ведае ўсё да драбніц. Можа, каб зрабіць мне прыемнае, сказаў, што Пушкін ведаў і любіў Беларусь, што нібыта аповесць "Дуброўскі" напісана на беларускім матэрыяле, што прататыпам галоўнага героя быў збяднелы шляхціц Астроўскі. Расказаў, што ў часопісе "Русская старина" за люты 1876 года ён прачытаў успаміны былога афіцэра гусарскага палка Аляксандра Пятровіча Распопава — пляменніка былога дырэктара Царскасельскага ліцэя Энгельгарта. Ён расказваў, што 6-га жніўня 1924 года паэт па загадзе Нэсельродэ ехаў з Адэскай у Міхайлаўскую ссылку. Змучаны цяжкаю дарогаю, ён спыніўся адпачыць у Магілёве на Ветранай вуліцы на паштовай станцыі. Там яго выпадкова і ўбачыў Распопаў і спытаў дазволу пазнаёміць паэта з яго сябрамі-гусарамі. Пушкін згадзіўся. Афіцэры ў яго гонар наладзілі банкет. З паштовай станцыі перайшлі ў кватэру Распопава, потым да яго сябра Куцынскага. Усе з запалам лаялі Варанцова, чыталі вершы, спявалі, Пушкін чытаў свой верш "Я люблю вечерний пир", не разыходзіліся, пакуль трубач не праіграў "Зору". Пад гучнае "Ура!" развіталіся і праводзілі паэта ў бок Віцебска, як было загадана ў афіцыйным маршруце.

Ад сябе Рыгор Рыгоравіч дадаў, што ў пазнейшых пераказах даводзілі "фальклярысты", што гусары выкупалі Пушкіна ў ванне з шампанскім.

*(Працяг на стар. 14—15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Падарунак жонкі мастака



**Па-рознаму складваецца пасмяротнае жыццё мастака. Многае тут залежыць ад тых, хто прымае ў спадчыну яго творы. Галіна Васільеўна Пятрова зрабіла высакародны ўчынак: яна падарыла 16 работ свайго мужа, вядомага мастака, якога, на вялікі жаль, нядаўна не стала, светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя С. Пранішнікава. Яны і склалі першую пасмяротную выставу яго твораў. Яшчэ восенню 1995 г. у карціннай галерэі адбылося знаёмства з творамі А. Пятрова. Ужо тады лёгка было заўважыць, што ён не прыхільнік гучных тэм. Ягонымі былі сціплыя сюжэты, што называецца, "ціхая лірыка", уменне бачыць незвычайнае ў звычайным, вырашэнне чыста жывапісных задач. Алег Міхайлавіч і сам не адмаўляў сваёй прыхільнасці да імпрэсіянізму. Ён імкнуўся не проста ўвасобіць тое, што бачыў і ўяўляў, а перадаць сваё ўражанне ад гэтага.**

**За мастака сапраўды лепш за ўсё гавораць яго творы. Але калі ён спыняе сваё зямное існаванне, гэтая іх якасць яшчэ больш становіцца відавочнай. На выставе з 18 работ (дзве з іх ужо былі ў мастацкім фондзе галерэі!) няма такіх, якія не вабілі б сваімі багатымі каляровымі адценнямі, што так натуральна спалучаюцца з сапраўды пастэльнай чысцінёй і яркасцю. Усе яны захоўваюць першапачатковую свежасць каларыту. Так, Алег Міхайлавіч быў і застаўся сапраўдным майстрам пастэлі. Многія яго творы напісаны на... наждачнай паперы. Каляровая экспрэсія пераканаўча прысутнічае ў карцінах "Вока возера", "Партрэт мастацтвазнаўцы В. Фякціставай", "Старая майстэрня", "Прыбалтыка", "Паблізу мора", "Восеньскі вечар" і інш. Глыбокі падтэкст тоіцца ў нацюрморце "Згода". Шэраг партрэтных работ (псіхалагічна вельмі дакладных) таксама сведчыць аб высокім майстэрстве мастака.**

**На ўрачыстае адкрыццё выставы прыехала ў Светлагорск Галіна Васільеўна Пятрова з дачкой Людмілай. Менавіта ад гэтай добрай, шчырай жанчыны прыхільнікі выяўленчага мастацтва (а іх было нямала ў той вечар у галерэі) пачулі шмат усхваляваных успамінаў пра сціплага, таленавітага мастака, які нарадзіўся ў горадзе Кемерава, скончыў Яраслаўскае мастацкае вучылішча, затым Харкаўскі мастацкі інстытут, выкладаў у Арле, а потым у Гомелі, дзе жыў да апошніх сваіх дзён.**

**Шмат удзячных слоў было сказана Галіне Васільеўне за цудоўны падарунак старшынёй гарвыканкама Б. Пірштуком, загадчыцай гарадскога аддзела культуры Л. Дадалкай, дырэктарам цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Н. Турчанкай. Своеасаблівы настрой прысутным надаў выкананнем класічных твораў малады баяніст Алег Шкадаў, вершы, прысвечаныя памяці А. Пятрова, чытала Соф'я Шах.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: Г. Пятрова з дачкой Людмілай у час адкрыцця выставы.*
*Фота В. СТРЫБУКА*

## Памёр у зняволенні

**Лёс наканаваў Алесю Гародню (сапраўднае прозвішча Функ) нарадзіцца ў горадзе Пермі (Расія) у сям'і чыгуначніка. Але з бацькамі часта наведваўся на Пружаншчыну, дзе знаходзіліся дзедаў і матчын маёнткі. Гэта паспрыяла таму, што А. Гародня рана зацікавіўся жыццём беларускага народа, а пазней далучыўся і да беларускай культуры. У Маскве, куды ў 1917 годзе прыехаў на вучобу, стаў членам Беларускай сацыялістычнай грамады. А ў Мінску працаваў тэхнічным рэдактарам часопіса "Чырвоная Беларусь". У 1930 годзе А. Гародню арыштавалі, праз год ён быў асуджаны да зняволення. У 1942 годзе адбыўся перагляд справы, а ў выніку — прыгавор да вышэйшай меры пакарання. Усё ж пашанцавала: расстрэл замянілі дзесяццю гадамі зняволення, але здароўе было падарвана і 12 верасня 1944 года А. Гародня памёр у зняволенні.**

**З празаічнымі творамі пачаў выступаць з 1925 года. Выйшлі асобнымі выданнямі аповесці "На крэсах" (1927) і "Варта на Рэйне" (1930). Выступаў А. Гародня і з апавяданнямі, артыкуламі. Сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння А. Гародні.**

УГОДКІ

# Яго жыццё, яго біяграфія

### ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ільі ГУРСКАГА

Яшчэ гадоў пятнаццаць назад пісаць пра Ілью Гурскага не выклікала асаблівай цяжкасці. Адштурхоўваючыся ад яго надзіва багатай біяграфіі, лёгка было прасачыць шлях у літаратуру тых, хто ўваходзіў у яе ад сахі і станка. Дарэчы, і пісалі. Асабліва калі гэта тычылася чарговых юбілеяў Кастрычніцкай рэвалюцыі — хто-хто, а Ілья Данілавіч прымаў у ёй чынны ўдзел ды і, урэшце, яна прадвызначыла ўвесь яго далейшы жыццёвы, а пасля і творчы шлях. А вось сёння напамінак пра згаданыя падзеі ў многіх выклікае... Што ж, у кожнага сваё меркаванне. Але жыццё не перайначыш. Тым больш не перапішаш жыццё чалавека, які пакінуў па сабе добры ўспамін, а яшчэ шэраг твораў, што сёння ўжо сталі гісторыяй літаратуры.

Ілья Гурскі — родам з Уздзеншчыны, аднаго з самых "салаўіных куткоў" Бацькаўшчыны. Ягонае Замосце побач з Магільным, на правым беразе Нёмана. Зямелька тут — адзін пясочак, а загончыкі — вузкія. Не лепшы меў і Даніла Гурскі. Змалку Ілья працаваў падпаскам (дарэчы, пастухом была будучая маці паэта Анатоля Астрэйкі). Замосцеўцы ў пошуках лепшай долі часта пакідалі родную вёску. У 1914 годзе падаўся ў сталічны Піцер і І. Гурскі. Спачатку батрачыў у памешчыцкім маёнтку ля станцыі Любань. Некаторы час быў падсобным рабочым у булачнай, працуючы па чатырнаццаць і больш гадзін у суткі, затым уладкаваўся на славуты Абухаўскі завод — чорнарабочым у дэпо, качагарам на паравозе, а ў пачатку 1917 года стаў памочнікам машыніста.

Дарэчы, у той час на Абухаўскім заводзе працаваў і будучы пісьменнік Мікалай Аляксееў, толькі электраманцёрам. Па сутнасці аднагодкі, розніца ва ўзросце — некалькі месяцаў. Праўда, тады яны не былі знаёмы. Мікалай Іванавіч так успамінаў пра тыя гады: "Цікавы быў час. У нас тады ў "курылцы" адбываліся канспіратыўныя сходкі рабочых — чыталі рэвалюцыйныя лістоўкі і забароненыя газеты, падпольшчыкі расказвалі пра стачкі і забастоўкі на іншых заводах. У "курылцы" дамаўляліся і наконт забастовак і стачак на сваім заводзе".

Паступова далучаўся да рэвалюцыйнай барацьбы і І. Гурскі, неўзабаве атрымаў і баявое хрышчэнне, калі калона рабочых сутыкнулася з паліцэйскімі і чарнасоценцамі. Згадкі ўжо Ільі Данілавіча: "Ды тут жандармерыя зусім ашалела: лупіла нас не толькі нагайкамі, а пусціла ў ход шашкі і нават спрабавала страляць. Я ўпершыню адчуў на сваёй спіне, што азначае жандарская нагайка... У Лютаўскую рэвалюцыю ўдзельнічаў ва ўсіх дэманстрацыях... У Кастрычніцкія дні, у час штурму Зімняга, я ў складзе заводскай Чырвонай гвардыі ахоўваў завод і заводскі пасёлак ад розных контррэвалюцыйных вылазак, дыверсій. І так — аж да зімы. Удзень працавалі, а ноччу — у "каравулцы" або дзе-небудзь на пасту".

Калі ж пачалася грамадзянская вайна, на заводзе стварылі ўсенавуч, у якім прымаў удзел і камсамолец І. Гурскі. У маі ж 1919 года стаў байцом апалчэнскага палка Петрасавета — якраз над Петраградам навісла пагроза, наступаў Юдзеніч. Полк прыкрываў подступы да Усць-Іжоры. У гэты час Ілья Данілавіч уступіў у партыю. Пасля расфарміравання палка ўступіў у Чырвоную Армію. Ваяваў на Паўднёвым і Заходнім франтах. Пад Растовам-на-Доне ў баях з дзянікінцамі І. Гурскага паранілі. Але праз некаторы час зноў стаў у баявы строй. Ваяваў на Беларусі, удзельнічаў ва ўзяцці Варшавы. Дэмабілізаваўся ў 1924 годзе.

У мірны час спакою таксама не ведаў. Працаваў на розных пасадах, завочна скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, вучыўся ў аспірантуры АН БССР, у 1935—1941 гадах з'яўляўся галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва". У Вялікую Айчынную — адказны сакратар франтавой газеты "За Савецкую Беларусь", рэдактар газеты "За свабодную Беларусь", сатырычнага часопіса "Партызанская дубінка". І. Гурскі стаяў ля вытокаў часопіса "Беларусь" і з'яўляўся яго галоўным рэдактарам з 1944-га па 1960 год.

Хоць дэбютаваў Ілья Данілавіч рэцэнзіямі — першыя з іх былі змешчаны ў 1926 годзе, але праз два гады быў ужо аўтарам п'ес "Новым шляхам", "Дрыгва". У 1929 годзе з'явіўся яго чарговы твор — "Сварка". Усе яны так і засталіся ў літаратурным варыянце. Гэта тычыцца і п'ес І. Гурскага "Бальшавіцкая вясна", "На крэсах усходніх", "Маці", "На варце" і іншых. А вось "Качагары", "Новы горад", "Сваты", а з пасляваенных "Свае людзі" набылі сцэнічнае жыццё.

У свой час шырокі водгалас мела першая з іх. Васіль Вітка пакінуў такое сведчанне: "Я памятаю спектакль па... п'есе "Качагары", які выклікаў бурную дыскусію. У маскоўскай Камакадэміі адбыўся дыспут, на якім "Качагары" атрымалі ўхвалу. Байцы і камандзіры Мінскага гарнізона, прагледзеўшы пастаноўку, прынялі рэзалюцыю аб тым, што "спектакль б'е ў цэль". "Новы горад" быў пастаўлены трыма тэатрамі — рабочай моладзі, калгасным і польскім на Украіне. А "Сватам" даў жыццё БДТ-1 (цяперашні купалаўскі) і ў асноўным паказваў спектакль у час гастроляў па рэспубліцы.

Калі ж падыходзіць да "Качагараў" з вышыні сённяшніх мастакоўскіх патрабаванняў, дык відавочна, што якраз тое, што тагачасным гледачом, які не меў належнага эстэтычнага густу, успрымалася як дасягненне — "спектакль б'е ў цэль", сведчыць аб аўтарскай зададзенасці. Гурскі пісаў так, як пісалі ў 20—30-ыя гады многія, ставячы на першы план агітацыйныя моманты і не надта клапоцячыся аб глыбокім псіхалагічным раскрыцці задумы.

Але не будзем забываць, што І. Гурскі, як і іншыя тагачасныя драматургі, жывучы ў сваім часе і пісаў пра свой час. І гэты час імкнуўся "перанесці" на сцэну. Таму і персанажаў адпаведных шукаў, уціскаючы іх у рамкі апрабаваных сюжэтаў. А ў "Качагарах" усё дзеянне сканцэнтравана вакол дырэктара электрастанцыі Іваноўскага, які, выконваючы заданне польскай дыфензівы, спрабуе ўзарваць электрастанцыю. Урэшце вораг абясшкоджаны. Гэтаксама ў "Новым горадзе" шмат у чым павярхоўна вырашана праблема выхавання ў людзей новай свядомасці. Сімптаматычная назва твора — "Новы горад". Канечне ж, найперш маецца на ўвазе пасёлак, які ўзводзіцца поруч з электрастанцыяй, а калі шырэй — дык і тая ява, што прыходзіць разам з пераўтварэннямі, якія адбываліся ў краіне.

Аб чым можна сказаць пэўна, дык аб тым, што І. Гурскаму ўдаліся два персанажы — стары бальшавік, начальнік будоўлі Арцём Віхура і галоўны інжынер, былы палкоўнік, а цяпер намеснік Віхуры Беразоўскі. Па тагачаснай логіцы лёгка было стварыць яшчэ адзін хадульны персанаж — вобраз замаскіраванага да пары да часу

# Сустрэчы з нашчадкамі Пушкіна

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Мяне здзіўляла памяць Рыгора Рыгоравіча і кранала ўвага і клопаты Марыі Іванаўны пра кожную дробязь у вопратцы і паводзінах мужа.

Усіх удзельнікаў свята асабліва расчуліла жалобная імша ў Святагорскім саборы побач з магілаю Пушкіна і яго бацькоў. Спявала абласная капэла, саліраваў славуты Іван Сямёнавіч Казлоўскі (ён быў удзельнікам усіх святаў Пушкінскай паэзіі). Перапоўнены сабор, здавалася, і не дыхае: усе, схіліўшы галовы, стаялі да канца набажэнства. Якраз насупраць мяне быў прапраўнук паэта, сын Рыгора Рыгоравіча Саша Пушкін — невысокі зграбны, з цёмнымі хвалістымі валасамі. Здалёк ён так нагадваў свайго вялікага продка, што часам уяўлялася, што сам паэт слухае паніхіду.

Калі мы хадзілі па сцежках адноўленага Трыгорскага, стаялі каля адвечнага дуба, апетага Пушкіным у славутым Лукамор'і, у толькі што адроджаным Пятроўскім, вернутых народу падзвіжніцкімі клопатамі сапраўднага Героя Сямёна Сцяпанавіча Гейчанкі, трызнілася, што недзе тут, побач ходзіць або скача на капі ў сваёй чырвонай кашулі Аляксандр Сяргеевіч. Неяк аднойчы жартам спытаў у Марыі Іванаўны, чаму не жэняць Сашу, каб не звёўся род Пушкіных па мужчынскай лініі. "Ён не ў продка пайшоў — сціплы і не вельмі заляцаецца, ды і, праўду кажучы, кватэрка наша не надта дазваляе заводзіць новую сям'ю. У невялічкай двухпакаёўцы не надта раскашуешся. Часта нашы і замежныя пушкіністы хочуць пагутарыць з Рыгорам Рыгоравічам. А ён саромеецца прымаць іх у такіх умовах: прыдумляе розныя адгаворкі, прызначае сустрэчы то ў Саюзе пісьменнікаў, то ў музеі Пушкіна". Мне аж не верылася, што прамыя нашчадкі Пушкіна так цесна жывуць. Не сцерпеў: падцікаваў зручны выпадак і пацікавіўся ў кіраўніка свята Іраклія Лаўрсабавіча Андронікава, чаму літфонд не дапаможа палепшыць ім кватэрныя ўмовы. Аўтарытэтны Андронікаў сказаў, што ён, літфонд і саюз шмат разоў звярталіся ў Массавет і чулі адзін і той жа адказ: "Ведаеце колькі нашчадкаў славутых людзей жыве ў Маскве? Нахімавы, Кутузавы, Ушаковы, дзеці і ўнукі выдатных пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў і сучасных палкаводцаў. Аднаму дасі, — астатнія вочы выдзяўбуць. Стараемся. Можа, і праб'ём". Я стараўся больш не псаваць настрой мілай Марыі Іванаўне.

Пра маштабы, веліч, задушэўнасць Пушкінскіх святаў паэзіі казаць не буду. Больш падрабязна я напісаў у артыкуле "Сустрэча з Лукамор'ем" у маёй даўняй кнізе "Так і было". Успомнілася толькі адна незвычайная падрабязнасць. Кожнае свята звычайна заканчвалася развітальным застоллем. Кіраваў ім заўсёды намеснік старшыні аблвыканкама па культуры Васільеў. У застоллі ён быў незвычайны і непаўторны. У яго, відаць, загадзя быў спіс усіх запрошаных паэтаў з Расіі і саюзных рэспублік. І вось пасля ўступнага слова Васільеў (шкада — забыў імя і па бацьку) па памяці пачынае чытаць верш у арыгінале або ў перакладзе. Устае Антакольскі, уважліва слухае свае радкі і шчыра дзякуе кароткім натхнёным словам. За ім устаюць і слухаюць свае вершы Бажан, Братунь, Алігер, Карло Каладзе, Кузаўлева, Барто, Савельеў. Не прапусціў нікога. Дачакаўся і я свае чаргі. Прагучаў мой верш у перакладзе Хелемскага. Я дзівіўся, якую трэба мець памяць, каб усё запомніць, нікога і нічога не пераблытаць. Я двойчы быў на Пушкінскіх святах паэзіі, былі розныя ўдзельнікі, адзін і той жа Васільеў нікога не прапусціў, нічога не зблытаў. Здавалася, усяго Пушкіна ён ведае на памяць.

Развітваючыся, Рыгор Рыгоравіч абяцаў пабываць у Мінску і павандраваць па Беларусі. Ён стрымаў слова і двойчы з супрацоўнікам Пушкінскага музея выступаў у Доме літаратара, у розных палацах і клубах абласных і раённых цэнтраў. Праграма ў яго была напружаная, а нашы сустрэчы — кароткія.

Пры кожнай сустрэчы я распытваў у яго пра Вольгу Яўгенаўну, але, апрача таго, што яна жыве ў Архангельску і прозвішча яе па мужу — Усава, ён нічога мне не мог сказаць.

Два гады таму са спазненнем, глыбокім жалем і болем я дазнаўся, што майго равесніка, незабыўнага і мілага Рыгора Рыгоравіча Пушкіна не стала. Прыбавіўся яшчэ адзін боль і жальба. Але такія слаўныя людзі не губляюцца і не знікаюць бясследна. Пакуль жывём мы, яны жывуць у памяці кожнага, хто хоць раз сустракаўся з такімі асобамі.

Міналі гады. І вось выпадкова 13 лістапада 1998 года ў газеце "Труд" мне кінулася ў вочы старонка: "Женственна, как Натали и вспыльчива, как Пушкин". З яе я даведаўся пра лёс Вольгі Яўгенаўны — маёй першай знаёмай з Пушкінскага роду — настаўніцы беларускіх вясковых школак у маім Глузскім раёне. Артыкул быў прысвечаны яе дачцы Галіне Севяр'янаўне Усавай. Яна нарадзілася ў суровым і сцюжным Архангельску, але з

ворага. Але Беразоўскі не хавае свайго мінулага. Ды і Віхура не з тых, хто здатны падыходзіць да чалавека прадузята. Ён перш за ўсё цэніць у сваім намесніку дзелавыя якасці, прызнаючы яго як высокакваліфікаванага спецыяліста, а Беразоўскі на давер адказвае даверам і ўзаемнасцю. Падобная пастаноўка праблемы сведчыла аб добрым веданні І. Гурскім жыцця і адначасова аб жаданні гаварыць тую праўду, якая тады не ўсім падабалася.

Шмат працаваў Ілья Данілавіч і ў галіне прозы, пра што гаворыць яго кнігі апавяданняў "Над Нёманам", "На родных гонях", "На берагах Нявы" і іншыя, аповесць "Лясныя салдаты", раманы "У агні", "Вецер веку", раман-памфлет "Чужы хлеб". Праўда, і тут удавалася не ўсё. Так, на першым пасляваенным пленуме СП БССР Міхась Лынькоў востра раскрытыкаваў "Лясных салдатаў". Сам па сабе выпадак унікальны. Старшыня праўлення творчага саюза негатыўна адзываўся аб творы, напісаным сакратаром пісьменніцкай партыйнай арганізацыі.

Ілья Гурскі не толькі з разуменнем паставіўся да крытыкі, а і, будучы галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь", цалкам надрукаваў даклад М. Лынькова, хоць нічога падобнага такія выданні раней не рабілі. Наконт гэтага В. Вітка пісаў: "Гэта быў прыклад і ўрок усім нам. Уласна кажучы, два ўрокі, якія далі нам нашы старэйшыя таварышы".

Не ўсё ўдалося І. Гурскаму і ў рамане "Вецер веку". Ды яго, як і апавяданні, што ўвайшлі ў зборнік "На берагах Нявы", ён не мог не напісаць: "Некаторыя з маладзейшых дзівяцца, чаму я бяруся за такія вялікія тэмы: пішу пра рэвалюцыю, пра Леніна. Для іх гэта гісторыя, літаратура, кінафільмы. А для мяне гэта маё жыццё, мая біяграфія". Бяда ў тым, што сваё жыццё, сваю біяграфію Ілья Данілавіч нярэдка, як кажуць, жыўцом пераносіў у свае творы, а гэта сказвалася на мастацкіх вартасцях іх.

Аднак напісанае, як вядома, не прападае бясследна. Частка гісторыі беларускай літаратуры — і творы І. Гурскага. І да іх яшчэ неаднойчы звяртацца даследчыкам, асэнсоўваючы шляхі развіцця нацыянальнага пісьменства. Не праміне твораў Ільі Данілавіча і чытач, які захоча даведацца пра час, у які жыў і тварыў гэты сумленны, надзіва душэўна чысты і адкрыты чалавек (а гэта сведчаць усе, хто ведаў і сустракаўся з ім), які справамі і ўчынкамі сваімі выпраменьваў дабрыню, шчодрасць, цяпло.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

маленства марыла пра квітнеючыя яблыневыя сады, пра Мічурына і яго навуку. Пасля школы, адразу паехала ў горад Казлоў, які ўжо насіў імя Мічурына, і паступіла ў пладова-гароднінны інстытут. Вучоба і далейшая навуковая праца сталі сэнсам яе жыцця. Галіна Севяр'янаўна стала выкладчыцай і прафесарам Мічурынскай акадэміі. Навуцы прысвяцілі сябе і яе два сыны.

Цяпер пенсіянерка прафесар Галіна Севяр'янаўна ад першых праталін да першага снегу разам з сынамі працуе на сваім гародзе і здзіўляе суседзяў незвычайнымі дарамі зямлі. У яе доме жыве культ Пушкіна. Яна ўспамінае: "Я з маленства ведала, што з'яўляюся адным з парасткаў дрэва Аляксандра Сяргеевіча і Наталлі Мікалаеўны, але не хвалілася і не ганарылася гэтым. Аднойчы на школьным перапынку я выйшла ў калідор і ўбачыла, што амаль уся школа выстраілася ўздоўж сцяны і ўсе ўважліва глядзяць на мяне. Чаму? Я ніяк не разумела. Толькі пасля дазналася, што ў газеце "Правда Севера" надрукаваны артыкул пра нашчадкаў Пушкіна. Там было і маё імя. Я гэта асабліва выразна адчула, як нас з мамаю запрасілі ў 1949 годзе ў Маскву на ўрачыстасці 150-годдзя з дня нараджэння Пушкіна. На вечары прысутнічаў Сталін і ўсё Палітбюро. Тады ж, як і ўсім нашчадкам Пушкіна, нам з мамаю далі дармовыя пуцёўкі ў Еўпаторыю".

Мая першая знаёмая з Пушкінскага роду — маці Галіны Севяр'янаўны пераехала з Архангельска да дачкі і адышла ў іншы свет у 1993 годзе.

Цяпер з маіх знаёмых з Пушкінскага роду жыве ў Маскве класны шафёр, такі падобны на свайго вялікага продка Саша — Аляксандр Рыгоравіч Пушкін.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*Сакавік 1999 г.*

# Уладзімір НЯФЁД

23 красавіка 1999 года пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, пісьменнік Уладзімір Іванавіч Няфёд. Імя буйнога тэатразнаўцы і тэатральнага крытыка, пісьменніка, педагога вядома далёка за межамі нашай краіны.

Нарадзіўся Уладзімір Іванавіч Няфёд 27 студзеня 1916 года ў г. Шахты Растоўскай вобласці ў сям'і рабочага. Суровы час паўплываў на жыццё вялікай сям'і, у якой было шасцёра дзяцей. Аднак бацькі імкнуліся, каб усе яны атрымалі адукацыю. Пасля школы два гады вучыўся на рабфаку пад Масквой. Пазней скончыў Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага і ў 1940 г. быў накіраваны ў Мінск, дзе працаваў ва Упраўленні па справах мастацтваў пры СМ БССР спачатку намеснікам, а потым начальнікам аддзела тэатраў.

З 1951 года да апошніх дзён жыцця Уладзімір Іванавіч працаваў у Нацыянальнай акадэміі навук: з 1954 г. — загадчыкам сектара мастацтва Інстытута літаратуры і мастацтва, з 1957 г. — загадчыкам сектара тэатра і кіно, зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, з 1977 г. — загадчыкам аддзела тэатра Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. На працягу ўсяго жыцця ён усебакова даследаваў пытанні гісторыі, тэорыі і сучаснай практыкі беларускага тэатра, праблемы драматургіі і творчасці майстроў сцэны. У. І. Няфёд надрукаваў шэраг манаграфій: "Шлях беларускага савецкага драматычнага тэатра", "Народны артыст БССР У. У. Уладамірскі", "Народны артыст СССР П. С. Малчанаў", "Беларускі тэатр. Нарыс гісторыі", "Тэатр у вогненныя гады". У першай палове 60-х гг. пабачылі свет яго кнігі: "Сучасны беларускі тэатр. 1945-1959", "Становление белорусского советского театра. 1917—1941". У 70-я гады выйшлі — "Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы", "Размышления о драматическом конфликте", "Беларускі тэатр імя Якуба Коласа". Усе гэтыя выданні выклікалі значны грамадскі рэзананс і дазволілі У. І. Няфёду стварыць абагульненую працу "Гісторыя беларускага тэатра. Вучэбны дапаможнік для тэатральна-мастацкага інстытута". Шмат сіл і здароўя аддаў Уладзімір Іванавіч для ўшанавання памяці слынных майстроў беларускага тэатра. Доўгія гады займаўся вывучэннем творчасці славутага дзеяча нацыянальнай культуры І. Буйніцкага і шмат зрабіў для адкрыцця ў Празароках помніка, а ў Празароцкай сярэдняй школе музея І. Буйніцкага. Для самога ж У. І. Няфёда вынікам шматгадовай працы стала з'яўленне кнігі "Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра". Менавіта за яе і манаграфію "Николай Ковязин. Жизнь и творчество" Уладзімір Іванавіч атрымаў прэмію імя К. Крапівы Беларускага саюза тэатральных дзеячаў у галіне тэатральнага мастацтва. У 1996 г. надрукаваў манаграфію "Францішак Аляхновіч: тэатральная і грамадска-палітычная дзейнасць".

Дзякуючы ініцыятыве і выключным арганізатарскім здольнасцям У. І. Няфёда ў 80-я гады была створана калектыўная праца "Гісторыя беларускага тэатра" ў 3-х тамах. Шмат сіл і часу аддадзена і педагагічнай дзейнасці. Немагчыма пералічыць усіх вучняў Уладзіміра Іванавіча. Гэта дактары і кандыдаты мастацтвазнаўства, рэжысёры, акцёры, мастакі, драматургі.

З 1946 г. — У. І. Няфёд з'яўляўся членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. У гэтым жа годзе ў Мінску было створана Беларускае тэатральнае аб'яднанне, дзе ён доўгі час быў старшынёй секцыі тэатральных крытыкаў.



Уладзімір Іванавіч Няфёд пражыў яркае, цікавае, змястоўнае жыццё. Ён быў надзвычай патрабавальным да сябе і іншых. Яго адкрытая, прынцыповая пазіцыя да з'яў мастацтва заўсёды выклікала павагу. Памяць аб Уладзіміру Іванавічу Няфёду назаўжды будзе жыць у сэрцах яго калег, вучняў і ўсіх, хто ведаў гэтага моцнага, таленавітага чалавека.

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**
**Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі**
**Беларуская акадэмія мастацтваў**
**Беларуская акадэмія музыкі**
**Беларускі універсітэт культуры**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**
**Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў**
**Беларускі саюз тэатральных дзеячаў**

## Памяці настаўніка

У нязвыкла цёплую красавіцкую ноч ад нас пайшоў Уладзімір Іванавіч Няфёд. Пайшоў назаўсёды.

Бог дараваў яму лёгкую смерць: спакойна заснуў, а перад гэтым пагаварыў з жонкай аб сваім жаданні раніцай прадоўжыць працу над успамінамі і ўжо — не прачнуўся...

Балюча, горка пісаць гэтыя развітальныя радкі, прысвечаныя памяці У. І. Няфёда, які стаў у маім жыцці сапраўдным Настаўнікам. Ён навучыў мяне разумець мастацтва, навучыў паважаць яго творцаў. Гэта значыць, як вучыў Уладзімір Іванавіч усіх сваіх шматлікіх вучняў (і найперш сам бескампрамісна спавядаў гэты прынцып!), творцам трэба гаварыць праўду.

Думаю, чытачам "ЛіМа" не трэба тлумачыць, наколькі складаная, цяжкая і адказная (а нярэдка і няўдзячная) для крытыка такая задача — прафесійна і сумленна аналізаваць мастацкую творчасць, даводзіць да грамадскасці сваё суб'ектыўнае меркаванне, якое пры гэтым прэтэндуе быць праўдай аб творы, з'яве, тэндэнцыі, нарэшце, аб асобе мастака. Таму і вельмі бракуе таленавітых аналітыкаў мастацтва — гэта ж колькі трэба ведаць, адчуваць, разумець, усведамляць, прадчуваць і прадбачыць аб таямніцах жыцця і творчасці.

Таму і У. І. Няфёд стаў менавіта Няфёдам, што ў яго Асобе дзіўным чынам усё гэта злучалася, зніталася — глыбокі розум, адметны талент, упарты характар, выключная працавітасць і надзвычай тонкая, паэтычная душа. Дарэчы, гэту асаблівасць сваёй натуры — паэтычнае светаўспрыманне — наш Настаўнік далікатна хаваў ад усіх і толькі ў выключных выпадках, каму шчасціла быць разам з ім у такія хвіліны, можна было ўбачыць нечаканага (і сапраўднага!) Уладзіміра Іванавіча Няфёда — крыху сентыментальнага і рамантычнага. А ўсё разам гэта і склалася ў магутную Асобу вучонага, педагога, грамадскага дзеяча, імя якога стала ўпоруч з іншымі волатамі беларускай навукі і культуры XX стагоддзя.

Уладзімір Іванавіч Няфёд пражыў вялікае, складанае, у нечым супярэчлівае, але тым не менш шчаслівае жыццё. Шчаслівае, бо яму ўдалося шмат усяго спраўдзіць са сваіх памкненняў, мар, задум.

Вядома, зямля — наш часовы прыпынак, але сапраўдныя людзі і на гэтым прыпынку імкнуцца зрабіць усё, каб іншым адчувалася лёгка, утульна, добра. У.І. Няфёд быў менавіта з катэгорыі тых сапраўдных Людзей...

Такім ён назаўсёды застанецца ў нашых узячных душах.

**Рычард СМОЛЬСКІ**

## Разам з тэатральнай эпохай

З адыходам з зямнога жыцця Уладзіміра Іванавіча Няфёда адыходзіць і цэлая тэатральная эпоха, у якой ён не проста жыў, а і актыўна яе тварыў.

У. Няфёд самы буйны гісторык беларускага сцэнічнага мастацтва. Гэтую гісторыю — ад вытокаў і да нашага часу — ён, не стамляючыся, пісаў на працягу амаль шасцідзесяці гадоў. Актыўна ўплываў на жывы тэатральны працэс, дбайна выхоўваў маладую творчую змену — акцёраў, рэжысёраў і найперш тэатразнаўцаў. Валодаючы выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі, У. Няфёд вельмі спрыяў развіццю беларускай навукі.

Мы ўсе, хто жыў і працаваў побач з Уладзімірам Іванавічам, нізка схіляем у жалобе галовы, і светлая пра яго памяць застанецца з намі назаўсёды.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

## Ніколі не здраджваў сваім прыхільнасцям

Уладзімір Іванавіч Няфёд — чалавек, які зямнымі дзеяннямі, навуковымі працамі, усім сваім жыццём увасабляе цэлую эпоху беларускага тэатральнага мастацтва. Гэта разумеюць усе, хто меў хоць нейкае дачыненне да яго таленавітай Асобы.

Прынцыпова напорысты. Адказна абавязковы. Кампанейскі душэўны. Чалавек, які меў уласны погляд на жыццё і мастацтва — такім запомніцца ён блізкім па духу людзям цяпер, такім паўстане перад будучымі пакаленнямі.

Я ўдзячны Уладзіміру Іванавічу за тое, што ён быў адным з маіх настаўнікаў, чалавекам, які ў цяжкі для мяне час, маральна падтрымаў і далучыў да свету тэатразнаўчай навукі. За тое, што ён ніколі не здраджваў сваім прыхільнасцям і як найвышэйшы дар цаніў чалавечыя адносіны.

**Рыгор БАРАВІК**

**Беларуская акадэмія мастацтваў выказвае спачуванне родным і блізкім старэйшага тэатральнага педагога, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук, доктара мастацтвазнаўства, прафесара Уладзіміра Іванавіча Няфёда з прычыны яго смерці.**

# Сцяжына ў свой лёс

Праўдаказанне па сваёй прыродзе — рэч грамадзянская. Янка Карповіч, пэўна, здагадваўся, што яго лепшыя вершы-праўдаказанні не могуць не імпанаваць мне, земляку, амаль равесніку, родам з тых жа заходнебеларускіх 30-х. Нарадзіўся Янка на Ляхаўшчыне, на серадняцкім хутарку, у 1935 годзе. Настаўнічаць выпала ў Слоніме — выкладаць рускую літаратуру і мову, аднак вершы пісаць ён мог толькі на сваёй роднай. Пераважна — "для сябе". Толькі зрэдку выходзіў на старонкі раённага друку. Янку Карповіча ўгаварыў пад'ехаць да мяне на вёску яго сын Алег, слынны мастак-карыкатурыст, журналіст ("Свободные новости"), з той жа пазіцыяй грамадзянскага праўдаказання (толькі мастацкія сродкі іншыя). Знаёмства з Карповічамі было — як судакрананне роднасных душаў і лёсаў. Янка адгарнуў перада мною ў сваім рукапісным сшытку творчую сцяжыну ў свой свет перажытага. Завалодаў маёй увагай. Я нібы апынуўся на крыжаванні сцяжын — яго і ўласна маёй — ад вогненна-бядовага маленства да трывожнага сёння. Памятны Верасень кінуў яго крэўна-дзедаўскі корань з многімі адгалінаваннямі (дзядзькамі) у закратныя снягі Сібіры. А ўслед яго, Янку (як, зрэшты, і мяне), ужо чакалі сельсавецкія спісы высялення — туды ж (сцяжыны нашых лёсаў і там крыжаваліся б!).

Цікавы момант. Здзіўленне выклікае здагадлівасць аднаго з вывезеных дзядзькоў Янкі: будучы праваслаўным, дзядзька-катаржанін запісаўся ў армію Касцюшкі — як каталік — і потым, ідучы са зброяй на захад, аплачваючы раненнем-крывёй вызваленне бацькоўскай зямлі ад акупацыйнай пошасці, усё ж дамогся таксама і вызвалення з Сібіры сваіх бацькоў, якім пашчасціла прывезці на вечны спачын свае старэчыя костачкі ў родную зямлю, на Ляхаўшчыну.

Шмат чаго з тых зломаў і заломаў дрэва свайго роду, свайго лёсу Янка Карповіч спрабуе асэнсаваць у паэтычным слове. Падкупляе лірычная грамадзянскасць стаўлення да свету, спробы пакінуць мастацкі след спазнанага, перадуманага. Не ўсюды аўтару ўдаецца надаць вартасна-высокі ўзровень радкам, дасягнуць адметнай творчай пробы ў асэнсаванні нялёгкага матэрыялу. Аднак за перарывіста-гарачым, дрыготкім словам выразна бачыцца асоба творцы, няўступная вернасць жыццёвым асновам роднай зямлі. І становіцца ўцешна ад бясспрэчных крупінак удач, знаходак, творчай самарэалізацыі яшчэ аднаго здольнага аўтара, ад яго прыязнай паплечнай прысутнасці на блізкіх сцяжынах агульнага лёсу.

**Мікола АРОЧКА**

Янка КАРПОВІЧ



## Мая Беларусь

*Ты мая белая, белая, белая,*
*Сэрцам любімая, замілаваная.*
*Самая шчырая, самая верная,*
*Родная, мілая, закаханая.*

*Ты і крынічная, ты і азёрная,*
*Ты і лясная, і журавінная,*
*Хлебам пахучая, песнямі звонкая,*
*І салаўіная, і жураўліная.*

*З чым параўнаць цябе,*
*родная, мілая,*
*Дзе яшчэ знойдзеш*
*такія мясціны?*
*Ты мая белая, сіняя-сіняя,*
*Спадчына слаўная,*
*край мой адзіны.*

## Малітва

*З глыбінь Беларусі,*
*ад самых вытокаў,*
*Наш голас малебны нясецца*
*Да самага неба, да нашага Бога,*
*Святой ён малітвай завецца.*

*З мальбою кранаемся духу Ісуса;*
*Гасподзь, уратуй Беларусь*
*Ад злое навалы,*
*пякельнага гнуса, —*
*Наш Божа, ўратуй Беларусь!*

*Народ наш спадзейку*
*вялікую мае*
*Спакон на цябе, наш Гасподзь.*
*Бо хто з найсвяцейшых*
*пра нас так падбае,*
*Як ты, наш Гасподзь.*

## Памяць сібірскага смутку

*У смутны той трыццаць дзевяты*
*Пранёсся страшны*
*плач наўзрыд:*
*Да родных ніў прыпоўз пракляты*
*"План вызвалення" — генацыд.*

*Сібір, Урал, той край паўночны,*
*Магілай стаў для многіх тых,*
*Хто быў пясняр, святар, рабочы,*
*Тых праўдалюбных і святых.*

*І злёг бы род мой да краюшкі,*
*Навекі ўтоплены ў снягах,*
*Калі б ён з войскамі*
*Касцюшкі*
*Не прабіваў на Захад шлях.*

## Адаму Міцкевічу

*Там, дзе шэпчуць хвалі Свіцязі,*
*Там, дзе пошум дрэваў-волатаў,*
*Мчацца нашы воі-віцязі*
*Засланіць свой край*
*ад ворагаў.*

*Крыжакоў, Мамая погань*
*Нішчыў, сек ліцвін-асілак,*
*Каб не жыць нам у палоне,*
*Мы кавалі сваю сілу.*

*Мы карэннямі — з ліцвінаў,*
*Нёман — наш прытулак вечны.*
*"О, Літва! Мая Айчына!" —*
*Як сардэчна і дарэчы.*

●

*Вясна раскрывае далоні*
*Суквеццем, чаруючы нас,*
*Упартыя, моцныя коні*
*Ці ўздымуць мяне на Парнас?*

*Хоць ты не асілак, ды зможаш*
*Не кволіцца ў барацьбе.*
*Нямогласць сваю пераможаш*
*І доля ўсміхнецца табе.*

*Дзень добры, жыццё —*
*ты — дарунак,*
*Ды ў заўтра не просты мой шлях,*
*А праца мне будзе —*
*ласунак,*
*О Божа! Дай сілы узмах.*

# "Яго міласці рэктару..."

## НЕВЯДОМЫЯ АЎТОГРАФЫ Максіма ГАРЭЦКАГА

З магутнай кагорты беларускіх культурных і палітычных дзеячаў XX стагоддзя знойдзецца не адзін дзесятак асоб, лёс якіх пазначыла кароткае, але такое ёмістае слова — Вільня. Не выключэнне гэта і ў дачыненні да патрыярха беларускай нацыянальнай літаратуры, філосафа і вучонага Максіма Гарэцкага.

Віленскі перыяд жыццёвай і творчай біяграфіі пісьменніка багаты на факты і падзеі. Адны з іх больш вядомыя і дастаткова глыбока асэнсаваны, іншыя — менш. Паасобныя да сённяшніх дзён захоўваюць архіўныя сховішчы Вільні, Мінска, Масквы...

У Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы ў Вільні зберагліся унікальныя фонды Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі за 1921—1939 гг. У іх больш за 1000 дакументаў. Матэрыялы гэтыя, на жаль, да сённяшняга дня даследчыкамі, у тым ліку і беларускімі навукоўцамі, гісторыкамі і культуролагамі, фактычна не выкарыстоўваліся. А яны — першакрыніца для асэнсавання і ўсведамлення сутнасці і ролі праваслаўя ў беларускім палітычным, культурным і рэлігійным жыцці. Такія матэрыялы не менш важныя і для аднаўлення жыццярысаў беларускіх праваслаўных святароў і культурных дзеячаў. Найлепшым сведчаннем таму — цэлы шэраг нечаканых знаходак. А перад усім — асабістая справа настаўніка Максіма Гарэцкага з калекцыі асабістых спраў выкладчыкаў Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі за 1921—1930 гг. У ёй захаваліся толькі два аркушы. Але гэта не проста — дакументы часу. Гэта аўтографы пісьменніка і педагога, драматычнае жыццё і літаратурна-навуковая дзейнасць якога прайшлі ў служэнні беларускаму народу і Бацькаўшчыне-Беларусі.

Біёграфам жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага, зрэшты, як і літаратуразнаўцам, факт яго педагагічнай працы ў Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі невядомы. А між тым ён істотна пашырае і ўдакладняе тыхчасовыя біяграфічныя звесткі пра пісьменніка ў адзін з пераломных перыядаў яго жыццёвага шляху.

Апошнія гады віленскай адысеі Максіма Гарэцкага былі асабліва напружанымі. І для самога пісьменніка, і для яго родных. Пачынаючы ад арышту ў студзені 1922 года і да выезду напрыканцы кастрычніка 1923 года ў Савецкую Беларусь. У такіх складаных варунках Гарэцкі, аднак, паранейшаму плённа шчыраваў і на літаратурна-выдавецкай, і на педагагічнай ніве. У тым ліку і ў Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі, дзе з 16 кастрычніка 1922 года працаваў на пасадзе выкладчыка беларускай мовы. Амаль цэлы год — да 1 кастрычніка 1923-га. Развязка наступіла нечакана. У заяве ад 17 верасня таго ж года на імя айца рэктара духоўнай семінарыі Максім Гарэцкі ў катэгарычнай форме паінфармаваў: "Пасля ўчынку, які зрабіла сёння адміністрацыя семінарыі ў адносінах да Беларускае гімназіі, я не магу ўжо быць вучыцелем у семінарыі і прашу разлічыць мяне".

Пакуль што застаецца нявысветленым, што выклікала абурэнне і такі рашучы пратэст Максіма Гарэцкага. Між тым вышэйшыя ўлады і адміністрацыя семінарыі толькі на пачатку кастрычніка задаволілі просьбу выкладчыка.

Наперадзе чакала яшчэ адно развітанне — з Вільняй.

**Юрась ГАРБІНСКІ**
*Варшава, Польшча*

**Аўтограф першы:**

Яго Высокапрападобію
Айцу Рэктару
Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі
Вучыцеля Сэмінарыі
Максіма Гарэцкага
*Рапорт.*

Маю гонар давесьці да Вашага ведама, што я ўжо з одпуска вярнуўся і магу прыступіць да спаўненьня сваіх вучыцельскіх абавязкаў у Сэмінарыі.

**М. Гарэцкі**
*5/III 1923.*

**Аўтограф другі:**

Яго Міласьці
Рэктару
Віленскае Праваслаўнае Сэмінарыі
Максіма Гарэцкага,
вольнанаёмнага вучыцеля,
*Заява.*

Пасьля ўчынку, які зрабіла сяньня адміністрацыя Сэмінарыі ў адносінах да Беларускае Гімназіі, я не магу ўжо быць вучыцелем у Сэмінарыі і прашу разьлічыць мяне.

**М. Гарэцкі**
*17.IX.1923.*

І ПРА НАС...

# Лекі ад насмарку

***Лімаўскі чытач памятае, вядома ж, рубрыку "Литературной газеты" "Калі б міністрам быў я..." Логіка развіцця рубрыкі змусіла рэдакцыю звярнуцца з гэтым пытаннем да чалавека, які ўжо займаў міністэрскі пост, — да першага міністра культуры Расіі, цяпер мастацкага кіраўніка Малога тэатра Юрыя Саломіна. Акурат яго карэспандэнт "ЛГ" папрасіў на некалькі хвілін вярнуцца ў кіраўнічае крэсла міністра культуры. І вось што сказаў Ю. САЛОМІН:***

— На культуру, медыцыну і асвету трэба зараз кінуць усё, што ёсць, бо эканоміку без гэтага ўратаваць нельга. Культурай павінен кіраваць чалавек, які знаходзіцца ў рангу віцэ-прэм'ера ці прэм'ер-міністра, — толькі на гэтым узроўні можна вырашыць нашы складаныя пытанні. Вось вы як-небудзь спытайце ў Прымакова, Маслюкова ці хоць бы ў Задорнава, што б яны рабілі, калі б іх прызначылі міністрам культуры... Сённяшняму міністэрству патрэбна цэнтралізаваная ўладная вертыкаль. яе няма, таму яно не можа вырашаць мясцовыя пытанні. І лепшыя кадры з цэнтра ніколі не паедуць працаваць на перыферыю, бо ніхто не можа ім гэта загадаць. Я за тое, каб, скажам, галоўных рэжысёраў мясцовых тэатраў зацвярджалі ў Маскве, у Міністэрстве культуры.

Сам я ніколі ў жыцці не пагаджуся вярнуцца ў крэсла міністра. Я ж творчы чалавек, у мяне тэатр, каля 800 чалавек штату, дзве пляцоўкі, 2000 гледачоў штодзённа. Гэта і без таго вялікая адказнасць. І потым, калі гаварыць шчыра, гады ідуць, а столькі роляў яшчэ не сыграна... Часам гэтак хочацца абстрагавацца ад адміністрацыйных праблем!

І ўсё-такі я лічу, што міністрам павінен быць творчы чалавек. Многія, вядома, успамінаюць Фурцаву, стопрацэнтнага функцыянера, але пры гэтым добрага міністра. Аднак Фурцава — выключэнне, яна была таленавітым чалавекам. Гэта зусім не азначае, што любая ткачыха ці кухарка таксама будзе добрым міністрам. Усё-такі чыноўнік такога ўзроўню павінен быць прафесіяналам. Я ж, артыст Юрый Саломін, не пнуся быць доктарам! Хоць, напрыклад, вам, малады чалавек, магу параіць добрыя лекі ад насмарку.

**Запісаў**
**Вадзім ШАМСУЛІН**

*("Литературная газета", 31.III.99, N 13 (5738)*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня
"Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3795
Нумар падпісаны ў друк 29.4.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2019Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12